ЛіМ
Літаратура і мастацтва

# Для вас, душою чулых...

## Я жыву

*Вільготны змрок спаўзае на лугі,*
*І гасне захаду журботная усмешка.*
*Паволі ноч у полагу смугі*
*Зямлі і неба засціць берагі*
*І туліцца ў траве знямелага узмежка.*

*Так боязна знікае краявід,*
*Хаваецца ў імгле пад наміткай цямранай.*
*Разложыстых дубоў шырокі шчыт*
*Маўклівасцю трывожна апавіт,*
*І вее парнасцю над стомленай палянай.*

*Прыцішыўся спалохана абшар,*
*І толькі птушка дзесь скаголіць на балоце.*
*А з поўдзеня ўстае грамада хмар,*
*Паблісквае клубясты іх гушчар,*
*Гарыць і грозіцца ў агністай пазалоце.*

*Такі спакой вакол, і трудна мне*
*Адвесці зрок ад хмар, дзе ўспыхваюць зарніцы,*
*Як быццам там, у нейкім цёмным дне,*
*Хтось збудзіцца на міг, на свет зірне*
*Прываблівым узлётам таямніцы.*

*Я зачараваны маўчу, стаю*
*У чарах цішыні і чарамі сагрэты,*
*І ў тон адзін з зямлёю я пяю,*
*І кожны міг сябе я пазнаю*
*Часцінкай злітаю вялікага сусвету.*

*1937 г.*




*Фота прадастаўлена Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа.*

**Васіль Быкаў:**
**“Дарагі Колас! Я не бачыў цябе ніколі пры жыцці, але ты запаліў ва мне агеньчык характва, і вечнае за гэта дзякуй! Дзякуй табе за маё кніжнае дзяцінства і за твой народны і вельмі чалавечы талент”.**

## Пункцірам

✔ На гэтым тыдні Беларусь наведаў міністр культуры і інфармацыі Рэспублікі Сербія Брацiслаў Петкавіч. Падчас візіту была падпісана Праграма супрацоўніцтва на 2012 — 2017 гады ў галіне культуры і мастацтва паміж Міністэрствам культуры Беларусі і Міністэрствам культуры і інфармацыі Сербіі. Праграма прадугледжвае развіццё кантактаў паміж краінамі ў сферы музычнага і тэатральнага мастацтва, кінавідэамастацтва, бібліятэчнай, музейнай справы і выставачнай дзейнасці, аховы гісторыка-культурных каштоўнасцей і інш.

✔ Да 75-годдзя Беларускай дзяржаўнай філармоніі прымеркаваны гастролі Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі пашырaным складам пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Расіі Яўгена Бушкова, якія праходзяць у Італіі з 1 па 10 лістапада. Галоўны канцэрт тура адбудзецца ў Мілане, у легендарнай зале Кансерваторыі імя Джузэпе Вердзі. Салісткай падчас турнэ выступіць піяністка, народная артыстка СССР Элісо Вірсаладзэ.

✔ Форум кіраўнікоў нацыянальна-культурных супольнасцей Беларусі і Літвы пройдзе ў Вільнюсе 9 — 11 лістапада. Мяркуецца, што падчас форуму Аб'яднанне беларусаў Літвы і Кансультатыўны міжэтнічны савет пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей падпішуць праграму супрацоўніцтва на 2013 — 2014 гады. На вясну наступнага года такая ж сустрэча запланавана ў Латвіі.

✔Творчыя калектывы Беларусі, а таксама іх расійскія калегі ў межах праграмы па супрацоўніцтве арганізуюць у розных гарадах Расіі сумесныя мерапрыемствы з нагоды 130-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Шэраг выставак, прымеркаваных да юбілею класіка, працуе таксама ў музеях Вільнюса і Варшавы.

✔ Дні культуры Беларусі завяршыліся ў Літве. Як зазначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын, такія акцыі "жыхары Літвы заўсёды чакаюць і сустракаюць традыцыйна цёпла. <…> Дні культуры спрыяюць далейшаму пашырэнню міжкультурнага дыялогу паміж нашымі краінамі, а таксама прэзентацыі Беларусі ў Літве".

✔Сёння ў Вялікай зале Палаца Рэспублікі ўрачыста адкрыецца Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад-2012". Адзін з ганаровых гасцей свята — Карэн Шахназараў, генеральны дырэктар кінаканцэрна "Масфільм", член праўлення Саюза кінематаграфістаў. Сярод гасцей таксама — Генадзь Гарбук, Анатоль Голуб, Вадзім Галыгін, Лінда Нігматуліна, Эмануіл Вітарган, Гоша Куцэнка ды іншыя.

✔ На рэстаўрацыю Быхаўскага замка плануецца выдаткаваць з рэспубліканскага бюджэту паўтара мільярда беларускіх рублёў. У бліжэйшы час будзе праведзена абследаванне замка і пачнуцца археалагічныя раскопкі на тэрыторыі адзінага горада-крэпасці пачатку XVII стагоддзя, які захаваўся ў Беларусі.

**Падрыхтавала Тацццяна МАСТОЎСКАЯ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Свята працягваецца

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбыўся творчы вечар, прысвечаны 75-годдзю старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца.

**Кіра МУРАЎСКАЯ, фота Кастуся Дробава**

Сярод ганаровых гасцей прысутнічалі: першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, старшыня ЦВК Беларусі Лідзія Ярмошына, першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі, прадстаўнікі Нацыянальнай акадэміі навук нашай краіны, а таксама супрацоўнікі пасольстваў, кіраўнікі вышэйшых навучальных устаноў, баявыя сябры і калегі па пяры. Канцэрт для юбіляра наладзілі вядучыя майстры айчыннай сцэны: Анатоль Ярмоленка, Эдуард Ханок, Алег Елісеенкаў, Аляксандр Саладуха, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Ірына Дарафеева, гурт "Чысты голас" ды іншыя. Юбіляр і сам браў актыўны ўдзел у імпрэзе: з гумарам адказваў на запіскі з залы, распавядаў цікавыя жыццёвыя гісторыі.



*Мікалая Чаргінца віншуюць Уладзімір Грозаў і айцец Веніямін.*

Урачыстым момантам вечарыны стала ўганараванне М. Чаргінца самай высокай узнагародай Беларускай Праваслаўнай Царквы — ордэнам Крыжа Прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Да таго ж, дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў і епіскап Барысаўскі Веніямін, вікарый Мінскай епархіі, уручылі Мікалаю Іванавічу факсімільнае выданне "Жыція Еўфрасінні Полацкай", якое ён падарыў сваёй унучцы — гэтая рэліквія будзе захоўвацца ў сям'і і перадавацца наступным пакаленням.

Урэшце, усе прысутныя сышліся на тым, што М. Чаргінец — зʼява ў айчыннай літаратуры нашага часу і яго дзейнасць назаўжды застанецца ў беларускай гісторыі.

## Незабыўнае

# «МНЕ НЕ ХОЧАЦЦА ПАКІДАЦЬ ВАС...»

Каб наведаць усе коласавы мясціны на Стаўбцоўшчыне, спатрэбіцца некалькі дзён... Прынамсі, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў прызнаўся, што некалі, рыхтуючы рэпартаж для маскоўскага радыё, правёў тут амаль тыдзень. Пісьменніцкай дэлегацыі быў адведзены толькі адзін дзень. 26 кастрычніка творцы прайшлі шляхамі Коласа: Стоўбцы — Акінчыцы — Альбуць — Смольня — Мікалаеўшчына (паўсюдна сустракалі іх з песняй і пачастункам супрацоўнікі філіялаў, мясцовыя калектывы ды школьнікі), а напрыканцы вандроўкі завіталі ў Стары Свержань, каб разам з мясцовымі жыхарамі паслухаць радкі Коласа ў выкананні



*Намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі пакідае запіс у кнізе ганаровых гасцей у Акінчыцах.*

вядомых беларускіх артыстаў, а пасля і праспяваць усім разам "Мой родны кут..."

Якуб Колас прамаўляў: "Я — часовы вандроўнік... Я так моцна звязаны з жыццём, што мне не хочацца пакідаць вас..." Дзякуючы ўдзелу сваякоў прысутнасць дзядзькі Якуба напоўніцу адчувалася на рэспубліканскім свяце паэзіі "О Беларусь, ты сэрца і душа...". Яны віталі гасцей на сядзібах, распавядалі пра свае стасункі, на канцэрце ў Доме культуры Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч прачытаў урывак з "Новай зямлі" — так, як, напэўна, не здолее выканаць ніводзін артыст...

Радасцю спаткання з Песняром на яго зямлі хочацца дзяліцца з усёй краінай. Наведаць гэтыя мясціны варта кожнаму беларусу, каб адчуць, што сапраўдны пісьменнік назаўжды застаецца са сваім народам.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

## Выстаўкі

# Герой Чайкоўскага

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка "Піліп Орлік — аўтар першай украінскай канстытуцыі", прысвечаная 340-годдзю з дня нараджэння галоўнага героя ўрачыстасці.

Аматары оперы, якія неаднаразова слухалі "Мазепу" Пятра Чайкоўскага, відаць, памятаюць героя гэтага твора — Орліка. Верны слуга гетмана, ён асабіста дапытвае Качубея, а ў фінале разам з Мазепам збягае ў выгнанне. За асобай опернага злодзея, чые ўчынкі не знайшлі пацвярджэння ў гістарычнай літаратуры, хаваецца… наш суайчыннік, які шмат зрабіў для ўкраінскай зямлі.

Ураджэнец вёскі Касута сучаснага Вілейскага раёна, ён у маладосці пераехаў ва Украіну, служыў у гетманскай канцылярыі і ўрэшце заняў пасаду генеральнага пісара. У эміграцыі, пасля смерці Мазепы, Орлік быў абвешчаны гетманам Правабярэжнай Украіны. У 1710 годзе ён абвясціў "Пакты і Канстытуцыю законаў і вольнасцей Войска Запарожскага", якія атрымалі назву "Канстытуцыя Піліпа Орліка". Яе часам лічаць першай у свеце канстытуцыяй, створанай раней за адпаведныя дакументы ў ЗША (1787), Рэчы Паспалітай (1791) і Францыі (1791).

У "Канстытуцыі Орліка" ўпершыню ўлада падзялялася на заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

На выстаўцы прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя сямнаццаці гетманам Украіны, а таксама фотаматэрыялы пра дзейнасць украінскай грамадскасці па ўвекавечанні памяці Піліпа Орліка на яго гістарычнай радзіме. У прыватнасці, у вёсцы Касута знаходзіцца валун з адпаведнай мемарыяльнай дошкай. А ў Вілейцы ў гонар Орліка названа адна з вуліц горада.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

## Стасункі

# Беларуская соль рускай зямлі

Менавіта так ахарактарызаваў кіраўнікоў беларускіх дыяспар у Расіі Валерый Казакоў, старшыня Савета Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі, на нарадзе грамадскіх аб'яднанняў беларусаў, якія дзейнічаюць у Расійскай Федэрацыі. Дарэчы, гэта была адна з першых нарад, якую правёў новы пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка.

**Тацццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Адкрываючы нараду, пасол зачытаў віншаванне з 60-годдзем Валерыю Казакову ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. У ім высока ацэнена дзейнасць юбіляра: "Дзякуючы ў тым ліку і Вашым намаганням нацыянальная культурная аўтаномія ўзбагацілася новымі формамі работы, стала адыгрываць больш прыкметную ролю ў грамадскім жыцці Расіі". Тасама шэраг кіраўнікоў рэгіянальных аб'яднанняў былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі і падзячнымі лістамі Міністэрства культуры Беларусі і Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Праўда, на нарадзе было ўзнята і нямала хвалюючых пытанняў, сярод якіх — самаідэнтыфікацыя ды згуртаванасць беларусаў, матэрыяльнае забеспячэнне дзейнасці дыяспары. Невыпадковы ўдзел і намесніка Дзяржаўнага сакратара — члена пастаяннага Камітэта Саюзнай Дзяржавы Івана Бамбізы: беларусы, якія пражываюць у Расіі, маглі б актыўна ўключыцца ў стварэнне Саюзнай дзяржавы і садзейнічаць распаўсюджанню праўдзівай інфармацыі пра Беларусь. Бо, як адзначыў Іван Міхайлавіч, "за Уралам інфармацыі пра Беларусь вельмі мала".

Акрамя таго, у пасяджэнні ўзялі актыўны ўдзел, расказалі пра зробленае і выступілі з прапановамі і планамі прадстаўнікі Беларусі — Іван Крук, рэктар Інстытута культуры Беларусі, Міхась Рыбакоў, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур, Герман Артамонаў, галоўны інспектар упраўлення міжнародных сувязей Міністэрства адукацыі Беларусі, і Вадзім Шчэрбіч, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі.

## Спяшайцеся выпісаць "ЛіМ"!



*Для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 15 800 руб.**
Падпісны індэкс — 63856
*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 32 699 руб.**
Падпісны індэкс — 638562
*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*
**1 месяц — 9 700 руб.**
Падпісны індэкс — 63815
*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 24 207 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

Літабсягі

# Для ўсіх узростаў

Пахадзіць сцежкамі Песняра, убачыць прыгажосць краю вачыма майстра, паспрабаваць адчуць тое, што перажываў чалавек, захоплены цудоўнымі краявідамі, шмат гадоў таму, і даведацца пра гісторыі, якія з ім здараліся, можна разам з кнігай Браніслава Зубкоўскага "Сцежкамі Якуба Коласа".



Ілюстрацыя да апавядання "Сапсаваны настрой".

**Ірына ТУЛУПАВА**

Кніга выдадзеная ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" ўвосень 2012 года. Як піша ў прадмове пісьменнік і краязнавец Алесь Карлюкевіч, "Браніслаў Аляксандравіч у засваенні коласаўскіх матэрыялаў выбраў два шляхі. Першы — падрыхтоўка і публікацыя гісторыка-дакументальных матэрыялаў. Другі — мастацкія нарысы і апавяданні пра Якуба Коласа на Пухавіччыне, адрасаваныя дзецям. І калі першы шлях, першы кірунак — справа, да якой спрычыніліся многія, то ў апавяданнях пра паэта Браніславу Зубкоўскаму няма роўных!"

Насамрэч, апавяданні вельмі лёгкія для ўспрымання, з уласцівай аўтару адметнай стылістыкай, насычаныя малавядомымі альбо зусім не вядомымі фактамі з жыцця Якуба Коласа. Браніслаў Зубкоўскі цяпер жыве ў Мар'інай Горцы. Як скрупулёзны даследчык, вандраваў па Пухавіччыне, па тых мясцінах, дзе бываў у розныя гады Якуб Колас, гутарыў з людзьмі, што памяталі класіка і яго прыезды ў гэты куточак Беларусі. Уражаны ўбачаным і пачутым, аўтар стварыў арыгінальны цыкл апавяданняў для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту. Але кніга цікавая і сталаму чытачу: вабіць яе сакавітая мова, рэальнасць сітуацый ды пазнавальнасць асяроддзя. Аб'ёмам у 86 старонак, у мяккім пераплёце і з чытэльным (не здробненым!) шрыфтам яна нагадвае першыя кніжкі дзяцінства, і з'яўляецца сапраўдным узорам класічнага мастацкага афармлення. Ілюстрацый у кнізе шмат: яны становяцца добрым дадаткам да фантазіі чытача, якая ў апісанні прыроды, з'яў і рэчаў узнаўляе ў памяці карціны сялянскага жыцця (мастак Віталь Дударэнка).

Чытач зможа даведацца, чаму "Загібелька лепш Парыжа", "Хто ластавак напужаў", якое бывае "Хатняе заданне на вясну" і наколькі смачныя "Аладкі з яблыкамі"; прачытае, "Як баравікі на пнях выраслі"; даведаецца, як паводзіць сябе "Перакормленая рыба" і што такое "Сямейная рэліквія" — словам, спазнае ўсе "Сакрэты без сакрэтаў". Дзякуючы гэтаму да 130-годдзя Якуба Коласа атрымалася ўнікальная кніга, якая дазваляе па-новаму зірнуць на асобу класіка беларускай літаратуры і нанова здзівіцца, як утульна і прыгожа пачувае сябе чалавек на ўлонні прыроды.

Дарэчы, у сённяшнім "ЛіМе" на старонцы прозы вы сустрэнеце два апавяданні Браніслава Зубкоўскага, адрасаваныя дзецям.

Арт-лінія

# Паводле напісанага

Мастацкая выстаўка, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння вялікіх беларускіх пісьменнікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа, запрашае ў мінскі Палац мастацтва.



С. Федарэнка. К. Міцкевіч з кнігай. Палатно, алей. 1982.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Немагчыма ўявіць сабе вобраз Беларусі без літаратурных песняроў нашай зямлі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Асобы Купалы і Коласа, героі іх твораў сталі для пасляваеннага мастацтва адным з асноўных сюжэтных кірункаў. Гэта выстаўка — удалая спроба ўвекавечыць жыццёвы і творчы шлях геніяў беларускай літаратуры.

У экспазіцыі прадстаўлена невераґодная колькасць твораў. Больш як сто работ змогуць убачыць і ацаніць наведвальнікі выстаўкі. Гэта жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва з фондаў Беларускага саюза мастакоў, дзяржаўных літаратурна-мемарыяльных музеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Сваё слова ў гонар класікаў сказалі беларускія мастакі не толькі старэйшага пакалення, але і моладзь.

Прадстаўнікі сучаснага мастацтва наноў разглядаюць складаны і трагічны жыццёвы шлях Янкі Купалы і Якуба Коласа. Усе яны па-рознаму падыходзяць да раскрыцця купала-коласаўскай тэматыкі. Таму кожны твор, прадстаўлены ў экспазіцыі, па-свойму незвычайны. Гэта партрэты пісьменнікаў, ілюстрацыі з літаратурных твораў, пейзажы родных мясцін Купалы і Коласа, афішы тэатральных пастановак. Абапіраючыся на дакладнасць гістарычных і этнаграфічных звестак, кожны стварыў мастацкі вобраз праз уласнае бачанне. У выніку з'явіліся складаныя асацыятыўныя рашэнні.

Узоры графікі, жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, крыніцай якіх сталі вобразы, створаныя ў свой час Янкам Купалам і Якубам Коласам, спадзяёмся, нададуць імпульс натхнення новаму пакаленню мастакоў.

Повязі

# Запрашэнне ў «Меліхава»

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Выстаўка "А. П. Чэхаў. Лінія жыцця" з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея-запаведніка А. П. Чэхава "Меліхава" (Расійская Федэрацыя) адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Пальму першынства сярод драматургаў, творы якіх найчасцей ставяцца на сцэнах свету, падзяляюць Шэкспір і Чэхаў. Таму нельга не скарыстаць магчымасць наведаць выстаўку, якая падрабязна распавядае пра этапы жыцця генія: дзяцінства і юнацтва, універсітэцкія гады, уваходжанне ў свет літаратуры… Інтэр'ер гандлёвай лаўкі П. Чэхава ў Таганрогу, пейзажы, напісаныя членамі сям'і, фрагмент сямейнага радаводу, нявыдадзеная п'еса "Безотцовщина", створаная Чэхавым у гады вучобы ў гімназіі, пахвальны ліст за подпісам апекуна Талежскага вучылішча, які будучы драматург атрымаў у 1896 годзе, прылады ўрача, якімі карыстаўся, і спецыяльная літаратура (брашура "Холера. Предупреждение, быстрое и верное лечение средствами гомеопатии" і інш.), афіша спектакля "Чайка", пасля прэм'еры якога Антон Паўлавіч запісаў сабе: "Не трэба пісаць п'ес" (спектакль быў прымеркаваны да бенефісу вядомай камічнай актрысы, публіка чакала камедыю і не ўспрыняла твор). Шмат цікавых фактаў: сродкі ад пастановак яго п'ес аматарскім Серпухаўскім тэатрам пайшлі на пабудову земскай школы. Калі б не ссылка на востраў Сахалін, ён мог застацца для нас яшчэ і вядомым лібрэтыстам.

Значнае месца займае экспазіцыйны блок, прысвечаны Меліхаву, — менавіта тут за сем гадоў жыцця Антон Паўлавіч напісаў больш як сорак твораў, сярод якіх "Палата № 6", "Остров Сахалин", "Дом с мезонином", "Мужики", п'есы "Дядя Ваня" і "Чайка". Сядзіба, у якой Антону Паўлавічу так плённа працавалася ("писать вне дома в скором времени не мог" — з ліста да Марыі Чэхавай), стала яго музеем.

На ўрачыстым адкрыцці выстаўкі прагучалі выступленні прадстаўнікоў Міністэрства культуры Маскоўскай вобласці, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, генеральнага дырэктара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея-запаведніка А. П. Чэхава "Меліхава" Канстанціна Бабкова (у відэазапісе), беларускіх даследчыкаў творчасці расійскага пісьменніка і інш.




Дырэктар ДМГБЛ Лідзія Макарэвіч выказала спадзяванне, што і наведвальнікі "Меліхава" ў хуткім часе атрымаюць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з беларускімі творцамі, спадчыну якіх захоўваюць музейныя фонды.

З-пад пяра

Літаратурна-музычную вечарыну "Купала і Колас — наш гонар, сумленне і слава", прымеркаваную да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры, зладзілі ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Удзел у мерапрыемстве ўзялі рэдактар аддзела часопіса "Маладосць" паэтэса Віка Трэнас, паэтэса Ганна Дусь і дырэктар-мастацкі кіраўнік тэатра "Зніч" Галіна Дзягілева, у выкананні якой прагучаў эпізод са спектакля "Мне сняцца сны аб Беларусі…" Музычную частку праграмы склалі песні "Спадчына" і "Мой родны кут", якія прагучалі ў выкананні супрацоўніцы залы краязнаўчай літаратуры Алены Мычко ў фартэпіянным суправаджэнні канцэртмайстра дзіцячай музычнай школы № 4 Марата Нікіціна.

**Дзмітрый СКУБІЛАЎ**

Пастаянны Камітэт Саюзнай дзяржавы запрашае далучыцца да стварэння літаратурнага "Моста Сяброўства". "Мост Сяброўства" — гэта міжнародны конкурс, які мае на мэце адкрыць новыя імёны ў літаратуры.Удзел у конкурсе могуць узяць маладыя беларускія і расійскія літаратары ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў. Да разгляду прымаюцца творы малых літаратурных форм — апавяданне, нарыс, эсэ, якія не друкаваліся раней. Ад аднаго ўдзельніка — адзін твор, напісаны на беларускай або рускай мове. Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 15 лістапада. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці на сайце www.soyuz.by.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

Да знамянальнай даты — 100-годдзя з дня нараджэння Ю. Пшыркова — у ЦНБ НАН Беларусі арганізавана юбілейная экспазіцыя "Руплівы даследчык літаратурнай спадчыны", якая дае ўнікальную магчымасць зазірнуць у творчую майстэрню вучонага, літаратара, педагога, пазнаёміцца з рэдкімі, цікавымі дакументамі і фатаграфіямі з яго асабістага фонду, эпісталярыем, што налічвае больш як 200 адрасатаў, багатай рукапіснай і друкаванай спадчынай. Фонд Ю. Пшыркова налічвае амаль паўтары тысячы адзінак захавання за 1861 — 1983 гг., у якіх утрымліваюцца надзвычай цікавыя матэрыялы, што адлюстроўваюць яго біяграфію, творчую і службовую дзейнасць. Яны ўводзяць у свет яго захапленняў, знаёмяць з калекцыямі персаналій, аўтографаў, якую складаюць сабраныя вучоным з розных крыніц арыгінальныя творы пісьменнікаў, лісты. Выклікае цікавасць эпісталярная спадчына Ю. Пшыркова, а таксама фатаграфіі, у тым ліку вучоных, пісьменнікаў, артыстаў.

**Марына ЛІС**

Да 130-годдзя класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч" падрыхтаваў паводле паэмы "Новая зямля" паэтычна-драматычны монаспектакль "Крэсёнцы жыцця", які адбудзецца 5 лістапада а 19-й гадзіне ў Малой зале Белдзяржфілармоніі. Аўтар інсцэніроўкі і рэжысёр-пастаноўшчык — Галіна Дзягілева. Выканаўца — Алесь Кашпераў. У спектаклі гучаць народныя мелодыі і песня кампазітара Алега Залётнева.

**Кацярына НІКІШЫНА**

# Яшчэ адзін любімы кут

Толькі што я вярнуўся з майстэрні вядомага скульптара, народнага мастакаБеларусі Івана Міско. Ён закончыў мемарыяльную шыльду Якубу Коласу, якая ў юбілейныя дні будзе ўсталявана ў Вільнюсе. Цяпер жа даводзіць да ладу другую — ужо не з бронзы, а з граніту — памятную дошку Песняру, са словамі: “У гэтым доме ў 1953 — 1956 гг. неаднаразова спыняўся народны паэт Беларусі Якуб Колас”.

**Вячаслаў РАГОЙША**

Шыльда павінна з’явіцца на сцяне адной з хат у невялікай вёсцы Палачанка Валожынскага раёна. Дагледжаная хата гэта з прыгожым палісаднікам стаіць ускрай вёскі на невялікім пагорку пры заасфальтаванай дарозе, ля якой крыху зводдаль асталявалася ажно пяць вялікіх дзіцячых летнікаў. Значыць, будзе каму не толькі яшчэ раз згадаць славутую асобу Песняра і яго творчасць, але і прасякнуцца пачуццём гордасці за мясціны, дзе прайшоў летні адпачынак. Не раз тут прыпыняцца і турыстычныя аўтобусы, якіх усё больш заўважаецца штораз на дарогах Валожыншчыны.

Як жа трапіў у Палачанку Якуб Колас?

Аўтара “Новай зямлі” даволі часта бачылі на Ракаўшчыне з пачатку 1950-х гг. і да самай яго смерці ў жніўні 1956 г. Мой бацька Пётр Іосіфавіч, у тыя гады рахункавод мясцовага калгаса, расказваў, як сустрэўся з Канстанцінам Міхайлавічам у бузуноўскага кавaля Букіны (вёска Бузуны знаходзіцца за 5 км ад Ракава). Народны паэт прасіў тады кавaля выкаваць яму невялікую сякерку, каб з ёй зручна было хадзіць у лес. Пазней, як казаў бацька, Якуб Колас не толькі добра заплаціў за работу (ажно 100 рублёў “адваліў”!), але і стаў браць да сябе ў Мінск у якасці хатняй прыслугі кавалёвых дачок. “Возьме, а праз некаторы час замуж выдасць, пры гэтым пасаг добры дасць… Так іх і вывеў у людзі”.

Хочацца прывесці тут і словы-ўспаміны заслужанага артыста Беларусі, колішняга дырэктара Віцебскага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Рыгора Шацькі, які родам з Ракава. Карэспандэнт “Звязды” сустрэўся з ім у 2001 годзе, калі тэатру споўнілася 75 год. Да свайго юбілею тэатр паставіў спектакль “Зямля” паводле славутай “Новай зямлі”. У спектаклі Рыгор Шацька выконваў галоўную ролю. Вось невялікі ўрывак з газетнага інтэрв’ю:

“*Карэспандэнт*: Досыць сімвалічна: дырэктар тэатра імя Якуба Коласа іграе самога Якуба Коласа.

*Р. Шацька*: Многія сцвярджаюць, што я вельмі падобны да яго.

*Карэспандэнт*: Сапраўды, магу пацвердзіць!

*Р. Шацька*: Я пачаў дапытвацца ў сваёй радні, у бабуль-дзядоў, чаму так. Бацька расказаў: Колас кожную раніцу калісьці заходзіў да майго дзеда — у яго была дача ў Палачанцы пад Мінскам, а хутар майго дзеда знаходзіўся побач. Дзед трымаў 40 калод пчол — кожную раніцу Колас заходзіў, ласаваўся мёдам, выпіваў чарачку самагонкі… Нават ёсць у яго радкі:

*І Шацька мёдам пачастуе,*
*І чарку поўную нальe…*

Гэта пра дзеда… Дарэчы, дужа не любіла Коласа мая бабуля — таму што “зранку спорціць чалавека, а сам пайшоў у бярэтцы сваёй” (смяецца)” (“Звязда”. 2001. 21 лістапада).

Не станем высвятляць, дзе тут праўда, а дзе мастацкі домысел. Сапраўды, недзе ў 1953 годзе Якуб Колас наняў пад лецішча ў суседняй з Ракавам Палачанцы хату калгасніка Мікалая Фёдаравіча Букрэя (1916 — 1983). Хату тады толькі што пабудавалі. Радавалі вока светлая дранка страхі, свежапагабляваная падлога, жоўтавасковыя сцены, што прыемна пахлі жывіцай. Паэт папрасіў гаспадароў не тынкаваць, не абклейваць сцены, не фарбаваць падлогу і вокны, пакінуць усё ў натуральным выглядзе. Яны ўлічылі просьбу. Жылі самі ў старой хаціне, а ў новы дом перабіраліся толькі восенню, калі кватаранты з’язджалі ў Мінск. Там зімавалі, нічога не змяняючы, а летам зноў саступалі месца раднi паэта.

А леталі тут некалькі гадоў падрад сем’і сыноў Якуба Коласа Данілы і Міхася. Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч у размове са мной прыгадаў, што яго бацька прыязджаў у Палачанку “наведаць унукаў” (“звычайна з дзецьмі заставалася ці мая жонка, ці маці жонкі Даніка. Там жа летаваў і сын Ф. Фёдарава Андрэй”). Якуб Колас любіў хадзіць па лесе, збіраць не толькі летнія, але і асеннія грыбы (зялёнкі, падзялёнкі), якіх у тыя часы “было тут процьма”. Дый да гэтага часу палачанкаўскія лясы лічацца, бадай, самымі грыбнымі на Ракаўшчыне. Надоўга паэт тут не затрымліваўся — “стан здароўя не дазваляў”. Праўда, сам Міхась Канстанцінавіч “прыязджаў туды рэдка”, не адпускала праца, ды і “з транспартам было цяжка”. Аўтобусы тады яшчэ не хадзілі, “папутак”, як і машын увогуле, было мала. У віцэпрэзідэнта ж Акадэміі навук Беларусі Якуба Коласа сітуацыя была іншая: ён мог карыстацца акадэмічнай легкавушкай. А гэта ж усяго нейкая гадзіна прыемнай язды з Мінска…

Летам 2002 года, збіраючы матэрыял па літаратурным краязнаўстве, я наведаў Палачанку. Як аказалася, маладыя гаспадары хаты — сын Мікалая Фёдаравіча Марцін, яго жонка Леакадзія Уладзіміраўна, тым больш іх дачка Тацяна — ведалі пра “дачнікаў” няшмат і толькі па сямейных пераказах. Затое іх сусед, колішні млынар Фёдар Мікалаевіч Юрынок, добра помніў і сыноў паэтавых, і яго нявестак і ўнукаў, дый самога Канстанціна Міхайлавіча. Галава ў яго была светлая, нягледзячы на старэчы ўзрост і хваробу, што прыкавала да ложка.

— Якуб Колас, бывала, раніцай заходзіў у млын — пагутарыць са мной, з вакольнымі сялянамі і… узважыцца. У мяне стаялі вялікія вагі, на якіх я важыў збожжа і змолатую муку, вось на іх станавіўся паэт, і я яго ўзважваў, — прыгадваў Фёдар Мікалаевіч. — У Якуба Коласа было хворае сэрца і, як ён казаў, урачы раілі яму сачыць за вагой цела. Калі трохі худнеў — радаваўся, калі хоць крыху паўнеў — азмрочваўся.

Млына, што стаяў на беразе невялікай рачулкі Палачанкі, даўно няма. А як ён упрыгожваў бы гэты куток і сёння! Ды і азярцо рыбнае было, што паіла вадой прыбярэжныя агароды, палі і сенажаці. Якуб Колас, як расказваў стары млынар, любіў пасядзець з вудай, пахадзіць з кавенькай яго берагамі. А цяпер няма возера, сама рэчка абмялела…

Пытаюся пра лёс млына. Аказваецца, калісьці належаў ён ракаўскім панам Здзяхоўскім, у якіх арандаваў яго яўрэй Рухім Меір, што ў 1942 годзе загінуў у ракаўскім гета. Пасля вайны ўласнікам млына стаў Радашковіцкі райпрамкамбінат. Тады ж Фёдар Мікалаевіч і стаў працаваць млынаром. Працаваў да варварскага, нічым не апраўданага разбурэння млына ў 1961 годзе…

Пра Якуба Коласа млынар згадваў з выразнай павагай. Як пра ганаровага сталічнага субяседніка, які, аднак, ніколі не паказваў сваю перавагу над іншымі. Як пра чалавека з тыповай сялянскай псіхалогіяй. Як пра жаданага госця ў Палачанцы.

— Стала ў Палачанцы не жыў, часцей на некалькі дзён завітваў. Да яго сюды прыязджалі пісьменнікі. Помню Лужаніна, Калачынскага… Аднойчы застаўся на тыдні два. Тады яго тут наведаў Уладзімір Дубоўка — высокі, шыракаплечы, з доўгай барадой. Папрасіў у канцы майго агарода, каля рэчкі, паставіць палатку, атабарыўся ў ёй на ўвесь час, пакуль тут Колас быў. З Коласам яны хадзілі і гаварылі цэлымі днямі, пра што — не скажу, не чуў. А мне Дубоўка расказваў, што сын яго на вайне загінуў, што сам быў рэпрэсіраваны, вывезены ў Сібір больш як на дваццаць гадоў…

Чым прывабіла Якуба Коласа пасляваенная Палачанка? Мясціна — прыгожая, лясная, грыбная, прычым зусім недалёка ад Мінска. Да яе вяла бойкая (хоць і пашкоджаная вайной) Ракаўская шаша. Да ўсяго, Ракаў і яго ваколіцы — гэта ўжо былая Заходняя Беларусь, дзе і жылі нават пасля ваенных падзей значна багацей, чым ва ўсходняй частцы Беларусі, і ў Бога верылі, а таму і мараль на больш высокім узроўні трымалася. У Ракаве штотыдзень праходзіў славуты кірмаш, на якім значна танней, чым на мінскіх кірмашах, можна было купіць харч, розныя прылады працы, вопратку. Для Якуба Коласа, апрача іншага, Палачанка, магчыма, нагадвала сугучную ёй Балачанку — вёску ў Пухавіцкім раёне, дзе ён да вайны любіў улетку адпачываць… Як бы там ні было, а ў 1953 — 1956 гг. Якуб Колас для адпачынку сваіх сямейнікаў і сябе асабіста выбраў менавіта Палачанку.

Знамянальна, што ў гэты час блізкія родзічы другога нашага вялікага песняра — Янкі Купалы — лецішча нанялі таксама ў гэтых жа ракаўскіх мясцінах, толькі ўжо ў Міхалове — за два-тры кіламетры ад Палачанкі. Родныя сёстры Янкі Купалы Ганна, Марыя і Леакадзія разам са сваімі дзецьмі і ўнукамі асталяваліся тут у толькі што пабудаванай хаце Більманаў. Хата тая і да гэтага часу стаіць пры шашы Мінск — Гродна. Зусім верагодна, што наняць пад лецішча новую, толькі што пабудаваную хату ў суседняй Палачанцы падказала Міцкевічам сама Уладзіслава Францаўна — жонка Янкі Купалы, якая цесна кантактавала з сям’ёй Якуба Коласа і раней, чым Міцкевічы, пазнаёмілася з гэтымі надзвычай прыгожымі мясцінамі.

# У сеціве спадчыны

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі спецыяльна да юбілеяў класікаў сусветнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа падрыхтавала адпаведны віртуальны праект, прадстаўлены на інтэрнэт-партале НББ. Распавядае пра яго Вольга ГРЫНКЕВІЧ, загадчык сектара інфармацыйна-аналітычнага аддзела.**

— У фондах Нацыянальнай бібліятэкі захоўваюцца вельмі каштоўныя матэрыялы: перыядычныя выданні, у якіх друкаваліся Янка Купала і Якуб Колас, а таксама першыя прыжыццёвыя выданні іх твораў. Нам хацелася падзяліцца гэтым багаццем з усім светам, даць магчымасць карыстальнікам пабачыць першакрыніцы, пагартаць старонкі, нават зрабіць неабходныя копіі ці спампаваць інфармацыю. З гэтай мэтай алічбавана больш як сто выданняў твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, што складае каля 30 тысяч старонак тэкставага матэрыялу. Гэта вельмі каштоўныя крыніцы інфармацыі, як для навучэнцаў, навуковых супрацоўнікаў, так і для ўсіх тых, хто цікавіцца творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У сузор’і слынных імёнаў, якімі ганарыцца беларускі народ, лістападаўскаму юбіляру Якубу Коласу належыць адно з найбольш пачэсных месцаў. Якуб Колас — народны пісьменнік і народны настаўнік Беларусі. Ён быў выдатным майстрам ва ўсёй сваёй шматграннай творчасці: таленавітым паэтам, празаікам, драматургам, клапатлівым настаўнікам па прафесіі і адукацыі, мастакомвыхавальнікам па характары свайго таленту.

Першы раздзел праекта “Янка Купала і Якуб Колас: сучаснікі, паплечнікі, аднагодкі” характарызуе спецыфічнасць мастацтва кожнага з паэтаў, сцвярджае мерканне пра іх унікальнасць і непаўторнасць.

У раздзеле “Летапіс жыцця і творчасці” паралельна размешчаны біяграфіі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Нам падалося цікавым даць магчымасць карыстальнікам прасачыць творчую дзейнасць беларускіх майстроў слова па гадах у супастаўленні і параўнанні, вылучыць найбольш значныя перыяды і дасягненні. Разам з біяграфічнымі звесткамі ў храналагічным парадку прыводзяцца першыя прыжыццёвыя выданні твораў Якуба Коласа. Можна пазнаёміцца з вершам “Наш родны край”, надрукаваным 1 верасня 1906 г. у газеце “Наша доля”, іншымі вершамі і апавяданнямі, што друкаваліся на старонках “Нашай нівы” ў 1906 — 1911 гг.

Вельмі цікава пагартаць старонкі “Другога чытання для дзяцей беларусаў”, якое ўбачыла свет у санктпецярбургскім выдавецтве “Загляне сонца і ў наша аконца” ў 1909 г., першай кнігі вершаў паэта “Песні жальбы”(Вільня, 1910), а таксама пазнаёміцца з рэцэнзіяй на гэту кнігу, прачытаўшы артыкул у газеце “Наша ніва” (30 верасня 1910 года).

Раздзел “Чытаем Купалу і Коласа разам” прапануе асобныя тэматычныя рубрыкі: “Беларускі народ у творах Якуба Коласа”, “Вялікая Айчынная вайна ў творчасці Якуба Коласа”, “Творы Якуба Коласа, прысвечаныя жанчыне, маці, каханню”, “Выражэнне жыццёвага крэда ў творчасці Якуба Коласа”, “Тэма любові да роднай мовы ў творах Якуба Коласа”, “Адлюстраванне роднага краю, прыроды ў творчасці Якуба Коласа”, “Якуб Колас – дзецям”, “Перакладчыцкая дзейнасць Якуба Коласа”. Асобныя змяшчаюць крытычныя нататкі (гісторыя напісання, спроба мастацкага асэнсавання твора).

У фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі выяўлены і алічбаваны гуказапісы некаторых твораў Якуба Коласа ў выкананні вядомых беларускіх акцёраў: М. Захарэвіч, В. Манаева, В. Тарасава, Г. Аўсяннікава. У аўтарскім выкананні прыведзены ўрывак з верша “Савецкія дні” і ўрывак з выступлення Якуба Коласа на вечары, прысвечаным яго 70-годдзю. Усе гэтыя гуказапісы сабраны ў раздзеле “Слухаем Купалу і Коласа”.

Музычныя творы на словы Якуба Коласа прадстаўлены ў раздзеле “Спяваем песні і рамансы на словы класікаў”. Каб зацікавіць карыстальнікаў, мы падабралі 11 гуказапісаў, розных па жанрах, змесце, тэматыцы, манеры. Сярод выканаўцаў — Л. Александроўская, У. Мулявін, дзяржаўны ансамбль “Песняры”, ансамбль “Сябры” і інш.

Творы Песняра неаднаразова перавыдаваліся, і беларускія кніжныя графікі лічылі за гонар стварaць адмысловае мастацкае аздабленне кожнага выдання. У раздзеле “Галерэя: мастакі-ілюстратары твораў Купалы і Коласа” прадстаўлены ілюстрацыі да амаль 40 выданняў у выкананні 27 выдатных беларускіх мастакоў: М. Селешчука, В. Шаранговіча, Г. Паплаўскага, М. і У. Басалыгаў, Б. Заборава і інш.

У раздзеле “Выслоўі, выказванні, афарызмы беларускіх песняроў” у тэматычных рубрыках сабрана больш як 50 выказванняў і выслоўяў, паэтычных радкоў Якуба Коласа, якія адлюстроўваюць багацце, выразнасць вобразнасць мовы, захапленне роднай прыродай, патрыятызм.

“Купала і Колас у прасторы інтэрнэту” змяшчае спіс аўтарытэтных анлайн-рэсурсаў, прысвечаных жыццю і творчасці Якуба Коласа.

Такім чынам, віртуальны праект прапануе тэкставыя і выяўленчыя матэрыялы, гуказапісы. Безумоўнай каштоўнасцю з’яўляецца яго сарыентаванасць на самых розных чытачоў-карыстальнікаў: інфармацыя прадстаўлена на беларускай, рускай і англійскай мовах.

# Таемныя зямлі скрыжалі...

## Прыроднае і чалавечае ў творчасці Песняра

Здаецца, што героі Коласавай паэмы "Новая зямля" вельмі блізкія да гармоніі з прыродай, бо яны жывуць паводле нормаў экалагічнага імператыву — працуюць, адпачываюць, весяляцца, не патрабуючы ні ад людзей, ні ад прыроды больш, чым можна вярнуць. Ім уласціва пачуццё меры, яны асуджаюць панскія забавы, падчас якіх марна забіваюцца жывыя істоты.



*У мемарыяльным кабінеце Якуба Коласа.*

**Пятро ВАСЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава**

Заземленая вобразнасць Коласа нібыта засцерагае ад расчаравання. Бо, мяркуе носьбіт зямной філасофіі, герой паэмы "Новая зямля" Міхал, "Свая зямля — вось што аснова!" Галоўная тэза гэтай філасофіі: зямны, прыродны, натуральны пачатак вышэй за сацыяльны; недасканаласць чалавечага існавання кампенсуецца вяртаннем да жыццёвых вытокаў:

*А дзе ж той выхад?*
*дзе збавенне*
*З няволі цяжкай,*
*з палянення?*
*Адзін ён ёсць: зямля, зямля,*
*Свой пэўны кут, свая ралля:*
*То — наймацнейшая аснова*
*І жыцця першая умова.*
*Зямля не зменіць*
*і не здрадзіць,*
*Зямля паможа і дарадзіць,*
*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей тваіх не кіне,*
*Зямля — аснова ўсёй айчыне.*

Апантанасць зямлёю, еднасць зямлі, прыроды і чалавека — тэмы, якія здаўна распрацоўваюць сусветная і беларуская літаратуры. Хтанічная сфера, напэўна, з'яўляецца захавальніцай самых старажытных загадак быцця. Да гэтай таямніцы спрычыніліся такія пісьменнікі-інтэлектуалы XX стагоддзя, як Уільям Фолкнер, Карлас Кастанеда, а таксама беларускія аўтары Кузьма Чорны, Іван Мележ, Віктар Казько.

Зямная трансцэндэнцыя звязвае творчасць Коласа з ідэалагемамі Кнута Гамсуна, які гэтаксама ў пошуках "натуральнага чалавека" абапіраўся не на культурны досвед цывілізацыі, сацыяльныя інстытуты, а на стваральную працу на зямным улонні (раман "Зямныя сокі"). Не проста супадзеннем выглядае той факт, што адзін з ранніх раманаў Гамсуна таксама меў назву "Новая зямля".

Празрыстая, здавалася б, паводле канцэпцыі паэма Коласа "Новая зямля" мае свае загадкі.

Чаму не даў Колас спраўдзіцца мары Міхала, у той час як да яе здзяйснення было так блізка?

Што перажывае Міхал, калі зямля, тое, што "не здрадзіць", раптам пачынае выслізгваць з-пад ног, абарочвацца зласвеснымі неспадзяванкамі?



*Коласаў дуб.*

У чым правіна Міхала перад зямлёю?

Чым можа абярнуцца пошук зямной асновы ў варунках нетрываласці, разладжанасці сусвету?

Ці магчыма чалавечае шчасце на гэтай зямлі?

Зямля ў паэме Коласа выглядае як загадкавая субстанцыя — таямнічая, нерасчытаная кніга.

*Таемны вы, зямлі скрыжалі!*
*Чаго ў сябе вы не ўпісалі!*

Прарыў у сферу трансцэндэнцыі адбываецца ў тых раздзелах паэмы, якія здаўна лічыліся самымі загадкавымі, малапрасветленымі, а таму набывалі ў коласазнаўцаў розныя трактоўкі: "Вечарамі", "Таемныя гукі", "Воўк".

"Таемныя гукі" — своеасаблівая дыскусія паміж дарослымі і дзецьмі. Пытанне, пастаўленае дарослымі, — пра паходжанне таямнічых гукаў узімку, — вырашаецца досыць лёгка. Выклікае цяжкасць пытанне, пастаўленае дзецьмі, бо так званыя дзіцячыя пытанні якраз і належаць да тых адвечных таямніц, над якімі пакутуюць філосафы ўсіх часоў.

*— А што, скажэце, зорка*
*значыць,*
*Якой ніхто мо і не бачыць:*
*Яна маланкай мігатнецца*
*І згасне. Дзе ж яна дзяецца?*
*І да зямлі не далятае,*
*А проста дзесь яна знікае? —*
*І змоўклі ўсе адразу ў хаце:*
*Як адказаць? З чаго пачаці?*

Экамысленне Якуба Коласа сінтэзуе ў сабе дзіцячасць і дарослasць, наіўнасць і дасведчанасць. Надта часта інтуітыўны або эмацыянальны пачатак у спасціжэнні прыроды выйграе ў дарослай самаўпэўненасці.

Колас не раз звяртаўся да жанру так званай дзіцячай літаратуры, і ў шэрагу выпадкаў гэтыя звароты абарочваліся сапраўднымі творчымі азарэннямі. Бо што ні кажы, але дзяцінства бліжэй да прыроды, да жыццёвай аўтэнтыкі, чым дарослasць.

Адзін з самых загадкавых у сваёй празрыстасці твораў класіка — прыпавесць пра Рака-Вусача, апанаванага дэпрэсіяй. Чаму жыццё, прыўкраснае ва ўсіх адносінах, сталася так няміла Коласаваму герою?

*Лёг на дно ён брусам*
*І ляжыць дзён тры;*
*Растапырыў клешні*
*І не есць яешні,*
*Жабінай ікры.*

Тлумачэнне варта шукаць у Коласавым пантэізме, навеяным як загадкавай беларускай прыродай, з якой шукаў гармоніі аўтар, так і чытаннем нямецкіх ды скандынаўскіх аўтараў (Ніцшэ, Гамсун). У Андрэя Лабановіча, літаратурнага двайніка Коласа, быў такі настрой, што ён ужо прыстаўляў рэвальвер да скроні…

Вось з'яўляецца Жыта, правобраз біблейскага неўміручага Зерня і язычніцкага адвечнага Пана, і аповедам пра свае незлічоныя пакуты, смерць і новае нараджэнне вяртае Раку радасць жыцця.

Міхал, як і іншыя дарослыя персанажы Коласа, жадае трываласці ў зменлівым, падступным існаванні. Але надыходзіць момант, калі зямное апірышча выявіць сваю хісткасць, нетрываласць, абернецца бяздонный, згубнай прорвай. Гэта выявіцца ў раздзеле "Воўк".

Агонія жывёлы, якая гіне ў палонцы, мае адначасова прарочы і сімвалічны сэнс. Зямная трансцэндэнцыя, зямное "яно" (М. Гарэцкі) глядзіць на Міхала поўнымі тугі і нейкага яшчэ невыказнага пачуцця вачыма канаючага ваўка.

Міхал перажывае новае для сябе пачуццё: ён шкадуе драпежніка, што трапіў у палонку. Ён праявіў чалавечнасць. Гэтага не зрабіў бы воўк, які люта глядзеў на Міхала з палонкі і ляскаў зубамі.

Новае для сябе, але не для аўтара. Бо шкадаванне да ахвяр палявання — адзін са скразных матываў паэмы. Шкада тхара, якога ўпаляваў разам з дзецьмі дзядзька Антось. Шкада пчол, у якіх людзі адбіраюць плён руплівай працы. Шкада глушца, які стаўся ахвярай панскай пацехі:

*Пан Свіда стрэльбу падымае*
*І доўга цэліцца… страляе.*
*Бух! — грукнуў стрэл,*
*лес узбудзіўся!*
*Дымок раўнюткаю стралою*
*Жахнуў старую гэту хвою,*
*З якой глушэц даўно*
*зрадніўся;*
*І раптам з ёю разлучыўся,*
*У момант звяў і страціў сілы*
*І не паспеў разняць ён крылы,*
*На мяккі дол, на мох зялёны*
*Упаў, насмерць акрываўлёны;*
*Узнялась галоўка і апала,*
*Два разы лапка задрыжала,*
*Навек застыла нерухома.*
*А Свіда рад быў, рад вядома:*
*Рублём Міхала ён трактуе,*
*Цыгарай хвацкаю частуе.*

Магчыма, яшчэ і таму марыць пра набыццё сваёй зямлі Коласаў герой, бо зямля — аснова мірнага суіснавання з прыродай, а лес — арэна барацьбы, палявання на жывое. Міхал дагэтуль не быў чалавекам Зямлі, а быў чалавекам Лесу.

Міхал таксама ўдзельнічаў у панскіх ігрышчах. Гэта ён прывёў пана Свіду да глушца, такаванне і смерць якога так драматычна апісаў Колас.

У фінале, у перадсмяротнай мроі героя мы назіраем зліццё дзвюх экзістэнцый — чалавечай і прыроднай. Трагізм і непрадказальнасць зямнога існавання абумоўлівае магчымасць такога зліцця. Колас прасочвае драматычнае раздваенне свядомасці, скарыстоўвае улюбёны ў сімвалістаў прыём "люстэрка" (паўтарэння эпізода, сцэны ў новым, містычным значэнні). Міхал мроіць сябе адначасова чалавекам і тым ваўком, што загінуў у палонцы. Але якога ён не раз забіваў.

Смерць Міхала расчытваецца як "здрада" з боку зямлі, якая, як быццам, абяцала "не здрадзіць" таму, хто сумленна працуе на ёй, якая была "ўсяму аснова". І зямля ж забірае Міхала да сябе з такой самай няўхільнасцю, з якой ваda забрала да сябе ваўка. Гэта пом-ста прыроды, натуральны вынік узаемапалявання звера і чалавека. "Лес помсціць", як казаў у драме Генрыка Ібсена "Дзікая качка" стары паляўнічы Экдаль.

Пантэізм, які ляжыць у аснове Коласавага мастацкага мыслення, не робіць розніцы паміж жыццём звера і чалавека.

"І пабачыў я новую зямлю і новае неба", — кажа апавядальнік у "Апакаліпсісе". Каб дасягнуць новай гармоніі, трэба памерці. Але смерць — гэта тое, супраць чаго паўстае мастакоўская натура Коласа. Бо віталізм якраз і складае сутнасць экамыслення Коласа, героі якога імкнуліся дасягнуць гармоніі з прыродай у гэтым, рэальным жыцці. Але здабыць білет у гэты рай зямны надта няпроста.

# «Павесіў паэт сваю музу на плоце…»

## Да пытання пра змену грамадзянскай пазіцыі Якуба Коласа

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Да пачатку сацыяльна-палітычных навальніц у Беларусі патрыятызм Якуба Коласа быў даволі лакальным, адносіўся пераважна да “роднага кута”. Аднак заканчэнне Першай сусветнай вайны, перыяд, калі краіну з розных бакоў рвалі на кавалкі, прывяло яго да пазіцый, якія можна назваць нацыяналістычнымі (бальшавікі так і ўспрынялі іх). Так, падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй, міралюбіва замацаваны імі ў Рызе 18 сакавіка 1921 г., выклікаў у паэта буру эмоцый, скіраваных супраць абодвух распарадчыкаў доляй беларускага народа і самога К. Міцкевіча. А калі ён вярнуўся на радзіму ў маі 1921 г., вярнуўся з надзеямі на нацыянальнае развіццё роднага краю, то на савецкую ўладу абрынулася чарговая хваля паэтычнага гневу: надзеі Песняра разыхо-дзіліся (часам кардынальна) з рэчаіснасцю.

Тым не менш яшчэ да сярэдзіны 1920-х гг. у творчасці Якуба Коласа заўважным становіцца працэс змены поглядаў у бок лаяльнасці да савецкай улады, прымірэння з сацыяльна-палітычнай кан’юнктурай. Каталізуе знікненне антысавецкіх настрояў у паэзіі Песняра падазрэнне яго ў “лістападаўскай справе” (якраз у 1925 г.). Пад прэсінгам ён быў вымушаны апраўдвацца і нават — трохі пазней — пакаяцца.

Якуб Колас разумеў, кажучы словамі Янкі Купалы, “які павеяў вецер на загоны”, — і “асадзіў назад”. Нельга сказаць, што ён зусім адмовіўся ад любых актыўных дзеянняў (усё ж заступаўся за многіх, над кім навіс дамоклаў меч сталінскіх рэпрэсій). Але ліра Песняра загучала ўжо на іншы — савецкі — лад. Вернасць рэжыму Якуб Колас у адным з некалькіх пакаяльных лістоў 1930 г. абяцае давесці на справе. Што праўда, даводзіць паэт пачаў яшчэ раней, проста ўладзе было ўсё мала ды мала паэтычнай даніны. Яе патрэбна было столькі, каб зацьміць грунтоўны пласт “нацдэмаўскіх” твораў.

Палітычныя тэмы і ў мастацкай літаратуры патрабавалі адназначна прабальшавіцкіх інтэрпрэтацый. Пэўны час Якуб Колас на іх не мог рашыцца (як і ўвогуле не мог адразу прыняць — хаця б на словах — савецкую дактрыну). З 1925 г. заў-важны перыяд ваганняў, роздумаў, калі “павесіў паэт сваю музу на плоце”, перыяд двухсэнсоўнасцей і расчараванняў, звароту да перакладаў і твораў для дзяцей. То паэт, якому “свет жорстак і глух”, хавае музу, а сам “спявае з другою” (“Пахаваная муза”, 1925). То яго “трывожыць” “цьма”, і ён задаецца пытаннем: “Калі ж ёй канец?” (“Шорхае варожа”, 1925). То нібыта жартам успыхвае надзея, *“Што нават цэнзару-зладзею / Я мыслі людскасці навею, / І ён прапусціць мне паэму”* (“Малітва беларускага пісьменніка”, 1925). А то і выдасць, паводле асабістага азначэння, “трохі пад Крылова” байку “Свінні пад дубамі” (1926) з гучным нацыянальным лейтматывам (у кантэксце беларусізацыі, праўда, ён гучаў не так рэзка, як сёння можа падацца, аднак дысананснасць верша выявілася ўжо праз пару-тройку гадоў, калі наступілі кардынальныя змены ў савецкай унутрыпалітычнай дактрыне, названыя карэнным пераломам).

Нават у верш, прысвечаны пятай гадавіне часопіса “Полымя” (1926), паэт укладвае свае перажыванні і пажаданні адносна “загонаў”, што засталіся за кардонам”, заклікаючы агонь (ачышчальны сімвал) шугаць і разгарацца:

*Шугні, агонь,*
*І цемрадзь-сон*
*Развей, згані ад краю ў край,*
*Іскрыся іскрамі, палай!*
*Нясі святло і тым загонам,*
*Што засталіся за кардонам,*
*Дзе брат мой стогне пад прыгонам,*
*І шлях яму ты асвятляй!*

(“Полымя”, 1926)



*М. Купава “Якуб Колас. Нашаніўская пара”. Лінарыт. 1997.*

Знешне, як можа падацца, верш цалкам упісваецца ў савецкае ідэалагічнае клішэ, распрацаванае для мастацтва, названае потым сацрэалізмам. Аналізуючы датаваны 1937 г. ліст М. Ісакоўскага старшыні Саюза пісьменнікаў СССР У. Стаўскаму, у якім Якуб Колас выкрываўся як аўтар контррэвалюцыйнага верша “Полымя”, журналісты газеты “Камсамольская праўда” Л. Сяліцкая і Д. Васілеўскі прыходзяць да высновы, што расійскі паэт трапіў у аблуду і “содержание стихов — очень даже идеологически верное: поэт ждёт, когда революционное «полымя» осветит путь объединения двум разлучённым половинам белорусского народа”. Мусім пагадзіцца толькі часткова. М. Ісакоўскі прывёў памылковыя абгрунтаванні контррэвалюцыйнасці твора. Іх з лёгкасцю і разбілі журналісты. (Зрэшты, яшчэ тады данос, перасланы спачатку кіраўніку Кампартыі Беларусі В. Шаранговічу і ім аддадзены старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў М. Лынькову, не быў пушчаны ў ход. Пэўна, прытрымаў ліст новапрызначаны (з чэрвеня 1938 г. — недзе праз год пасля даносу) кіраўнік рэспублікі П. Панамарэнка. А вось шматзначнага злучніка “і” ў пятым радку раней не заўважалі даследчыкі — ні сучаснікі Якуба Коласа, ні цяперашнія (пра інцыдэнт згадвае М. Мушынскі, але не паглыбляецца ў аналіз). Злучнік жа гэты якраз з’яўляецца ключом для прачытання верша. У кантэксце разглядаемага твора “і” становіцца сінонімам “таксама” — слова, якое мае на ўвазе яшчэ адзін аднародны член сказа, які не абавязкова называецца, агучваецца ў тым сказе, аднак менавіта яно першаснае. У выпадку з вершам Якуба Коласа “Полымя”, безумоўна, тым першасным аднародным членам сказа з’яўляецца Савецкая Беларусь. Такім чынам, аўтар свой заклік (тоесны купалаўскаму “з цемры да святла”) распаўсюджвае не толькі на “загоны, што засталіся за кардонам”, але і на тую частку Беларусі, дзе пануе бальшавіцкая ўлада. Дакладней, наадварот: менавіта Савецкая Беларусь маецца на ўвазе першай, гэта ў ёй трэба развеяць “цемрадзь-сон… ад краю ў край”. А гэта ўжо несумненна антысавецкія, контррэвалюцыйныя матывы. (Не выключана, што разгледжаны злучнік быў не спецыяльна, міжвольна выкарыстаны аўтарам, стаўшы агаворкай — прыкладам фрэйдаўскай тэорыі бессвядомага, што, тым не менш, яшчэ раз пацвярджае пазіцыю грамадзяніна і паэта.)

У далейшым голас Якуба Коласа ўсё больш і больш набывае “савецкае” гучанне. Аднак штучная настройка Коласавай ліры часам яшчэ давала збоі (у савецка-сацыялагізатарскім разуменні). Напрыклад, верш “А. Луцкевічу” (1927) у хуткім часе пасля напісання становіцца непраходным у друк: аб’ект прысвячэння не паддаўся савецкай прапагандзе і заставаўся праціўнікам бальшавікоў (дарэчы, не пазней, чым праз тры гады, і сам Якуб Колас у артыкуле “З поваду рэформы беларускага правапісу”, у заявах у ДПУ БССР ад 20 лістапада і 6 снежня 1930 г. павесіць цэтлік “прадажніка”, апартуніста і “нацыянал-фашыста” на асобу нядаўняга аднадумца.

Цікава, што ў 1928 г. (калі, паводле Антона Адамовіча, “пачаў мацней адчувацца ціск ГПУ ў галіне літаратуры”) народны паэт яшчэ змог размясціць у двухтомным зборы твораў некаторыя свае антысавецкія вершы (у першую чаргу трэба назваць “Беларускаму люду”), што варта лічыць таксама свайго роду ідэалагічнай дыверсіяй для тагачаснага кантэксту.

Былі ў Якуба Коласа і больш сур’ёзныя разыходжанні з “генеральнай лініяй партыі”. Так, непадцэнзурны верш “З мінулага”, напісаны 2 чэрвеня 1933 г., апублікаваны ўпершыню толькі ў найсвяжэйшым Зборы твораў. Прынцыповыя разыходжанні з метадам сацыялістычнага рэалізму ў савецкі час пакідалі твор па-за бальшавіцкім друкам.

Лірычны герой верша аддаецца ўспамінам пра лета і родныя краявіды.

*Ды мінула лета, патускнелі блескі,*
*Пагубляў стары дуб залатыя фрэскі,*
*І прайшоўся вецер па лугох з касою,*
*Засталося поле з выцвеўшай красою.*

*У вачох-зарніцах свеціцца журбота,*
*Знаць і ёй на сэрцы залягла сумота.*
*Адлятае птушка ды ў нямілы вырай,*
*Залягае ў сэрцы жальба мая шырай.*

*Ці я страту чую роднага чагосьці,*
*Што так сэрца ные, ные ў горкай млосці.*
*Тая ж постаць, вочы, а сама не тая.*
*Чаму гэтак стала? чаму? я пытаю.*

*Эх, ды не дачуўся водгулля ні разу.*
*Знаць і не пачую я таго адказу!*
*Так і застанецца песня недапета…*
*Ды каго абходзіць смутак, сум паэта?*

Знешне бяскрыўдная пейзажна-філасофская замалёўка ўсё ж мае, як і некаторыя ранейшыя творы Якуба Коласа, палітычны падтэкст. І той факт, што верш не публікаваўся за савецкім часам, з’яўляецца сведчаннем наяўнасці антысавецкіх настрояў аўтара, які пяе пра родную старонку. Менавіта яе “страту” “чуе” лірычны герой: “родны кут” знаходзіцца па заходні бок мяжы, пад Польшчай, а ўсходняя частка Беларусі ў межах савецкай рэспублікі не апраўдала спадзяванні паэта. Ён шукае прычыну. Аднак няма адказу — “водгулля”, якое алюзійна адсылае чытача да аднайменнага зборніка 1922 г. з антысавецкімі матывамі падзелу Беларусі, а таксама да аднайменнага верша (20.11.1921) гэтага зборніка, у якім аўтар сам сабе наказвае адгукацца на падзеі — ці то радасныя, ці наадварот. Галоўны матыў — шчырасць. Таму, кажучы ў вершы 1933 г. пра адсутнасць водгулля, Якуб Колас падказвае, што ён перастаў быць шчырым.

Пясняр змяніў гучанне сваёй ліры. Змяніў даўно. Прычым усведамляў гэты крок. Таму напярэдадні змены даў знаць пра гэта: яшчэ ў 1925 г. — згаданым ужо вершам “Пахаваная муза”.

Ідэйны пераломам у творчасці Якуба Коласа адносіцца да 1925 г. Дый сам паэт не хаваў гэтага: чытачам даводзіў больш ці менш празрыстай алегорыяй, эзопавай мовай, а стражам рэжыму казаў: “Першы перыяд мае літаратурнае дзейнасці быў закончаны к 1925 г. З 1911 па 1921 г. у маёй літаратурнай рабоце былі вялікія перарывы, і толькі 1921 г., год майго звароту ў Савецкую Беларусь, і наступныя гады далі мне магчымасць поўнасцю аддацца літаратурнай рабоце і закончыць свае творы першага перыяду, пачатыя яшчэ ў астрозе ў 1910 — 1911 гг. Гэты факт, факт заканчэння нацыянал-дэмакратычных (падкрэслена аўтарам. — **А. Т.**) твораў у Савецкай Беларусі і выданне іх савецкім выдавецтвам, а таксама і адсутнасць здаровай марксісцкай крытыкі яшчэ больш замацоўвалі погляд на мяне як на ідэолага нацыянал-дэмакратызму”.

Фактычна творца падаўся ў тую прастору духоўнага і грамадска-палітычнага жыцця, якую прынята называць унутранай эміграцыяй. Яму, як і Янку Купалу, заставаліся толькі “сны аб Беларусі”. Вершам “З мінулага”, які быў напісаны “ў стол” і праляжаў да нашых часоў, Якуб Колас проста не стрымаўся. А магчыма, і пастараўся перадаць яшчэ адзін ключ сваім сучаснікам (калі б да іх дайшоў твор) і нашчадкам (пэўна, найперш ім спадзяваўся адрасаваць аўтар свой верш) для расшыфроўкі яго сапраўдных паэтычных памкненняў і перажыванняў.

Традыцыі і сучаснасць

# «На ростанях» — раман без рамана

Любоўныя калізіі амаль заўсёды прысутнічаюць у творах беларускіх класікаў, што заканамерна, бо галоўнымі героямі пераважна з'яўляюцца маладыя мужчыны. Аднак, на думку сённяшніх чытачоў, г. зв. "тэма кахання" вельмі слаба распрацавана ў нашай класічнай прозе. Вось і трылогія "На ростанях" — "шырокая карціна жыцця беларускага народа", "шырокае мастацкае палатно сацыяльна-грамадскай сітуацыі", але зусім не раман пра каханне (альбо расповед пра адзіноту?) — хай сабе на яго старонках згадваюцца дзясяткі разнастайных мадэляў стасункаў паміж мужчынам і жанчынай.



*М.Селяшчук. Ілюстрацыя да паэмы "Сымон-музыка". 1990.*

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## ЛАБАНОВІЧ І ЖАНЧЫНЫ

У большасці інтэрпрэтацый вядомага рамана індывідуальныя праблемы Андрэя Лабановіча адыходзяць на задні план, нібыта саступаюць месца праблемам калектыўным.



*Н. Кусцінская ў ролі Ядвісі. Кадр з кінафільма "Першыя выпрабаванні". 1960.*

Але чаму малады настаўнік, які, здаецца, марыць пра каханне, так і не знаходзіць яго на працягу шасцісот старонак? Як характарызуе гэта галоўнага героя — інтэлігента сялянскага паходжання, чыё сталенне адбывалася ў эпоху мадэрну — час актуалізацыі гендарнай праблематыкі?

Андрэй Лабановіч не апалагет патрыярхальнай маралі, ён лічыць, "што і жанчыне навука патрэбна, яшчэ, можа, больш, чым мужчыну", а ў размове з пані падлоўчай адчувае "нейкае варожае пачуццё": "Для яго было незразумела, як яна так пакорна, без усякага змагання, пагадзілася са сваёю доляю і не мае сілы скінуць з сябе гэты крыж жыцця". Паводле Лабановіча, жанчына мае права на адукацыю, мае права самастойна вызначаць свой лёс — не падпарадкоўвацца ўладзе бацькоў ці мужа, а "вырвацца на шырокі прастор жыцця". Жанчына-ахвяра выклікае ў героя не спачуванне, не смутак, а абурэнне. Як жа ўспрымае малады інтэлігент прагрэсіўных поглядаў тых жанчын, што складаюць яго атачэнне?

Тыпаж гераіні ў трылогіі вельмі часта вызначаецца яе паходжаннем, стаўленнем аўтара (альбо ідэалогіі) да пэўнай сацыяльнай групы. Так, між дзяўчат, на якіх звяртае ўвагу Лабановіч і якім прысвячае хоць некалькі радкоў пісьменнік, няма ніводнай сялянкі. А між тым сам настаўнік паходзіць з простай вясковай сям'і. Варта думаць, што аўтэнтычная дзяўчына-сялянка сапраўды была не самым прывабным жаночым тыпам у дарэвалюцыйным грамадстве.

Затое "прыўкрасная дама" — прыгожая, добрая дзяўчына, якая выклікае мужчынскае захапленне і надзелена пачуццём гонару — заўсёды мае годнае паходжанне, гэта альбо шляхцянка, альбо дачка мясцовага інтэлігента. Аднак з гэтых саслоўяў паходзяць і шматлікія "старыя дзевы", якія сімвалізуюць усё "затхлае, мёртвае, трупянае", што атаясамліваецца ў творы з часам царызму. Якуб Колас глядзіць на "заматарэўшых во днех своих" гераінь вачыма традыцыйнай вёскі і стэрэатыпна бачыць непаўнавартасных, нерэалізаваных жанчын, хай сабе і надзеленых пэўнымі індывідуальнымі рысамі. Вось і Лабановіч ставіцца да дзеўкі-перастаркі з іроніяй ці раздражненнем, але без спачування.

Мала спагадае ён і жанчынам, учынкі якіх не стасуюцца з нормамі сялянскай этыкі. Настаўніца Тамара Аляксееўна — з дзікунскай гульнёй прывядзення ў паганскую веру і разадраным батыставым рукавом — робіца пародыяй на жанчыну-спакусніцу і выклікае ў Лабановіча адзіную рэакцыю: "Праціўна". Якуб Колас, як і большасць беларускіх пісьменнікаў першай паловы XX ст., імкнецца адмежавацца ад сваёй не канвенцыянальнай гераіні, дэманструе яе паводзіны як брыдкія і непрыгожыя і не спрабуе засяродзіцца на прыватных жаночых праблемах.

Адзін з цэнтральных жаночых тыпаў у рамане — гэта тып настаўніцы-рэвалюцыянеркі з другой часткі трылогіі. Вольга Андросава — інтэлігентная, бойкая, незалежная, яна паліць, мае кароткія валасы (што на той час раўназначна слову "прапашчая") і ставіцца да сваёй працы без аніякага замілавання. Пісьменнік падкрэслівае вялікую павагу, якую адчувае Лабановіч да маладой настаўніцы — але з жартаўлівага дыялогу між героямі вынікае, што кахання ў гэтым выпадку не з'явілася.

Найбольш прывабнымі і гарманічнымі атрымаліся ў рамане вобразы жанчынымаці, жанчыны-гаспадыні — і разам з тым настаўніку відавочна не падабаюцца дзяўчаты з "мяшчанскага" свету настольнікаў і вазонаў, нават тыя, якія мараць быць добрымі жонкамі. Мяшчанкі адштурхоўваюць Лабановіча сваёй абмежаванасцю, побач з мястэчковымі прыгажунямі герой пачуваецца то няўпэўнена, то надта самастойна, "старыя дзевы" і паказальна прыстойныя жанчыны выклікаюць у маладога інтэлігента інстынктыўную гідоту. Лабановіч — рамантык, і вобраз дзяўчыны-мары ніяк не стасуецца з энергічнай і разняволенай Вольгай…

## ШЛЮБ ЦІ КАХАННЕ?

Як ні парадаксальна, аб'ектам сімпатыі галоўнага героя робіцца "натура <…>, якая яшчэ не выявілася і не сфармавалася ў пэўны характар" (sic!). Першая і трэцяя аповесці сіметрычна абрамляюць другую, і Лідачка з заключнай часткі рамана паўстае як спрошчаны варыянт Ядвісі. Абедзве гераіні прэзентуюць адвечны ідэал дзявочай прыгажосці — гэта чыстыя, слаўныя дзяўчаты, якія "толькі-толькі распускаюцца ў прыгожую кветку, з мілага нявіннага падлетка пераражаючыся ў маладую дзяўчыну".

Аднак і з Ядвісяй, і з Лідачкай справа не даходзіць нават да рамантычнага прызнання, бо Лабановіч, задуманы як станоўчы персанаж, яшчэ не гатовы абцяжарваць сябе сямейнымі абавязкамі: "Няўжо ж у яго хопіць адвагі звязаць яе долю з доляю малапрыметнага настаўніка ў гэтай глушы і тым самым адсеч сабе дарогі да далейшага дасягнення тых мэт, якія меў ён на ўвазе?" Такое стаўленне да шлюбу, спалучанае з маральнай прынцыповасцю маладога настаўніка, робіць немагчымым развіццё любоўных гісторый. Затое сам пісьменнік ідзе далей — і дэманструе канфлікт між цялеснымі і духоўнымі патрэбамі героя.

Андрэй Лабановіч ставіцца да дзяўчат з надзвычайнай пашанай, для яго дзяўчына — гэта "чысты і прыгожы вобраз, на які можна пазіраць і любавацца толькі здалёк". Да сябе ж герой надзвычай патрабавальны і праявы мужчынскай натуры лічыць нізкімі і ганебнымі. Праз гэта ён злосна і груба праганяе насмешлівую маладзіцу, а потым дакарае сябе, бо яму, "бруднаму ў такой жа меры, як і ўсе мужчыны, а можа, і больш таго, хацелася паказацца чыстым, нявінным, лепшым ад іншых…" Здаецца, няма нічога лепшага за чысціню і цноту, але чалавеку не дадзена пазбыцца цялеснасці — і Якуб Колас нібы ілюструе эсэ З. Фрэйда "Аб прыніжэнні любоўнага жыцця". Калі мужчына паважае і нават ідэалізуе жанчыну, але яшчэ не гатовы ўзяць на сябе сацыяльную адказнасць за стварэнне сям'і, то задавальненне цялесных патрэб магчыма толькі з "прыніжаным аб'ектам" — і п'яны хлопец заканамерна пачынае марыць пра "маладзіцу, з якою можна пазнаць радасці раю".

У трэцяй частцы рамана каханне, ад якога ўхіляецца герой, замяшчаецца сяброўствам з Янкам Тукалам. У сяброўскіх стасунках Лабановіч дазваляе сабе разняволенасць, немагчымую побач з дзяўчынай-марай, ён можа быць вясёлым, няўрымслівым і, галоўнае, не адчуваць адказнасці за сваю сімпатыю. У выпадку ж з былой вучаніцай Лідачкай нават дапамога ў падрыхтоўцы да паступлення нібыта абавязвае да сур'ёзных крокаў.

## СПЕЦЫФІЧНЫ ДЫСКУРС

Лабановіч, здаецца, неаднойчы разважае пра сімпатычных дзяўчат, спрабуе асэнсаваць свае пачуцці, але вельмі часта, асабліва ў заключнай аповесці, пісьменнік апускае ўнутраныя маналогі героя. "Настаўнік шмат аб чым думаў", "цэлы рой думак замітусіўся ў яго галаве" — і для сямідзесяцігадовага аўтара, героем якога застаецца малады хлопец, такое "замоўчванне" падаецца натуральным. Разам з тым Якуб Колас нібы спрабуе прадэманстраваць, чаму маладому настаўніку (а разам з тым і самому аўтару) так складана разважаць і разважаць пра каханне. Нераспрацаванасць адпаведнага дыскурсу, натуральна, тлумачыцца табуіраваннем "інтымных" тэм у сялянскім асяроддзі. Цялесная свабода заўсёды абмяжоўваецца патрабаваннямі вясковай маралі (згадаем тут расповед пра пераход убрад Нёмана), а праявы сексуальнасці лічацца грахоўнымі, непрыстойнымі.

Але забароненая тэма — не значыць тэма неактуальная. І калі для фальклору табуіраванне тэмы цялеснага мела вынікам выпрацоўку арыгінальнай трапічнай сістэмы, то рэальнасць была значна менш паэтычнай. Лабановіч прымервае да сябе ўзнёслы, высакамоўны тон ("Я прыйшоў да цябе, бо хачу бачыць цябе, хачу чуць твой голас: ён гучыць для мяне, як вясна; хачу пачуць твой смех, бо ён, як промень сонца, асвятляе мне душу"), але адразу адкідвае яго, бо ўзнёслыя, прыгожыя фразы даўно гучаць пахабна з-за фанабэрыстых кавалераў-пустабрэхаў. Паэтыка вадэвіляў падаецца недарэчнай і для беларускага празаіка XX стагоддзя.



*Ю. Зайцаў. Ілюстрацыя да рамана "На ростанях". 1989.*

Пра забароненыя ж рэчы размаўляюць альбо ціцішком, як пра штосьці прыемнае, але злачыннае (дыялог а. Мадэста з дзякам), альбо гучна — і тады вылучаюцца прамоўцы, падобныя да Бабініча, — "язык яго, наогул распушчаны, не ведаў стрымання і пачынаў плявузгаць такія рэчы, ад якіх было сорамна не толькі паненкам і кабетам, але часта і мужчыны апускалі вочы або заходзіліся ад смеху".

Тое, пра што непрыстойна размаўляць, саморобіццанепрыстойным — і гэтадатычыць у тым ліку жанчыны як аб'екта мужчынскіх жаданняў і мужчынскіх размоў. Адмаўляецца ад "плявузгання рознага бруднага глупства" і Андрэй Лабановіч, зрэшты, прыклады адэкватнага абмеркавання адпаведных праблем наўрад ці сустракаюцца ў тагачаснай беларускай літаратуры. У размовах пра цялеснае (нават цяжарнасць і нараджэнне дзіцяці) пераважае грубая лексіка, якую звычайна ўжываюць у дачыненні да жывёлы: "з выгляду здаецца — «ані вэзь», брыкаецца, абражаецца…", "Добры гаспадар ведае, калі яго карова ацеліцца. А ты свае прыгоды не ведаеш?", "Ганна ў кладоўцы абрадзінілася! <…> / Бадай яна спрахла, — гаворыць пісар, — колькі клопату нарабіла! Акалее, падла, там!"

Гісторыя старожкі Ганны паказальная тым, наколькі зняважліва ставіцца вясковыя мужчыны да жаночых праблем — і нават карэктны настаўнік без лішніх разваг (пра смерць, жыццё, з'яўленне ў гэтым свеце чалавека) неўзабаве пасля Ганніных родаў едзе з дружбаком у Пінск піць піва.

Нявыпрацаванасць адпаведнага дыскурсу перашкаджала выказвацца не толькі героям, але і іх стваральнікам. Паводле ўкраінскай даследчыцы В. Агеевай, "у дамадэрнісцкай літаратуры было так шмат фігур замоўчвання, што выяўленне індывідуальнага вопыту, індывідуальнай псіхікі, стасункаў заўсёды падавалася аднабаковым, урывачным і непераканаўчым, бо каханне, адносіны паміж паламі зводзіліся выключна да рамантычнай рыторыкі, да «размоў пра…», да адстойвання непарушнасці адвечных забаронаў".

Такім чынам, у трылогіі "На ростанях" адмалявана выключная колькасць жаночых вобразаў, аднак цэнтральнымі гераінямі твора сталі тыпы, добра вядомыя літаратуры. На перыферыі ўвагі пісьменніка засталіся персанажы, стаўленне да якіх на вёсцы заўсёды было насмешлівым ці нядобразычлівым. Арыентацыя на сацыяльную рэчаіснасць не дазволіла Якубу Коласу развіць любоўны сюжэт, але падштурхнула да распрацоўкі канфлікту між маральным і пачуццёвым, да выяўлення спецыфікі інтымнага дыскурсу. Менавіта ў гэтым напрамку, бадай, і варта шукаць адказы на пытанне пра нераспрацаванасць тэмы кахання ў беларускай класічнай прозе. А грунтам для гэтых пошукаў выдатна могуць стаць самі класічныя тэксты.

# «Панёс ён людзям песень дар — Агонь душы і сэрца жар...»

**Віктар ШНІП**

## Лістапад Якуба Коласа

***

*у засценку Акінчыцы*
*калі бярозы дубы і ліпы*
*трымалі пагоднае неба*
*над разлівам залатым лістоты*
*як над пялёсткамі сонца*
*самотнага і тутэйшага*
*пачаўся дзень Якуба Коласа*
*і ягоны шлях бясконцы*
*як жыццё беларусаў*
*у якіх залатыя рукі*
*і залатыя сэрцы*
*ад якіх заўсёды светла*
*было ёсць і будзе*
*у белым свеце*
*і ў нашай Беларусі*

***

*свеціцца сузор'е вакон*
*хаты вясковай*
*і ў лістападзе не губляюцца*
*сцяжыны лясныя*
*па якіх прыходзяць ваўкі*
*паслухаць калыханкі*
*і малітвы людскія*
*і голас немаўляці*
*якое нарадзілася 3 лістапада*

***

*на хвалях Нёмана*
*чаўны і лістота*
*плывуць у вечнасць*
*праз лістапад і Беларусь*
*а вада ў Нёмане*
*як мёд васільковы*
*у якім неба як казкі жыцця*
*такое блізкае і роднае*
*дзе клёкат бусліны*
*і спеў жаўруковы*
*пераплятаюцца і ў вершах застаюцца*
*як малітвы ў Храмах*
*на якіх крыжы*
*як мячы беларускіх вояў*
*што за волю змагаліся*
*і каб Прарок нарадзіўся*

***

*яблыкі ў траве сівой*
*як золата ў срэбры*
*ляжаць у бацькоўскім садзе*
*дзе праз чорныя галіны дрэў*
*віднеецца шэрае неба*
*дзе лятуць жураўлі*
*як мары пра волю*
*як мроі пра сваю зямлю*
*дзе ростаняў не будзе*
*а толькі сустрэчы светлыя*
*як сустрэчы пяра з паперай чыстаю*

***

*дубы каля Нёмана як вежы*
*з якіх відаць увесь белы свет*
*і Беларусь*
*дзе жыў жыве і будзе жыць*
*Сымон-музыка*
*і ягоная адвечная песня*
*дзе ў кожным слове ёсць Бог*
*і ёсць Беларусь*
*ад якой мы ідзём*
*праз завеі спякоту дажджы*
*да Беларусі*
*як да сонца*
*якое ніколі не заходзіць*

***

*…і пройдуць сотні гадоў*
*і ў кожным годзе будзе лістапад*
*і ў кожным лістападзе*
*будзе лістапад Якуба Коласа*
*які пачаўся ў засценку Акінчыцы*
*у разліве залатой лістоты*
*як у пялёстках беларускага сонца*
*якое жыве ў творах Якуба Коласа*
*дзе родны кут заўсёды мілы*
*і дзе рыбакова хата*
*на беразе Нёмана*
*як на краі свету*
*слухае песні-жальбы*
*адзінокіх зорак*
*якія падаючы ў золата лістоты*
*абуджаюць сонца*
*што заглядваючы і ў наша ваконца*
*і ў нашы сэрцы*
*асвятляе шлях у Беларусь*
*пра якую марыў Якуб Колас*

**Ірына ТУЛУПАВА**

## Прэм'ера

*Музыка граў на цымбалах*
*На плошчы Коласа ў Мінску.*
*Аранжыроўку ў паднебных харалах*
*Ствараў гарэза-вятрыска.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*Як тут яго прадзед калісь.*
*Развозілі рэха па шпалах*
*Трамваі на ўвесь мегаполіс.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*І рытмы сталіцы веку*
*Падхоплівалі ў кварталах,*
*Спявалі пра лёс чалавека.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*Бы песні Сымона-музыкі*
*У далёкіх памятных далях*
*Схавалі скарб свой вялікі.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*Паміж гарадскіх баравінаў*
*Дзяўчынкі ў барвовых каралях*
*Спраўлялі каласавіны.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*І да яго на прэм'еру*
*Шчыльней, чым на княжацкіх балях,*
*Збіраліся кавалеры.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*І з прысталічных ваколіц*
*Над плошчай асфальтаванай*
*Узняў хтосьці жытні колас.*

*Музыка граў на цымбалах,*
*Той музыцы былі рады:*
*Чароўныя ноткі сабралі*
*Зярняты людской спагады.*

*Музыка граў на цымбалах*
*На плошчы Коласа ў Мінску.*
*Аранжыроўку ў паднебных харалах*
*Ствараў гарэза-вятрыска…*



*Акінчыцы. У хаце, дзе нарадзіўся Пясняр. Фота Кастуся Дробава*

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## Кульба

*Як птушаня*
*Па чыстым спеўным голасе,*
*Што, быццам нітку цягне і прадзе,*
*Пазнаў бы я адразу кульбу Коласа,*
*Дзе б ні ішла, па стуку*
*І хадзе.*

*Разец і лобзік*
*Лёталі, бы танчылі,*
*Ды выраблялі дзіва з дзіў, дальбог!*
*Такую кульбу ў Рудзенску вытачвалі,*
*Каб азбуку магла чытаць*
*Дарог.*

*І, пэўна, больш*
*Відушчая ад посаха,*
*Што ўпэўнена, дзе хочаш, паўсюдзе,*
*У Велікодны дзень ішла, як посуху,*
*Па возеры і сцішанай*
*Вадзе.*

*Хто ведае,*
*З ядлоўцу а ці з яблыні,*
*Ды з дзядзькам ў праўдзівенныя гады,*
*Дапаўшы у Парыж і вэрхал д'яблавы,*
*Выдатна знала выхады*
*Й хады!*

*Ішла не раз*
*Крамлёўскімі прыступкамі*
*Туды, дзе трэба ў жорнах час малоць.*
*І ўсе прыступкі, да адной, прастуквала,*
*Бы спрабавала сілу іх*
*І моц.*

*Вадзіла дзядзьку*
*З любасцю нязводнаю*
*У лес, дзе баравікі лезлі ў кош…*

*У цішыні музейнай дрэмле, родная,*
*І трызніць пахам пожні*
*І пакош.*

**Яўген КАРПУЦЬ**

## У Альбуцы

*Альбуцкі край! — дубы, крыніцы…*
*Прыгожым сном нам часта сніцца.*
*Дубы здзіўляюць даўніною*
*І Нёман — хваляю жывою.*

*Край непаўторны! Край багаты! —*
*Адпачываем тут па святах*
*І з яснай думкай, і настроем*
*Каля дубоў стаім ды хвояў.*

*Над стужкай Нёмана імклівай*
*Дубы — ў гамонцы шапатлівай.*
*Тут птушкі верхнія актавы*
*Даўно засвоілі на славу.*

*Паляны сонейкам заліты;*
*І нашы душы тут адкрыты.*
*Тут мова родная — жывая*
*І мудрасць Коласа святая.*

*Тут Колас з сэрцам, поўным ласкі,*
*Ствараў паэмы, вершы, казкі…*
*Таму прад гэтымі дубамі*
*Здымаем шапкі мы з сябрамі.*

## Пясняр

*Пясняр дзівіўся цішынёю;*
*Тут пошум дрэў да слова вёў,*
*Тут лес густы стаяў сцяною —*
*Слых лашчыў пошчак салаўёў.*
*Пад небам Бацькаўшчыны роднай*
*Душу натхненне грэла зноў.*
*Ва ўсмешцы Коласа лагоднай*
*Жылі Надзея і Любоў.*
*І запавет яго цудоўны*
*Хай кожны сёння беражэ! —*
*Жывіце ў згодзе, памяркоўна,*
*Жывіце, хлопчыкі, даўжэй!*
*Пясняр у поступе жыццёвым*
*Любіў дзяцей і белы свет.*
*Жыццё — у коласе жытнёвым,*
*А мудрасць — гэта сам паэт!*

**Вольга НОРЫНА**

## На плошчы Коласа

*Спёка ці сцюжа, лівень палошча*
*Горад ад рання,*
*У сэрцы яго, на Коласа плошчы, —*
*Наша спатканне.*

*Нібы з палону кола вавёрка,*
*Я вылятаю,*
*Крокамі мераю вуліцу — Горку,*
*Што Залатая.*

*Цалкам ўсё роўна — будзе вяснова,*
*Ясна ці хмарна.*
*У віры натоўпу шчасця падковай*
*Жоўтая арка.*

*Нават сабе не спытаю на згубу —*
*Любіць, не любіць.*
*Стрэча ля помніка дзядзьку Якубу.*
*Дзядзька не супраць.*

**Надзея ПАРЧУК**

## Наш Светач

*Як проста, як шчыра, як светла*
*Умеў мудры Колас тварыць!*
*Дасюль Наднямоння паветра*
*Радкамі паэта звініць.*

*І шэпчацца лісцем цяністы,*
*Падкоўваю выгнуты лес,*
*Ізноўку світанак празрысты*
*Па-над лесніччоўкай ўваскрэс.*

*Дый Нёман — штукар срэбраводны*
*Яшчэ не забыў Песняра,*
*Якому быў блізкім і родным*
*І ў творчасці слаўна спрыяў.*

*Паэзія хвалек пяшчотных*
*Жывой паланіла красой —*
*І стаў ён Паэтам народным*
*І Светачам нацыі ўсёй.*

*Ён словы з глыбінь жыватворных*
*Як дар да нашчадкаў панёс,*
*Бо ведаў: такіх непаўторных*
*Не вымаліць нам у нябёс...*

# Класік. Прарок. Чалавек




Зусім хутка грунтоўная паліца серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" выдавецтва "Мастацкая літаратура" папоўніцца новай кнігай. На гэты раз героем фаліянта, дзе сабраны ўспаміны, нарысы, эсэ і прысвячэнні, стаў Якуб Колас. Адметна і тое, што кнігу "Якуб Колас. У думках, у сэрцах, у песнях" уклаў сын песняра Міхась Міцкевіч.

**Чэслава ПАЛУЯН**

У прадмове да выдання Міхась Канстанцінавіч піша: "У гэтую кнігу, падрыхтаваную да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, увайшлі ўспаміны яго родных і блізкіх, паплечнікаў і сяброў, удзячных вучняў і землякоў. Большая частка ўспамінаў друкавалася раней. А колькі шчырых прысвячэнняў песняру, героям яго твораў і любым мясцінам створана паэтамі, чые сэрцы закранула Коласава слова!"

І сапраўды, аб'ём выдання ўражвае — амаль 600 старонак! Што да яго зместу, то адметную частку фаліянта склалі фрагменты з кнігі Максіма Лужаніна "Колас расказвае пра сябе", усе ж астатнія творы аб'яднаныя ў асобныя раздзелы. Так, "Карані і атожылкі" — гэта ўспаміны родных пра Якуба Коласа, у раздзел "Духоўны прарок і зямны чалавек" увайшлі нарысы, успаміны, эсэ творцаў, якія былі знаёмыя з Коласам. Тут пра сустрэчы з песняром распавядаюць Алена Васілевіч, Заір Азгур, Янка Маўр, Рыгор Шырма, Аркадзь Куляшоў, Васіль Быкаў і многія іншыя вядомыя ў беларускай культурнай прасторы асобы. Адметна і тое, што раздзел з паэтычнай назвай "Вось як цяпер, перада мною..." склалі вершы-прысвячэнні мясцінам Якуба Коласа. Свае ж вершы ў вянок класіку ўплялі аўтары раздзела "Забыць цябе не маю сілы".

Прадстаўляючы кнігу, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп падкрэслівае:

— Якуба Коласа мы ведаем з самага дзяцінства, мы выхоўваліся на яго творах, і кожны з нас пры патрэбе напісаў бы нешта асабістае пра Песняра. Нашаму выдавецтву пашанцавала, што над кнігай працаваў сын класіка Міхась Міцкевіч. Працаваў амаль два гады. Шкада, што не ўсе матэрыялы пра Якуба Коласа, знойдзеныя ў архівах, бібліятэках, музеі паэта, трапілі ў кнігу. Гэта перш за ўсё літаратуразнаўчыя артыкулы, крытычныя матэрыялы, навуковыя даследаванні творчасці Песняра. Не трапілі таму, што па задумцы серыі ў кнігах мы павінны прадстаўляць знакавых для нашай літаратуры пісьменнікаў, а не распавядаць пра адметнасці іх твораў. Матэрыялы пра паэзію і прозу Коласа, іх мастацкія вартасці маглі б скласці нават пяць такіх тамоў. Нягледзячы на тое, што ўсе выданні серыі "ЖЗЛБ" аб'яднаныя адной задумай, кожнае з іх па-свойму адметнае. Фармат кніг і іх змест у многім залежаць ад укладальніка, яго бачання і ступені заглыбленасці ў матэрыял.

Кніга "Якуб Колас. У думках, у сэрцах, у песнях" будзе мець тыраж дзве тысячы экзэмпляраў. І, як адзначае Віктар Анатольевіч, амаль на кожны з асобнікаў ужо ёсць пакупнік. І гэта не выпадкова, бо такія выданні — наша багацце, яны — своеасаблівыя помнікі і класікам, і гісторыі беларускай літаратуры, вяршыні, на якіх трымаецца зорнае неба нашага пісьменства.

Што да працягу серыі, то ён безумоўна будзе, у выдавецтва шмат ідэй, а галоўная — падрыхтаваць такія кнігі пра ўсіх народных пісьменнікаў Беларусі. Дарэчы, Міхась Міцкевіч упадабаў працу над укладаннем кніг серыі і сам прапанаваў выдаць том, прысвечаны Янку Маўру. Рукапіс павінен з'явіцца ўжо праз тры месяцы, і калі зоркі сыдуцца, то сама кніга пабачыць свет напрыканцы наступнага года.

— Час ідзе, і праз гады некаторыя пісьменнікі, якія сёння працуюць у літаратуры, магчыма, стануць героямі такіх кніг. Хацелася б, каб яны выходзілі пры жыцці творцаў, — разважае Віктар Шніп. — Нам як выдавецтву гэта было б надзвычай прыемна і ганарова. Як прыемна было працаваць над кнігай серыі "ЖЗЛБ", прысвечанай асобе трохразовага Алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя. Як ганарова рыхтаваць выданне пра Алену Бялову, чатырохразовую Алімпійскую чэмпіёнку.

Але і шэраг пісьменнікаў, чыю памяць варта было б ушанаваць такім чынам, таксама вялікі. Гэта Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, Іван Навуменка, Іван Мележ, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва і многія-многія іншыя. Кандыдатаў у героі кніг серыі шмат, галоўнае, каб былі складальнікі, людзі, якія не пашкадавалі б свайго часу і натхнення дзеля справы захавання памяці пра творцаў.

## У падтрымку чытання



**Намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Алена КУПЧЫНА:**

## «Стараюся чытаць і на іншых мовах»

— Чытаць я пачала рана, недзе ў чатыры гады. Дзякуючы маме, якая намі, дзецьмі, займалася вельмі актыўна. І адной з першых самастойна прачытаных была кніга Мікалая Носава "Незнайка на Луне".

У сярэдняй школе — усе прыгодніцкія творы. Фенімор Купер, Вальтэр Скот. Самая значная кніга, якая аказала на мяне ўплыў у тыя гады, — "Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча. Нават тады лічыла, што яна заслугоўвае Нобелеўскай прэміі. У юнацтве вельмі цікавіла англійская літаратура. Вершы Роберта Бёрнса. З вялікім задавальненнем чытала амерыканскіх аўтараў. Любіла сур'ёзную, "цяжкую" літаратуру, так бы мовіць. Фолкнера, напрыклад. Гэта пад уплывам майго таты, філосафа.

Цяпер кола маіх інтарэсаў — літаратура, якая датычыцца міжнароднага права: прафесійнай літаратурай неабходна цікавіцца. А калі выпадае вольны час, не цураюся і жаночага чытва, але стараюся чытаць на іншых мовах. Падабаецца Анна Гавальда — чытаю яе ў арыгінале, на французскай. І павінна прызнацца, на мове арыгінала яна больш цікавая.

# Калекцыя ад розных народаў

Адкрыццё выстаўкі "Дзівосны свет буквара" адбылося ў аддзеле мастацтваў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага. Сюды па запрашэнні музея Максіма Багдановіча прыехаў з Рыгі вядомы літоўскі калекцыянер Юрыс Цыбульс з мноствам буквароў і азбук розных народаў.



*Юрыс Цыбульс у Гродзенскай бібліятэцы.*

**Тамара МАЗУР, фота Ярaслава Ванюкевіча**

Юрыс Цыбульс мае 8 300 букварoў з 216 краін свету на 1030 мовах і гаворках. Яго калекцыя выстаўлялася ў школах, бібліятэках, клубах Латвіі больш як 170 разоў, была ўзнагароджана срэбраным медалём на ВДНГ у Маскве, пабывала ў Грэцыі і Расіі. У Беларусь частка гэтай калекцыі прывезена ўпершыню — у рамках дзяржаўнай праграмы культурнага супрацоўніцтва нашай краіны з Латвіяй.

Прыцягальная не толькі калекцыя букварoў Юрыса Цыбульса, але і яго асоба. Гэты чалавек — педагог па адукацыі, філолаг, выкладчык англійскай і нямецкай моў, журналіст, перакладчык. Ён жа з'яўляецца аўтарам буквара на латышскай мове, кнігі для чытання ў Пурлоўскай гаворцы латгальскай мовы і кнігі "Латгальскія буквары".

— На самай справе ад пачатку, з 1970 года, я збіраю мовы, а не буквары, — зазначыў спадар Цыбульс. — А калекцыя букварoў склалася таму, што іншым шляхам мовы з усяго свету не сабраць.

Пасля ўступу калекцыянер падышоў да школьнай дошкі, напісаў на ёй літару "А", якая ёсць ва ўсіх мовах, і правёў захапляльны ўрок пра тое, якая з моў самая багатая на гукі, якая — на літары, у якой ёсць толькі зычныя, а ў якой — толькі галосныя. З яго вуснаў можна было даведацца, як гучаць мовы, словы ў якіх прамаўляюцца толькі на выдыху альбо толькі на ўдыху; пра тое, што род у некаторых мовах можа быць не толькі мужчынскі, жаночы і ніякі, але і харчовы; што ёсць мовы, у якіх няма слоў "вайна", "салдат", "злодзей", бо там няма такіх паняццяў.

— Кожная мова — гэта чароўнае кола. І з яго няма выйсця, акрамя як перайсці ў іншае кола, — патлумачыў Юрыс Цыбульс. — Дзеля гэтага існуе граматыка. Яна патрэбная, каб вывучаць чужую мову, бо для роднай насамрэч дастаткова буквара.

100 год кнізе

# І пажартаваць, і пасумаваць

З раннімі апавяданнямі Якуба Коласа, у пачатку XX ст. вядомага яшчэ і пад псеўданімам Тарас Гушча, беларускі чытач меў магчымасць пазнаёміцца на старонках газеты "Наша ніва", а таксама першага і другога выпускаў "Зборніка «Нашай нівы»". Ацаніць іх адметнасці цалкам, комплексна прасачыць этапы развіцця творчага таленту пісьменніка крытыкі і аматары чытання прозы змаглі толькі ў ліпені 1912 года, калі ў Вільні, у выдавецтве "Прамень", пабачыў свет зборнік Тараса Гушчы з простай назвай "Апавяданні".

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Ужо ў жніўні ў "Нашай ніве" з'явілася рэцэнзія на гэты зборнік. Паводле меркавання І. Манькоўскага, аўтара крытычнага водгуку, кніга "варта ўвагі", бо Якуб Колас пісаў пра заганы беларускага грамадства, якія былі характэрны для яго на момант з'яўлення твораў, пяць год таму. Гэтыя хібы з часам павінны былі выправіцца, але, як адзначае аўтар, за пяць год у жыцці беларускай вёскі па сутнасці нічога не змянілася. Як пілі людзі шмат гарэлкі і піва ў корчмах, так і п'юць (апавяданне "Кірмаш"), як не ведалі, каго выбіраць у кіраўніцтва, так і дагэтуль не ведаюць ("Андрэй выбаршчык"). Таму Манькоўскі пераконвае: "Кніжка павінна знайсціся пад кожнай сельскай стрэхай, бо толькі пазнанне і крытыка саміх сябе могуць навучыць, што ў нас благое, што добрае, і падбіць народ, каб звясці ўсё злое, усе балячкі нашы да звання. Толькі тады благая мінуўшчына не будзе ўваскрасаць на кожным кроку, а вёска хутка пачне інакш выглядаць і прыме воблік культуры".

Але гэта толькі адзін бок медаля, то бок кнігі апавяданняў. Ёсць і іншы, які падаецца больш сімпатычным. Бо за такімі страшнымі характарыстыкамі Манькоўскага ўсё ж хаваецца добрая проза. Гэта, дарэчы, таксама адзначалі яшчэ ў час выхаду зборніка. Напрыклад, Антон Луцкевіч у артыкуле "Якуб Колас" пісаў: "Як просты, без пафасу вершы Якуба Коласа, так проста, але заўсёды жывая і абразовая проза яго. Піша ён лёгка — от, быццам у прыяцельскай гутарцы апавядае сябрам то аб жыцці-быцці роднай вёскі, то аб смяхотных здарэннях з вясковым "начальствам", а то і ў алегарычным, перанесным значэнні казкі расказвае. Сваей прастатой Колас чаруе чытача, робіцца нейкім блізкім, родным".

Гэтыя ж каштоўнасці прозы Т. Гушчы заўважыў і надзвычай патрабавальны крытык Максім Багдановіч: "…добра ўдае ўсякія размовы і таму ахвотна бярэцца за гэта ў сваіх апавяданнях. Вялікая частка напісанага ім складаецца з кароценькіх пытанняў і такіх жа адказаў, дзеля чаго і чытаецца лёгка. Да таго ж Т. Гушча ўмее і пажартаваць, і пасумаваць, і раздумацца, і чытача на думу навесці, што яшчэ болей надае вартасці яго творам".

Адзначаў Багдановіч і яшчэ адну адметную рысу Коласа — уменне знайсці трапныя словы, афарбаваныя нацыянальным каларытам, з якіх можна і пасмяяцца, і адчуць усю глыбіню прыроднага розуму селяніна-беларуса. Дарэчы, ёсць у творах зборніка і вельмі сімпатычныя героі. Як, напрыклад, дзед Юрка з апавядання "Бунт". Менавіта ў хаце гэтага старога збіраліся мужыкі, спрачаліся і гаманілі. Юрку ж паважалі за тое, што ён быў мудры, а таксама "не баяўся сказаць у вочы праўду; на ўсіх, нават на земскага начальніка казаў ён «ты»". А якая мова гэтага дзеда! "Ой, падла, хрушч і жабіны начовачкі!" — паглядзеўшы на вусы земскага і плюнуўшы, кажа Юрка.

Апроч апавяданняў, якія расказваюць розныя гісторыі з жыцця сялян, ёсць у зборніку і творы, што настройваюць на філасофскі лад: "Думкі ў дарозе", "Паўлюковы думкі", "У горадзе". Працытую апошняе: "Людзі, чужыя адзін аднаму, прагныя да ўсяго пустога і непатрэбнага, ішлі ды ішлі, як хвалі рачныя, абганялі адзін другога, кудысьці спяшаліся, пхаліся, таўкліся, як мухі над гаршком. Горад шумеў як дзень, так і ноч тысячамі галасоў". Адметна, што тут Колас ледзь не ўпершыню ў беларускай літаратуры звярнуўся да тэмы горада, і паказаў ён не зачараванасць яго прыгажосцю, а, наадварот, непрыманне і негатыўнае стаўленне свайго лірычнага героя-селяніна. Па сутнасці, гэты ж настрой, але ўжо ў паэтычнай форме пісьменнік выкажа ў паэме "Новая зямля" (раздзелы "Дзядзька ў Вільні" і "На Замкавай гары"), такое ж стаўленне мы маглі бачыць і раней — у вершы "Горад і вёска".

Некаторы час існавала меркаванне, што аўтарам гэтага твора з'яўляецца не Якуб Колас, але з успамінаў Марыі Міхайлаўны Бруй вядома, што верш належыць Якубу Коласу і чытаўся ім на адным з вечароў у час навучання ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі ў 1898 — 1902 гг. Лірычным героем верша "Горад і вёска" з'яўляецца селянін Гаўрыла, якому аднойчы надарылася магчымасць пабываць у вялікім горадзе. Праз параўнанне з вясковымі рэаліямі, адметным ладам жыцця і выяўляецца непрыманне ім горада: "Тут я целам, там мой дух". Гаўрыла разважае, што ў вёсцы можна сваім парадкам схадзіць у царкву, адпачыць, а потым зноў працаваць, жыццё ж у горадзе для яго сапраўды terra incognita, з незвычайнай манерай паводзін насельнікаў:

*Ну і горад, ступа нейка,*
*Што у нас куцю таўкуць:*
*Ашаломяць чалавека,*
*Спаць уночы не даюць.*
*Колькі шуму, колькі груку!*
*Я дзіўлюся, як тут жыць,*
*Па каменям, гэтым бруку*
*За грахі адны хадзіць.*

Але вернемся да прозы. Калі паэтычныя гарызонты для беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя былі больш-менш акрэсленыя, то празаічныя ўсё яшчэ заставаліся даволі цьмянымі. На той час ужо даволі вялікую папулярнасць атрымала так званае "вясковае" апавяданне, нібы пераказанае з жыцця, крыху наіўнае, але абавязкова з цвёрда акрэсленай мараллю. Колас прапануе зусім іншы тып прозы: без маралі (ох і пахваліў бы яго за гэта Эдгар По!), гісторыя больш прыдуманая, чым праўдзівая, з элементамі філасофскіх разважанняў. Менавіта такі тып прозы — што цалкам лагічна — атрымаў развіццё ў нашай літаратуры XX стагоддзя.

Анкета «ЛіМа»

## Прафесія і прызванне

**1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?**
**2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?**
**3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?**
**4. Як распараджаецеся ганарарамі?**
**5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?**
**6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?**
**7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?**



**Маргарыта КЛЯБАНАВА, рэдактар, выдавец:**

1. Па прафесіі я рэдактар. І на працягу ўсяго свайго працоўнага жыцця (а гэта ўжо 26 гадоў) працавала па спецыяльнасці. Мела ўсяго два месцы працы: выдавецтва "Полымя" і пасля яго рэструктурызацыі — камерцыйная рэкламная кампанія, дзе я таксама займалася рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасцю, але ўжо не ў чыстым выглядзе, а сінтэзавана, калі мая работа сумяшчала элементы ўсіх этапаў дадрукарскай падрыхтоўкі ад задумкі, збору матэрыялу, апрацоўкі гэтага матэрыялу да мастацкага і тэхнічнага афармлення. І такая "шматпланавасць", трэба сказаць, мне вельмі падабалася, давала адчуванне свабоды дзеяння, садзейнічала развіццю творчага пачатку, што і спатрэбілася пазней.

2. І так, і не. Калі я пішу, працую над творам, будучай кнігай як аўтар, намагаюся "ўбачыць" канчатковы варыянт, гэта значыць адрэдагаваны. І таму шукаю, перабіраю, аналізую. Верагодна, гэта фактар, які стрымлівае. Але, спадзяюся, не самы адмоўны.

3. Нагадваю сама сабе кожны раз: жыццё — гэта падарунак! Яму трэба радавацца. І я навучылася адналькава "кайфаваць" і ад простай няспешнай прагулкі па асеннім парку ў родным горадзе, і ад "экзатычнай" эмоцыі, што перахоплівае дыханне.

4 Часцей за ўсё гэтыя сродкі адкладваюцца на якую-небудзь "істотную" ці значную справу. Напрыклад, адпачынак, які, як правіла, робіцца "стартавай" пляцоўкай да новага праекта, новай задумы.

5. Калі б не была рэдактарам, стала б мастаком. У юнацтве займалася ў студыі выяўленчага мастацтва, вучылася ў мастацкім вучылішчы.

6. Мая сям'я мяне падтрымлівае. Больш за тое, старэйшая дачка, напрыклад, стала адным з аўтараў майго выдавецтва. Яна студэнтка пятага курса факультэта журналістыкі БДУ, рыхтуе да выдання сваю першую кніжку — невялічкі зборнік апавяданняў. Гэта смешныя і лірычныя, кранальныя і насычаныя рэаліямі гісторыі з жыцця сучаснай моладзі.

7. Хочацца без залішняй сціпласці адзначыць: "Таленавіты чалавек — таленавіты ва ўсім". І гэта шчасце, калі справа, якой займаешся, нясе табе задавальненне і ў пэўнай ступені з'яўляецца сродкам для існавання Асаладу ад таго, што раблю, атрымліваю заўсёды, хацелася б, каб і матэрыяльны бок "падцягнуўся".

# Шыпы на валошках



Дэбютны зборнік вершаў Цішкі Гартнага "Песні" пабачыў свет у 1913 годзе ў Пецярбургу. Літаратурныя крытыкі адразу ж загаманілі: у беларускай паэзіі з'явіўся новы лірычны герой! Побач з вобразам селяніна стаў рабочы! Але гэта будзе толькі праз год. На стужцы часу бачым лічбу "1912". Не здзіўляйцеся, для паэта яна не менш значная, чым "1913", а магчыма, нават і больш.

У гэтым годзе, пасля доўгіх пошукаў працы ў розных гарадах Беларусі, Украіны, Літвы і Латвіі, Зміцер Жылуновіч прыязджае ў Пецярбург, дзе ўладкоўваецца спачатку на завод "Вулкан", а потым у выдавецтва "Новы чалавек". І менавіта ў гэтым годзе на хвалі моцнага натхнення ён стварае вершы, якія пазней стануць асновай для паэтычнага зборніка.

Пісаць вершы Зміцер Жылуновіч пачаў яшчэ ў 1904 годзе. Але пісаў па-руску, а настаўнікам лічыў Мікалая Някрасава. Праз некалькі год малады паэт знаёміцца з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа і пачынае пісаць на беларускай мове. Таму невыпадкова першы свой верш "Бяздольны", надрукаваны ў 1909 г. у газеце "Наша ніва", Гартны прысвяціў Янку Купалу. З гэтага часу яго як паэтычныя, так і празаічныя творы сталі з'яўляцца на старонках беларускага друку.

Дарэчы, Янка Купала паэтычную творчасць Цішкі Гартнага ацэньваў станоўча: "Цішка не "майструе вершаў", а пяе, пяе ўсёй сваёй набалелай душой, усім сэрцам гарачым, кіпучым". Давайце і мы разгледзім яго песні ўзору 1912 года.

Калі казаць пра ўплыў толькі Купалы і Коласа на паэтычную творчасць Цішкі Гартнага, гэта значыць забывацца на іншыя крыніцы ўзбагачэння яго мастацкага светаўспрымання. А яны цалкам відавочныя. Гэта перш за ўсё фальклор. У прыватнасці, народныя песні, гераічныя балады, легенды і паданні. Менавіта тут карані яго жанравых прэферэнцый, вытокі вобразнасці. Ён сам акрэсліве жанр многіх сваіх твораў як "песні" — але надае ім сучасную аранжыроўку — індустрыяльную, а ў якасці герояў яго вершаў часам выступаюць "совы, ведзьмы, кажаны". Ды і па настроі песні — як і створаныя народам — розныя: вясёлая "Песня жняі" супрацьпастаўляецца сумнай "Песні грабара". Своеасаблівую песеннасць можна заўважыць не толькі ў вершах, чый жанр акрэслены самім аўтарам у назве, але і ў іншых творах. Да прыкладу, "Я жыву":

*Я жыву у ясным сонцы,*
*У яго праменнай кароны,*
*Ў яго сіле незмяранай;*
*У вясёлцы, ў зордарожжы,*
*У іх нязмераным разложжы*

Лірычны герой нібыта нават не спявае, а чытае нейкую замову. Адметна і тое, што паэт смела выкарыстоўвае наватворы (думаецца, "уласнай вытворчасці"). Не толькі "зордарожжа" і "разложжа" зіхацяць як дыяменты ў вершах Гартнага, але і "яскраблішчушчыя лугі", і дарога, якая "граніцірца" рабочым, і многія іншыя.

Сярод тэм, якія хвалююць аўтара, адно з самых важных месцаў займае патрыятычная: гэта і туга па радзіме, бо жыве Жылуновіч далёка ад роднага Капыля, дзе адчувае сябе нібы "ў кватах валошкі"; і перажыванні за лёс роднага краю, дзеля якога ён гатовы ахвяраваць нават самым дарагім: "Аддаў бы ўсё старане, // Старане сваёй роднай і мілай!"; і песня-малітва "Да надзеі" са зваротам даць яму самому сілы верыць у "васкросшую краіну" і свабоду, што "зазззяе для народа".

Пра "Песні" Цішкі Гартнага часам пішуць, што іх аўтар паэтызуе працу і лічыць яе асновай матэрыяльнага і духоўнага багацця чалавека. Гэта сапраўды так, але такая высова датычыць толькі працы вольнага чалавека, які мае вынік менавіта для свайго дабрабыту. Гэта перш за ўсё праца селяніна, яна збліжае яго з зямлёй, ды і сам працэс часам прыносіць асалоду. Калі ж гаворка заходзіць пра цяжкую працу рабочага, які і працуе шмат, і вынікаў для сябе амаль не мае, то Цішка Гартны пра яе не выказваецца адназначна. З аднаго боку так, гэтыя песні досыць бадзёрыя, яны паказваюць моц духу рабочых, але радасці ў іх няма. Ёсць толькі цярпенне, трыванне, вера ў свае сілы, а таксама позіркі на гадзіннік, які павінен паказаць канец працоўнага дня.

Прысутнічае ў вершах і вобраз рэвалюцыі, але схаваны за традыцыйным беларускім сімвалам — бурай:

*І зламаць паломам*
*З ветрам, з бурай, з громам*
*Ўсю бяду людскую,*
*Што ў жыцці пануе*
*З краю і да краю…*

Хоць Цішка Гартны і піша, што яго стыхія — "бура, навальніца, гром і бліскавіца", але можна адзначыць, што на 1912 год яго стыхія яшчэ і паэзія, тым больш што вынік гэты вецер прынёс добры — зборнік вершаў, і не адзін.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Альфер, М. В.** У свеце гукаў: вучэбны дапаможнік для 1-га класа спецыяльных агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання / М. В. Альфер, А. П. Сафонава. — 2-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Народная асвета, 2012. — 63 с. — 698 экз. — ISBN 978-985-03-1788-9.

**Антонава, Н. У.** Беларуская мова: 1-шы клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / Н. У. Антонава, Г. А. Галяш. — 4-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 48 с. — 25000 экз. — ISBN 978-985-19-0190-2.

**Беларуска-рускі слоўнік** = Белорусско-русский словарь: больш за 110 000 слоў: у 3 т. / [Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы ; пад рэдакцыяй А. А. Лукашанца]. — Выд. 4-е, перапрацаванае і дапоўненае. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012– — ISBN 978-985-11-0613-0 (у пер.).

Т. 2: З–П. — 2012. — 1087 с. — ISBN 978-985-11-0624-6.

**Беларуская дыялекталогія**: матэрыялы і даследаванні: зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2010– — ISSN 2219-9675.

Вып. 2: [да 100-годдзя з дня нараджэння Ю. Ф. Мацкевіч / рэдактары: В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч, Т. М. Трухан]. — 2012. — 262 с. — 150 экз.

**Беларуская мова**: 5-ты клас: выкананыя заданні з падрабязнымі тлумачэннямі: даведачны дапаможнік / [укладальнік: Т. М. Канашэвіч]. — Мінск: Кузьма, 2012. — 160 с. — Выдадзена пры ўдзеле ТАА «Харвест» (Мінск). — 4000 экз. — ISBN 978-985-453-582-1.

**Беларуская мова**: 7-мы клас: выкананыя практыкаванні да вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова. 7 клас» аўтараў Г. М. Валочкі, С. А. Язерскай / [складальнік А. А. Тарайковіч]. — Мінск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 206 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-560-035-1.

**Беларуская мова**: 8-мы клас: выкананыя практыкаванні да вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова. 8 клас» аўтараў: З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя / [складальнік Т. Ф. Пінчук]. — Мінск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 206 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-560-034-4.

**Беларуская мова**: 9-ты клас: выкананыя практыкаванні да вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова. 9 клас» аўтараў Н. М. Гардзей, П. Л. Навіцкага, З. М. Тамашэвіч / [складальнік А. А. Тарайковіч]. — Мінск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 207 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-560-033-7.

**Беларуская мова**: (прафесійная лексіка): практыкум: для курсантаў аддзялення вышэйшай адукацыі факультэта дзённага навучання / аўтары-ўкладальнікі С. В. Венідзіктаў, С. І. Даніленка; Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Магілёўскі вышэйшы каледж Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. — Магілеў: МгДУ, 2012. — 103 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-480-780-5.

**Галяш, Г. А.** Беларуская мова: 3-ці клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / Г. А. Галяш, Н. А. Жыліч. — 4-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 74 с. — 6100 экз. — ISBN 978-985-19-0141-4.

**Гістарычны слоўнік беларускай мовы** / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 1982–

Вып. 32: Смыковати – струмень / [складальнікі: А. М. Булыка і інш.; пад рэдакцыяй А. М. Булыкі]. — 2012. — 499 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-08-1413-5 (у пер.).

**Гульня-конкурс па беларускай мове і літаратуры «Буслік-2012»**: заданні, адказы, пазнавальныя артыкулы для вучняў 3–6-х класаў / [укладальнік Т. М. Лапіцкая]. — Мінск: Беларуская асацыяцыя «Конкурс», 2012. — 31 с. — 33400 экз. — ISBN 978-985-557-010-4.

**Гульня-конкурс па беларускай мове і літаратуры «Буслік-2012»**: заданні, адказы, пазнавальныя артыкулы для вучняў 5–11-х класаў / [укладальнік Т. М. Лапіцкая]. — Мінск: Беларуская асацыяцыя «Конкурс», 2012. — 63 с. — 88700 экз. — ISBN 978-985-557-011-1.

**Леўкіна, Л. Ф.** Беларуская мова: 2-гі клас: тэматычны кантроль: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / Л. Ф. Леўкіна. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 71 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0173-5.

**Леўкіна, Л. Ф.** Беларуская мова: карткі-заданні з падказкамі: 2-гі клас / Л. Ф. Леўкіна. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 144 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-956-2.

**Леўкіна, Л. Ф.** Беларуская мова: карткі-заданні з падказкамі: 3-ці клас / Л. Ф. Леўкіна. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 128 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-957-9.

**Леўкіна, Л. Ф.** Беларуская мова: карткі-заданні з падказкамі: 4-ты клас / Л. Ф. Леўкіна. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 128 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-958-6.

**Новікава, Г. Д.** Беларуская мова: 5-ты клас: апорныя канспекты: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / Г. Д. Новікава. — 3-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 109 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0126-1.

**Піскуноў, Ф. А.** Вялікі слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, акцэнтуацыя, парадыгматыка: каля 223 000 слоў / Ф. А. Піскуноў. — Мінск: Зміцер Колас, 2012. — XIV, 1195 с. — 240 экз. — ISBN 978-985-6992-17-2 (у пер.).

### Мастацкая літаратура на асобных мовах. Англійская літаратура

**Моэм, С.** Малый уголок: [роман-путешествие]; На китайской ширме: [этюды] / Сомерсет Моэм; [перевод с английского Г. Островской, И. Гуровой]. — Москва: Астрель, 2012. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41308-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1167-6 (Харвест) (в пер.).

**Сабатини, Р.** Маркиз де Карабас: роман / Рафаэль Сабатини; [перевод с английского Н. Н. Тихонова]. — Москва: Астрель, 2012. — 437 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-40813-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1170-6 (Харвест) (в пер.).

**Сабатини, Р.** Маркиз де Карабас: роман / Рафаэль Сабатини; [перевод с английского Н. Н. Тихонова]. — Москва: Астрель, 2012. — 437 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-40805-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1171-3 (Харвест) (в пер.).

**Сабатини, Р.** Под знаменем Быка: роман / Рафаэль Сабатини; [перевод с английского В. А. Вебера]. — Москва: Астрель, 2012. — 222 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-41657-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1239-0 (Харвест) (в пер.).

**Сабатини, Р.** Под знаменем Быка: роман / Рафаэль Сабатини; [перевод с английского В. А. Вебера]. — Москва: Астрель, 2012. — 222 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1000 экз. — ISBN 978-5-271-41536-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1240-6 (Харвест) (в пер.).

**Хилл, С.** Смерть под маской: [роман] / Сьюзен Хилл; [перевод с английского В. Ф. Мисюченко]. — Москва: Астрель, 2012. — 158 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-40880-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1029-7 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Гамильтон, Л.** Прегрешения богов: [фантастический роман] / Лорел Гамильтон; [перевод с английского Е. А. Маликовой]. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 445 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-17-072846-6 (АСТ). — ISBN 978-5-271-40557-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1236-9 (Харвест) (в пер.).

**Лондон, Д.** До Адама: [повесть]; Алая Чума: [роман] / Джек Лондон; [перевод с английского Н. В. Банникова и Г. П. Злобина]. — Москва: Астрель, 2012. — 285 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-41607-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1222-2 (Харвест) (в пер.).

**Лондон, Д.** До Адама: [повесть]; Алая Чума: [роман] / Джек Лондон; [перевод с английского Н. В. Банникова и Г. П. Злобина]. — Москва: Астрель, 2012. — 285 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1000 экз. — ISBN 978-5-271-41608-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1223-9 (Харвест) (в пер.).

**Шелдон, С.** Если наступит завтра: роман / Сидни Шелдон ; [перевод с английского А. А. Соколова]. — Москва: Астрель, 2012. — 429 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41251-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1285-7 (Харвест) (в пер.).

### Французская літаратура

**Верн, Ж.** Дунайский лоцман; Деревня в воздухе: [романы] / Жюль Верн; [перевод с французского И. А. Аксенова, А. М. Волкова]. — Москва: Астрель, 2012. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41524-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1237-6 (Харвест) (в пер.).

**Верн, Ж.** Дунайский лоцман; Деревня в воздухе: [романы] / Жюль Верн; [перевод с французского И. А. Аксенова, А. М. Волкова]. — Москва: Астрель, 2012. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41525-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1238-3 (Харвест) (в пер.).

**Гюго, В.** Человек, который смеется: [роман] / Виктор Гюго; [перевод с французского Б. Лившица]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 637 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-071414-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-35045-0 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9721-8 (Харвест) (в пер.).

### Бразільская літаратура на партугальскай мове

**Коэльо, П.** Дневник мага / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 287 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. — ISBN 978-5-17-052080-0 (АСТ). — ISBN 978-5-271-20195-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1284-0 (Харвест).

### Руская літаратура

**Арбенина, Д. С.** Аутодафе: [тексты песен, стихи, литературная версия моноспектакля] / Диана Арбенина; [художник Виолетта Суровцева]. — Москва: Астрель, 2012. — 239 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41581-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1334-2 (Харвест) (в пер.).

**Балашов, Д. М.** Дмитрий Донской. Битва за Святую Русь: трилогия / Дмитрий Балашов. — Москва: Астрель, 2012. — 1021 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41-175-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1255-0 (Харвест) (в пер.).

**Вайнер, А. А.** Петля и камень в зеленой траве: [роман] / А. и Г. Вайнеры. — Москва: Астрель, 2012. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-41978-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1111-9 (Харвест) (в пер.).

**Дашкова, П. В.** Херувим: роман / Полина Дашкова. — Москва: Астрель, 2011. — 510 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-39499-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0980-2 (Харвест) (в пер.).

**Дашкова, П. В.** Чеченская марионетка, или Продажные твари: роман / Полина Дашкова. — Москва: Астрель, 2011. — 378 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-39501-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0957-4 (Харвест) (в пер.).

**Дашкова, П. В.** Чувство реальности: роман / Полина Дашкова. — Москва: Астрель, 2011. — 510 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-39503-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0981-9 (Харвест) (в пер.).

**Достоевский, Ф. М.** Униженные и оскорбленные: [роман] / Федор Михайлович Достоевский. — Москва: Астрель, 2012. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41611-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1088-4 (Харвест) (в пер.).

**Достоевский, Ф. М.** Униженные и оскорбленные: [роман] / Федор Михайлович Достоевский. — Москва: Астрель, 2012. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41606-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1087-7 (Харвест) (в пер.).

**Капитонов, А. И.** Время мое: поэзия: (верлибр, танка) / Анатолий Капитонов. — Минск: Виктор Хурсик, 2012. — 97 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6888-80-2.

**Капитонов, А. И.** Найти забытое мгновение = Retrouver un moment oublié: поэзия / Анатолий Капитонов; [перевод на французский язык и составление Нины Дебольской]. — Минск: Виктор Хурсик, 2012. — 95 с. — Текст параллельно на русском и французском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-6888-83-3.

**Кунин, В. В.** Пилот первого класса; Привал; Воздухоплаватель; Старшина; Самолет: [сборник] / Владимир Кунин. — Москва: Астрель, 2012. — 635 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-42282-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1294-9 (Харвест) (в пер.).

**Малявин, М.** Новые записки психиатра, или Барбухайка, на выезд!: [сборник рассказов] / Максим Малявин; [рисунки Кирилла Гарина]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2012. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-40004-9 (Астрель). — ISBN 978-5-9725-2196-8 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-18-1357-1 (Харвест) (в пер.).

**Михалкова, Е. И.** Комната старинных ключей: роман / Елена Михалкова. — Москва: Астрель, 2012. — 413 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 20000 экз. — ISBN 978-5-271-42778-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1286-4 (Харвест) (в пер.).

**Платова, В. Е.** Ритуал последней брачной ночи: роман / Виктория Платова. — Москва: Астрель, 2012. — 477 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1000 экз. — ISBN 978-5-271-40409-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1316-8 (Харвест).

**Платова, В. Е.** Ритуал последней брачной ночи: роман / Виктория Платова. — Москва: Астрель, 2012. — 477 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-271-40408-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1315-1 (Харвест) (в пер.).

**Прилепин, З.** Черная обезьяна: роман / Захар Прилепин. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 285 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-17-073246-3 (АСТ). — ISBN 978-5-271-34494-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0453-1 (Харвест) (в пер.).

**Санаев, П. В.** Похороните меня за плинтусом: [повесть: + 3 ранее не публиковавшиеся главы] / Павел Санаев; [иллюстрации Александры Николаенко]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-063842-0 (АСТ). — ISBN 978-5-271-26154-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1146-1 (Харвест) (в пер.).

**Сноб. Герои**: 30 лучших очерков, 2008–2011 / [составитель Сергей Николаевич; ответственный редактор Елена Шубина]. — Изд. 2-е, исправленное и дополненное. — Москва: Астрель, 2012. — 654 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — На титульном л.: партнер проекта BELUGA. — Содержит авторов: Быков Д., Вапняр Л., Гаррос А., Гессен М., Егерева Е., Качуровская А., Котин М., Николаевич С., Панюшкин В., Паперный В. — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-41964-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1007-5 (Харвест) (в пер.).

**Ян, В. Г.** Огни на курганах / Василий Ян. — Москва: Астрель, 2012. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-41726-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1261-1 (Харвест) (в пер.).

**Ян, В. Г.** Огни на курганах / Василий Ян. — Москва: Астрель, 2012. — 446 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-41725-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1260-4 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Богданова, Л.** Жена для курорта: [роман] / Лина Богданова. — Минск: Беларусь, 2012. — 158 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-0953-8.

**Волочник, Н. С.** Миг на заре: сборник стихов, [поэмы] / Наталия Волочник. — Несвиж: Несвижская укрупненная типография, 2012. — 215 с. — Часть текста на белорусском языке. — 30 экз. — ISBN 978-985-6796-75-6 (в пер.).

**Восхождение**: сборник Полоцкого литературного объединения / [составитель С. Чижова]. — Минск: Кнігазбор, 2012. — 211 с. — Часть текста на белорусском языке. — Содержит авторов: Архипова В. А., Атрахімовіч В. П., Багарадава Т. Р., Белоус В. В., Богданович Г. М., Голубева О. А., Грановский В. Л., Гридасов М. А., Гринев В. Д., Гугнин А. А., Гужавин П. С., Ена В. А., Заидова Г. Р., Замковская И. В., Іванова А. К., Касцюк Ю. Г., Комков М. В., Коновальчук Б. А., Лёціна З. М., Мартыненко А. П., Масленок В. М., Моргович В., Москаленко Д. Г., Осмоловский В. А., Пугачевская Д. И., Пугачевский Д. Г., Пушкина-Гадуцкая З. К., Реер Е. В., Салодкая Н. С., Салтанова В. Б., Свиридова М. В., Сідаровіч К. Ю., Собитнюк Н. А., Соколовская В. А., Сокоренко Л. П., Старинский В. А., Трофимчук В. Н., Тюшкова Н. П., Цітова Р. М., Чернякова-Дмитри-ева В., Чижова А. М., Чижова С. А., Шабанова Р. К., Шеф Л. А., Шнитко М. Ф. — 150 экз. — ISBN 978-985-7007-63-9.

**Голденков, М. А.** Три льва: [роман] / Михаил Голденков. — Минск: Букмастер, 2012. — 317 с.— 3050 экз. — ISBN 978-985-549-234-5 (в пер.).

**Григорович, Я. К.** В гармонии с людьми и природой: стихи / Янина Григорович; [автор предисловия: Васіль Дэбіш]. — Брест: Альтернатива, 2012. — 107 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-521-297-4.

**Гришковец, В. Ф.** Я из тех...: избранное / Валерий Гришковец. — Минск: Харвест, 2012. — 382 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-1076-1 (в пер.).

**Груздов, А.** Метод исключения: [роман] / Аркадий Груздов, Елена Конышева. — Минск: Букмастер, 2012. — 250 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-196-6 (в пер.).

**Груздов, А.** Правило мести: [роман] / Аркадий Груздов, Елена Конышева. — Минск: Букмастер, 2012. — 253 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-195-9 (в пер.).

**Деружинский, В.** По следу призрака: [роман] / Вадим Деружинский. — Минск: Букмастер, 2012. — 282 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-193-5 (в пер.).

**Дроздов, А.** Витязи в шкурах: [роман] / Анатолий Дроздов. — Минск: Букмастер, 2012. — 350 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-202-4 (в пер.).

**Дроздов, А.** Денарий кесаря: [роман] / Анатолий Дроздов. — Минск: Букмастер, 2012. — 316 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-204-8 (в пер.).

**Дроздов, А.** Золотые апостолы: [роман] / Анатолий Дроздов. — Минск: Букмастер, 2012. — 280 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-201-7 (в пер.).

**Дроздов, А.** Изумруд Люцифера: [роман] / Анатолий Дроздов. — Минск: Букмастер, 2012. — 285 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-200-0 (в пер.).

**Дудюк, З. И.** Гонка за волком / Зинаида Дудюк. — Минск: Харвест, 2012. — 444 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-18-1397-7 (в пер.).

**Золотой колос**: литературный альманах творчества студентов, учащихся, выпускников, работников вузов и колледжей АПК / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет, Управление воспитательной работы с молодежью, [Творческое литературно-художественное объединение «Першапачаткоўцы»; под общей редакцией Н. В. Казаровца; составитель: Торбовская Алеся Михайловна]. — Минск: БГАТУ, 2012–

Вып. 1: Рукописный литературный альманах. — Факсимильное изд. — 2012. — 37 с. — Выходные данные оригинала: Минск: БИМСХ, 1958. — 100 экз.

Вып. 2. — 2012. — 67 с. — 100 экз.

**Иванов-Смоленский, В. Г.** Повелитель мгновений: [роман] / Валерий Иванов-Смоленский. — Минск: Харвест, 2012. — 317 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-18-1415-8 (в пер.).

**Исаев, С. О.** Семью семь: сборник стихов: вторые 50 лучших стихов Семена Исаева / Семен Исаев. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 55 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7008-92-6.

**Лучшие медицинские анекдоты**. — Минск: Букмастер, 2012. — 63 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-231-4.

**Магер, П. П.** Среди моих дождей...: стихи / Петр Магер. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2012. — 52 с. — Часть текста на белорусском языке. — 26 экз. — ISBN 978-985-6936-42-8.

**Магнова, Л. С.** Исповедь белой вороны: стихи / Людмила Магнова; [художник: Галина Коновалова]. — Минск: Ковчег, 2012. — 497 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-7006-51-9 (в пер.).

**Маслюков, В. С.** Рождение волшебницы. Потоп: [роман] / Валентин Маслюков. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 318 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-556-005-1 (в пер.).




## Кнігарня «Акадэмкніга», г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Алесь Краўцэвіч. Гедымін (1316 — 1341). Каралеўства Літвы і Русі. — Мінск: С. Ю. Татарнікава, 2012.

2. Сергей Олехнович. Руслан Салей. Просто лучший. — Минск, Медисонт, 2012.

*Эта книга — дань памяти великому белорусскому хоккеисту Руслану Салею, а также игрокам, тренерскому штабу ярославского "Локомотива" и членам экипажа самолета "Як-42Д", погибшим в авиакатастрофе в ярославском аэропорту Туношна. Но это не книга-реквием, она — о жизни. О жизни лучшего игрока в истории белорусского хоккея, в которой, несмотря на отведённые ему на этой Земле неполные 37 лет, Руслан успел сделать очень многое.*

3. А. И. Локотко [и др]. Туристическая мозаика Беларуси. — Минск, Беларуская навука, 2011.

4. Сергей Плыткевич. Планета Беларусь. Planet Belarus. — Минск: Рифтур, 2011.

5. Уладзімір Караткевіч. Збор твораў. Т. 1. Паэзія, 1950 — 1960. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012.

6. Наталья Батракова. Миг бесконечности. — Минск: Регистр, 2012.

7. О. В. Новицкая. Мирский замок. Мірскі замак. Mir Castle. — Минск: Беларусь, 2012.

8. Институт белорусской культуры и становление науки в Беларуси (к 90-летию создания Института белорусской культуры). Материалы Международной научной конференции. Минск 8 — 9 декабря 2011 г. — Минск, Беларуская навука, 2012.

9. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.

10. Польша — Беларусь (1921 — 1953): сборник документов и материалов, сост. А. Н. Вабищевич [и др.]. — Минск: Беларуская навука, 2012.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Евгений Комаровский. Здоровье ребёнка и здравый смысл его родственников. — Москва: Книжный клуб 36,6, 2012.

2. Пауло Коэльо. Алхимик. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.

3. Харуки Мураками. Норвежский лес. — Москва: Эксмо, 2012.

4. Эрих Мария Ремарк. Триумфальная арка. — Москва: Астрель, 2012.

5. Бернар Вербер. Тайна богов. — Москва: РИПОЛ классик, 2012.

6. Рэй Брэдбери. 451 градус по Фаренгейту. — Москва: Эксмо, 2012.

7. Сергей Лукьяненко. Новый дозор. — Москва: Астрель, 2012.

8. Михаил Булгаков. Мастер и Маргарита. — Москва: Астрель, 2012.

9. Борис Акунин. Смерть Ахиллеса. — Москва: Захаров, 2012.

10. Дарья Донцова. Шесть соток для Робинзона. — Москва: Эксмо, 2012.

Жыццё і творчасць Якуба Коласа прыцягваюць увагу даследчыкаў-коласазнаўцаў ужо не адно дзесяцігоддзе. Яго творчасць, як невычэрпная крыніца, наталяе духоўную смагу новых і новых пакаленняў свядомых беларусаў, а багатае на падзеі жыццё, стасункі з рознымі людзьмі дапамагаюць больш глыбока раскрыць характар, псіхалогію, ды і па-новаму прачытаць асобныя творы.

Сёлета ўжо ў 27-ы раз музей праводзіць свята "Каласавіны", у рамках якога адбудзецца навуковая канферэнцыя — удзел у ёй бяруць даследчыкі, вучоныя не толькі з Беларусі, але і суседніх рэспублік. І штогод з'яўляюцца новыя, цікавыя адкрыцці асобных перыядаў жыцця паэта, новы погляд на яго творчасць, цікавасць да яго паэзіі за межамі Беларусі.

Апошнія гады навуковая канферэнцыя "Каласавіны" пад кіраўніцтвам музея і пры падтрымцы Міхася Мушынскага была скіравана на даследаванне асоб, якія вялі перапіску з народным паэтам, сустракаліся, мелі стасункі як сяброўскія, так і выключна дзелавыя. У выніку музеем вядзецца работа па падрыхтоўцы энцыклапедычнага даведніка "Я. Колас і яго акружэнне". У фондах захоўваецца перапіска Якуба Коласа, лісты да паэта як знаёмых, блізкіх, родных, так і эпізадычнае ліставанне. Супрацоўнікамі музея Песняра па матэрыялах фондаў падрыхтавана каля 200 паведамленняў пра асоб, што мелі зносіны з Коласам. Сёння ўвазе чытачоў "ЛіМа" — няпростыя і неадназначныя стасункі з крытыкам Лукашом Бэндэ.

**Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ**

# …Ці патрэбны Бэндавы прадмовы?

Лукаш Бэндэ ў свой час пісаў манаграфію пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, а таму часам прасіў славутага Песняра праясніць некаторыя цьмяныя старонкі біяграфіі і творчага шляху: "Прашу Вас прабачыць мяне за лішнія турботы, але справа прымушае. Я падрыхтоўваю да друку сваю кніжку «Жыццё і творчасць Якуба Коласа», якую напісаў яшчэ ў 1941 г. І вось я сустрэўся з шэрагам пытанняў, якія развязаць можаце толькі Вы" (ліст датаваны 23.04.1946 г.). Колас вельмі падрабязна адказваў на пытанні Бэндэ, і з гэтых адказаў можна атрымаць шмат карыснай інфармацыі. Хаця яшчэ ў гады вайны (20.03.1942 г.) Бэндэ напісаў Коласу: "Книга моя о вас за день до войны была принята <…> Госиздатом к печати. Рецензировало её два человека: доктор филологических наук и второй рецензент политический. Оба рецензента дали блестящие отзывы, не возразив ни единым словом. Но война разрушила планы…"



*Фота прадастаўлена Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа.*

**Вадзім КОРАНЬ**

Трэба зазначыць, што манаграфія Л. Бэндэ "Жыццё і творчасць Якуба Коласа" (на жаль ці на радасць) так ніколі і не выйшла. Некаторыя яе раздзелы манаграфіі захоўваюцца ў ЦДАМЛіМ Беларусі. Лісты Коласа да Бэндэ (6 з 8) апублікаваў Генадзь Кісялёў у сваім даследаванні "З жыццяпісу Якуба Коласа" (Мінск, 1982).

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа захоўваюцца ўсе 8 лістоў Бэндэ да Коласа ваеннага і пасляваеннага часу.

Л. Бэндэ можна назваць "руплііўцам" на ніве даследавання беларускай літаратуры. Пра гэта сведчаць захаваныя ім архівы рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў, па-другое, дакладная запіска на імя "заместителя председателя Верховного Совета БССР К. М. Мицкевича (Якуба Коласа)". Ніжэй прыводзяцца вытрымкі з гэтай дакладной запіскі, з якіх стане зразумела, чаму Бэндэ называецца "руплііўцам":

"…Я имел возможность ознакомиться с белорусскими фондами архивов Литовской ССР (г. Вильнюса).

В составе этих фондов несколько тысяч единиц хранения (около 30 ящиков) материалов газеты "Наша Ніва", издательств "Загляне сонца і ў наша ваконца" і "Мінчук", Белорусской кооперативной суполки, Белорусского банка, материалы Пражского белорусского архива, Берлинского архива, материалы Вайсковай камисии, архивы разных редакций, личные документы Цётки, Янки Лучины, рукописи Якуба Колоса (корректура повести "У палескай глушы", рукопись "Другога чытання" и др.), рукописи М. Богдановича, Янки Купалы, Бядули и многих других писателей, разные бумаги и переписка Луцкевичей и многое другое…

<…> Я неоднократно предлагал директору института Литературы Академии Наук тов. Борисенко В. В. направить в г. Вильнюс группу научных работников для того, чтобы разобрать и описать эти материалы…

<…> На деле, однако, ни институт литературы, ни другие учреждения БССР не проявили никакого интереса к названным материалам. Между тем я утверждал и утверждаю, что без изучения этих материалов нельзя сколько нибудь серьёзно говорить о написании Истории белорусской литературы.

<…> Пользуясь случаем, хочу поставить перед Вами вопрос о жизненной необходимости учёта и копировки материалов, относящихся к истории белорусской литературы и хранящихся в архивах гг. Ленинграда, Москвы, Киева, Львова, Казани, Смоленска (если сохранился архив), а также в архивах и библиотеках польских городов Варшавы, Познани и Кракова.

Только на базе большого фактического материала можно создать подлинно научную историю белорусской литературы.

Л. Бэндэ".

Гэтая дакладная запіска датавана 25 лістапада 1947 г.

А вось што ўспамінае старэйшы сын Якуба Коласа Д. К. Міцкевіч у сваёй кнізе "Любіць і помніць" (Мінск, 2000): "У абставінах жудаснага сталінскага тэрору запанавала атмасфера цемрашальства ў галіне культурнага жыцця. Шалёныя нападкі пасыпаліся на многія творы Коласа, Купалы, Багдановіча, Гарэцкага, іншых беларускіх пісьменнікаў. Шарлатаны і прайдзісветы кшталту Бэндэ і яго памагатых абрынулі аглаблюю крытыку на лепшыя творы беларускай літаратуры. "Новую зямлю" назвалі творам, які ўслаўляе прыватную ўласнасць на зямлю, апяваe кулацкую гаспадарку, з'яўляецца варожаю рэччу, пярэчыць шчасліваму жыццю сялян у калгасах". Гэтаму сведчанню няма падстаў не давяраць. Колас, вядома, адчуваў небяспеку, якую нёс сабою Л. Бэндэ, і таму не дазваляў сабе ў перапісцы з ім неабдуманых слоў. У Коласа нават ёсць верш, прысвечаны Л. Бэндэ, — "Аўтару прадмоў да твораў "старых" пісьменнікаў". Вось сведчанне Данілы Канстанцінавіча: "Доўгі час "Новая зямля" не перавыдавалася. Нязначныя тыражы выданняў 1923 і 1927 гадоў (па 3000 экзэмпляраў) даўно разышліся, і паэма стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Новае выданне паэмы затрымлівалася на працягу трох гадоў... з-за адсутнасці прадмовы Бэндэ. З гэтай нагоды Колас апублікаваў верш "Аўтару прадмоў да твораў "старых" пісьменнікаў":

*Піша, піша Бэнда,*
*Крытык наш суровы,*
*Да паэм даўнейшых*
*Грозныя прадмовы.*
*Час ідзе, і твораў*
*Тых не знойдзеш з свечкай*
*І аб іх заціхлі*
*Гутаркі і спрэчкі.*

*"Новая зямелька"*
*Сталася старою,*
*Выраслі калгасы*
*Гэтаю парою.*

*А наш крытык піша,*
*Піша і сівее,*
*Мабыць іх напіша,*
*Калі Колас сталее.*

*Новая эпоха,*
*І кірунак новы...*
*Можа ці патрэбны*
*Бэндавы прадмовы?*

На шчасце, прадмова Бэндэ не спатрэбілася. Давялося самому Коласу пісаць прадмову. Аўтара вымусілі асудзіць сваё любімае дзецішча, прыпісаць яму неіснуючыя "грахі". Інакш паэма не магла б выйсці ў свет".

М. Мушынскі ў сваім даследаванні "Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці" піша: "У "Маладняку", № 5 надрукаваны "Матэрыялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры (Уводзіны)" Л. Бэндэ. Творчасць Якуба Коласа разглядаецца з пазіцый вульгарнага сацыялагізму, ваяўніча-га дагматызму. Аўтар "Новай зямлі" і іншых рэалістычных, глыбока народных твораў характарызуецца тут як ідэолаг "буржуазнай часткі сялянства". Негатыўная ацэнка творчасці Якуба Коласа была паглыблена ў 2-й ч. "Матэрыялаў для нарысаў...", напісанай Л. Бэндэ і А. Кучарам. ("Маладняк", № 6 — 7). У вершах, апавяданнях, паэмах Коласа крытыкі-вульгарызатары знаходзілі "песімістычны настрой", "нацыянальную ідэалогію нашаніўства", "містычнасць, упадніцкую хваравітасць, адрыў ад канкрэтнай рэчаіснасці" і г.д."

У музеі Коласа захоўваюцца фотаздымкі, на якіх ёсць і Колас, і Бэндэ. Але гэтыя фотаздымкі агульныя, разам з іншымі літаратарамі. Разам Колас і Л. Бэндэ ніколі не фатаграфаваліся.

Лукаш Бэндэ (1903 — 1961) — беларускі крытык і літаратуразнавец. Скончыў Камуністычны ўніверсітэт імя У. І. Леніна (1926). Друкаваўся з 1925 года. Працы Л. Бэндэ не вызначаліся ні навуковай, ні эстэтычнай глыбінёй. У 1930-я гады — адзін з найбольш адыёзных крытыкаў. Ідучы ад канцэпцыі "сацыялогіі мастацтва" У. Фрычэ, Бэндэ вульгарызаваў і спрашчаў яе. Літаратурны вобраз разглядаў толькі як ілюстрацыю класавай ідэалогіі і палітычнага светапогляду, ігнаруючы своеасаблівасць і індывідуальнасць мастацкага пазнання рэчаіснасці. Прыкрываючыся ідэяй "новай пралетарскай культуры", цалкам адмаўляў культурны набытак мінулага, усю дарэвалюцыйную беларускую літаратуру абвяшчаў контррэвалюцыйнай, прасякнутай буржуазна-ліберальнай ідэалогіяй. З гэтых пазіцый займаўся палітычнай і літаратурнай дыскрэдытацыяй Якуба Коласа і Янкі Купалы. Абвінавачваў сяброў літаратурных аб'яднанняў "Узвышша" і "Полымя" ў буржуазным нацыяналізме. Вялікі архіў Л. Бэндэ знаходзіцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі.

Унікальны праект

# Убачыць на ўласныя вочы



Да юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа выдавецтва "Беларусь" падрыхтавала праект, які прыйдзецца даспадобы калекцыянерам. Навукова-папулярнае выданне "Беларусь. Зямля песняроў. Belarus. The Land of Poets" (аўтар тэксту Анатоль Кляшчук) убачыла свет на беларускай і англійскай мовах па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. На яго шыкоўных мелаваных старонках — каляровыя фотаздымкі А. Клешчука і з архіваў літаратурных музеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Пачынаецца кніга з прыгожага старажытнага падання, у якім тры стомленыя падарожнікі, прысеўшы адпачыць, пачулі, як нехта спявае, і сталі разважаць: "Можа, жаўрук? А можа, лес шуміць?" А трэці, прыпаўшы да зямлі, прашаптаў: "Ды гэта ж зямля наша спявае!"

"Незвычайная сваімі людзьмі, сваімі краявідамі — рэкамі і азёрамі, лясамі і балотамі, курганамі, крыніцамі. Сваёй гісторыяй… — далучаецца да падання аўтар. — І тым яшчэ, што ў адначассе стала калыскай вялікіх песняроў, волатаў думкі і слова — Янкі Купалы і Якуба Коласа".

Анатоль Кляшчук нарадзіўся ў вёсцы Вынісцы Слуцкага раёна ў 1957 годзе. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Прысвяціў сябе прафесіі фатографа прэсы. З 1985 года працаваў фотакарэспандэнтам у вядучых дзяржаўных выданнях Беларусі, з 1993-га — у газеце "Звязда". Правёў больш як 30 персанальных выставак. Яго фотаработы бачылі ў Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, Даніі, ЗША, Ірландыі, Літве, Канадзе, Кітаі, Польшчы, Расіі, Швейцарыі, Японіі. Найбольш значныя выставачныя праекты адбыліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі (2006), Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку (2001), Палацы Лігі Нацый у Жэневе (2003), Еўрапарламенце ў Бруселі (2001, 2006), галерэі Вілі Бранд Хаус у Берліне (2006). На яго рахунку фотаальбом краявідаў і прыроды "Пад небам Беларусі" (2003, 2005, 2007). Анатоль Віктаравіч — суаўтар двух фотаальбомных праектаў: "Чарнобыль" (Мінск, 2006) і "Чарнобыль 1986 — 2006. Жыць з трагедыяй" (Гановер, 2006).

Падчас працы над фотаальбомам, прысвечаным 130-годдзю класікаў беларускай літаратуры, Анатоль Кляшчук наведаў мясціны, звязаныя з іх жыццёвым шляхам: Маладзечанскі, Мінскі і Лагойскі раёны, Нёман і Свіслач у розныя поры года і станы надвор'я засталіся ў яго фотаўспамінах.

У эмацыянальным уступным слове да подпіса пад артыкулам ён дадае: "З надзеяй, што невычэрпнай крыніцай будзе для суайчыннікаў не толькі творчасць славутых песняроў Купалы і Коласа, але і сама зямля, якая іх узгадавала".

Адкрываюць выданне два эпіграфы. Купалавы словы: "З маленства звязаны з беларускім народам, з бядотай, з народнаю песняй, якую я заўсёды любіў, з прыродай Беларусі, — я прысвяціў сябе, усю творчасць свайму народу" — і словы Коласа: "Маё жыццё цякло ва ўлонні прыроды сярод лясоў і палёў, птушыных спеваў і воўчага завывання, у коле сям'і, якая была моцна знітаваная традыцыямі сялянскай маралі і патрыярхальнасці…"

Далей чытача чакаюць карты мясцін — "Зямля Купалы" і "Зямля Коласа", што папярэднічаюць раздзелам кнігі. Ёсць і звесткі пра кожны з памянёных населеных пунктаў з маленькімі фотаздымкамі. І фота вялікага памеру, што расказваюць нам пра дзівосны свет Беларусі, які адкрываўся вачам паэтаў з нараджэння. Вязынка і Юзафова, Прудзішча і Ляўкі, Акінчыцы і Ласток і іншыя, дарагія сэрцам і вачам Коласа і Купалы мясціны праз фотааб'ектыў Анатоля Клешчука паўстаюць перад намі ва ўсёй непаўторнай прыгажосці.

Кожны, хто разгорне старонкі кнігі, можа сам здзейсніць падарожжа па Купалавых мясцінах, пачынаючы ад хаты ў Вязынцы, якая адлюстроўваецца ў воднай роўнядзі, бэзу ля яе акенца, які мог бачыць немаўлём паэт. Нас чакаюць выхапленыя з музейнай экспазіцыі кадры: партрэт маці Купалы — Бянігны Іванаўны, партрэт настаўніка паэта і вокладка першага зборніка "Жалейка", мемарыяльны пакой Купалы. Ёсць у чытача магчымасць зазірнуць у касцёл, дзе хлопчык быў ахрышчаны, і ўглядзецца ў краявіды з белымі аблокамі на блакітным сонечным летнім небе, за якімі, безумоўна, ён любіў назіраць, лежачы ў траве… Паўстануць перад вачыма каскад крыніц у ваколіцах вёскі Шаршуны, масток, засыпаны рознакаляровай асенняй лістотай, бусел на зжатым полі і дым над зімовымі хатамі, рэліктавы дуб у вёсцы Прудзішчы, які быў сведкам часоў, калі тут жыла сям'я Луцэвічаў. Рэшткі касцёла на старых могілках. Дом і капліца пачатку XX стагоддзя: у ваколіцах Яхімоўшчыны і ў вёсцы Лебедзева. Курганы ля вёскі Гарадзішча.

Чытач зможа ацаніць ландшафтны заказнік "Вязынка" з вышыні птушынага палёту. І сцяну лясоў вакол асфальтавай шашы, якой, зразумела, у тыя часы не было, але веліч магутных дрэў была не меншай.

"Зямля Коласа" ўражвае не менш. Анатолю Клешчуку ўдалося пакінуць нам залаты настрой кастрычніка ў Акінчыцах, часу нараджэння паэта, дзьмухаўцовы цуд лета, белыя яблыні Ластока і чысціню альбуцкай зімы, подых ветру над нёманскімі хвалямі і скарбніцу рэліктавых дубоў — урочышча Елава.

Не засталіся па-за фотааб'ектывам А. Клешчука і сённяшнія рэаліі. Напрыклад, кампазіцыя "Шлях Коласа" з драўляных скульптур, што стаяць абапал дарогі Акінчыцы-Альбуць Мікалаеўшчына. Разам з Якубам Коласам хочацца ўсклікнуць: "Ты маеш выгляды прарока, Наш край пакутны, край святы!.."

Тыраж навукова-папулярнага выдання "Беларусь. Зямля песняроў. Belarus. The Land of Poets" — 2 500 экзэмпляраў. Многа ці мала? Пакажа час.



*Зімовая Балачанка. Фота А. Клешчука.*

Нечаканы ракурс

# Асеннія элегіі

**Вольга НОРЫНА**

Першага лістапада ў галерэі Леаніда Шчамялёва адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі акварэлі Барыса Аракчэева "Элегіі". 30 карцін заслужанага дзеяча мастацтваў, кавалера Ордэна Францыска Скарыны ўпершыню не суседнічаюць з жывапісам алеем. Праект адкрыты ў рамках праграмы галерэі Шчамялёва "Беларуская акварэль", мэта якой — прадставіць творчасць вядомых мастакоў у нечаканым ракурсе. Папярэдняя выстаўка знаёміла гледачоў з акварэлямі народнага мастака Гаўрыіла Вашчанкі.

На рахунку Барыса Аракчэева каля сотні работ акварэллю і гуашшу. Шмат створана ў студэнцкія гады і пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Убачаць наведвальнікі выстаўкі цыкл пейзажаў, напісаных у вёсцы Повязень ў 1964 годзе, ілюстрацыі да паэзіі Якуба Коласа — у 1960-я мастак шмат супрацоўнічаў з выдавецтвамі. Шмат работ прысвечана сталіцы Беларусі. На яго карцінах — вуліца Берасцянская, царква Аляксандра Неўскага, віды з акна майстэрні на плошчы Свабоды.

Ацаніць розную манеру пісьма і прыёмы акварэльнага жывапісу, выкарыстаныя мастаком, яго лірычныя разважанні можна будзе да 24 лістапада. Галерэя працуе з 11 да 19 гадзін, апрача нядзелі і панядзелка.



*На закаце. Храм Аляксандра Неўскага.*



*Апошні растае сняжок.*

Пад вокладкай



**Ляшук, В. М. Развіццё лексічных сродкаў беларускай паэзіі / Вікторыя Ляшук. — Мінск: ДУ "БелІСА", 2012. — 314 с.**

Як вядома, у аснове паэзіі з пункту гледжання яе лексічнага складніка ляжаць усё ж такі агульнаўжывальныя словы. Таму важным з'яўляецца вывучэнне заканамернасцей выкарыстання гэтай катэгорыі лексікі ў якасці тэкста- і стылеўтваральнага сродку. Асаблівую ўвагу выклікае пытанне пра ролю ў стварэнні мастацкай вобразнасці найбольш частотных слоў. Актуальным аспектам гэтага даследавання з'яўляецца і роля лексікі паэзіі ў захаванні моўных эстэтычна-культурных традыцый, у чым праяўляецца яе здольнасць быць сродкам фарміравання адпаведнай ментальнасці. Крыніцай фактычнага матэрыялу манаграфіі сталі паэтычныя тэксты 250 беларускіх аўтараў, створаныя з сярэдзіны XIX ст. да 2005 года. Менавіта яны дазволілі аўтарцы ахарактарызаваць лексіка-семантычную сістэму беларускай паэзіі, выявіць асаблівасці ўзаемадзеяння інавацый з традыцыйнай лексічнай вобразнай сістэмай беларускай паэзіі, а таксама вырашыць шэраг задач, істотных для вывучэння тэарэтычных праблем лексікалогіі, пытанняў культуры маўлення і многіх іншых, важных пры навуковым вывучэнні беларускай мовы.



**Польша — Беларусь (1921 — 1953): сборник документов и материалов / сост. А. Н. Вабищевич [и др.]. — Минск: Беларуская навука, 2012. — 423 с.**

Гісторыя беларуска-польскіх адносін налічвае не адно стагоддзе. Апроч дынастычных сувязей кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ёсць і афіцыйныя пагадненні. Гэта Крэўская унія 1385 года, Люблінская унія 1569 года, мноства дамоў больш позняга перыяду, якія рэгламентавалі розныя аспекты міждзяржаўнага супрацоўніцтва. Зборнік з'яўляецца вынікам сумеснай працы Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь, а таксама фонду "Гістарычная памяць" (Масква), у ім праз прызму арыгінальных архіўных матэрыялаў прадстаўлены пытанні беларуска-польскіх адносін у час актыўнага фарміравання сучаснай беларускай дзяржаўнасці — з 1921 да 1953 года.



**Тарасаў, К. Выбраныя творы / Кастусь Тарасаў; уклад. і камент. Г. Тарасавай, К. Цвіркі. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 592 с.**

Шэсцьдзясят першы том кніжнага праекта "Беларускі кнігазбор" склалі творы аднаго з самых яркіх у айчыннай літаратуры пісьменнікаў гістарычнай тэматыкі. Думаю, для многіх чытачоў, чыё сталенне прыпала на сярэдзіну 1990-х, знаёмства з нашай мінуўшчынай пачыналася менавіта з кніг Кастуся Тарасава — зборніка "Памяць пра легенды", аповесці "Скарб Нясвіжскага замка", а таксама знакамітага рамана "Пагоня на Грунвальд". Усе гэтыя творы, а таксама эсэ і аўтабіяграфічныя нататкі, цяпер можна прачытаць пад адной вокладкай.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл.: 385-60-89.**

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

## З апавяданняў пра Якуба Коласа



У мінулыя выхадныя я з вялікай радасцю наведаў Светлаборскую сярэднюю школу, дзе адзінаццаць гадоў працаваў дырэктарам. Тут адбылася цікавая вечарына, прысвечаная 130-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Як вядома, народны Пясняр у даваенны час кожнае лета праводзіў з сям'ёй у Пухавіцкім раёне і лічыў наш край сваёй другой радзімай. У вёсках Балачанка, Падбярэжжа, Талька і іншых яшчэ жывуць людзі, якія памятаюць паэта і з любасцю апавядаюць пра сустрэчы з ім. У народзе захавалася памяць пра добрыя справы пісьменніка. Так, Якуб Колас дапамог калгасу ў Балачанцы набыць каня і машыну, браў удзел у асушэнні балота, прыходзіў на дажынкі. Да юбілею песняра прапаную "ЛіМу" мастацкія творы пра Якуба Коласа, зазначыўшы, што апавяданні маюць дакументальную аснову і прысвечаны дзецям малодшага школьнага ўзросту.

# Самае смачнае слоўка

Міхась і Віктар паведамілі па сакрэце Якубу Коласу, які адпачываў у Балачанцы, пра таямнічы востраў пасярэдзіне Свіслачы. З берага ракі цікавалі хлопчыкі за востравам, згледзелі чаплю, што прамільгнула паміж дрэў, перадражнілі сароку, якая лескатала ў гушчары.

— А яшчэ і стракозы, нібы самалёты, праляцелі міма нас, — хваліўся Віктар. — Усе каляровыя. Цэлая эскадрылля.

— Каля вострава вада хадуном ходзіць, аж пеніцца, — уступіў нарэшце ў размову і Міхась.

— Ну, гэта сом гушкаецца на вадзяных арэлях, — супакоіў хлопчыкаў дзядзька Колас. — Атабарыўся ў глыбіні і на рыбу жах наводзіць. Аднак калі вы ўжо зачапіліся за гэты востраў, то трэба было і назву даць яму, — параіў Канстанцін Міхайлавіч.

— А мы ўжо назву далі, — ажывіўся Міхась. — Толькі гэта тайна. Нікому не скажам.

— Ну, самахоць не прымушаю вас агучваць назву, — прамовіў Колас. — А вось апошнюю літару слова ведаць хацелася б.

— Літара "ны", — нагадаў Міхась.

— Не "ны", а "эн", — паправіў хлапчука Канстанцін Міхайлавіч.

А першую літару ў слове назваў Віктар. З літары "бэ" пачынаецца слова.

— Востраў Буян, — здагадаўся Колас. — Гэта па цячэнні Свіслачы, дзе вы гізавалі каля прывалка ракі. Так? Прызнавайцеся.

Сумеліся хлопцы, зразумеўшы, што дзядзьку Коласа на мякіне не правядзеш. Здолеў жа ён раскрыць тайну, уміг сказаў ім назву вострава.

Слова за слова, і згадкі перакінуліся ў слоўную гульню. Колас пытае — хлопцы адказваюць. Памыляюцца, думаюць, разважаюць — усе разам.

— А скажыце мне, калі ласка, чым канчаецца лета і зіма? — распачаў гульню Канстанцін Міхайлавіч.

Хлопчыкі разам:

— Літарай "а".

— А што ў сярэдзіне вішні? — пытаецца дзядзька Колас.

— Костачка, — скеміў Віктар. — Дужа цвёрдая яна.

—Літара "ша", — сказаў Міхась.

— Малайчына, — пахваліў Якуб Колас Міхася і падняўся з лавачкі.

— Заўтра прыходзьце. Будзем з мухі слана рабіць, — пажартаваў.

На наступны дзень хлопцы зноў накіраваліся да сядзібы старшыні калгаса Дзяткі. А Канстанцін Міхайлавіч ужо на лаўцы сядзіць, чакае сяброў. Па яго заданні ў той дзень перараблялі майку ў зайку, кару ў лазу, чыгунок у раток, кулітку ў світку, разгадвалі рэбусы. Весела было. І — цікава.

— Вупраж. Для каго прызначана? — перайшоў Колас да новай тэмы.

— Для конюха, — запэўніў Віктар. Алесь аж пырснуў ад смеху.

— Целяпень ты, Віктар, — кажа. — Вупраж для каня прымеркавана. А той конь, — звярнуўся хлопчык да дзядзькі Коласа, — што вы падаравалі калгасу, цяпер вызяны. Конюх Антось драўляныя накладкі на пастронках прырабіў, каб не націраліся бакі ў Буланчыка.

— Упраўны наш конюх, — заўважыў Колас. — Старанны і кемлівы. Казалі мне, што ён яшчэ і кары змайстраваў для перавозкі жэрдак.

Гульня захапіла. І доўжылася з гадзіну тая слоўная пераклічка. Аж успацелі хлопчыкі ў пошуках адказаў.

— Паветка для калёс? — пытаецца Колас.

— Павозніца.

— Луста хлеба, Віктар?

— Аляпюха, — адказвае Віктар.

— Вышкі ў хляве?

— Мусібыць, рышты, — зазначыў нясмела Міхась.

— Азярод на агародзе?

— Сушня, — запэўніў сябра.

Вось толькі Віктар не змог правільна адказаць, якім словам можна замяніць частакол.

— Можа, прыстаранак? — засумняваўся адказаць. — Ці агароджа? — разважаў уголас.

На выручку сябру прыйшоў Міхась. Слова "плот" назваў. За што і атрымаў ад Коласа жменю ірысак.

Навука Якуба Коласа не прапала марна. На першых занятках у верасні настаўніца пачатковай школы выклікала Віктара.

— Напішы на дошцы слоўка, каб у роце адразу смачна стала.

Анька Жук з першай парты шапнула:

— "Мёд" пішы. Або "цукар".

Ды не паслухаўся Віктар Ажойчык яе. Не прыняў падказку. Слова "хлеб" напісаў. Размашыста. З задавальненнем.

— Смачней за хлеб нічога няма на свеце. Так дзядзька Колас сказаў нам, — давёў Віктар.

— Асабліва калі хлеб з яблыкам. Смакацішча! — падаў голас з апошняй парты Міхась Рымша.

— Правільны адказ, — усміхнулася Ніна Аляксееўна. — Самае смачнае слова напісаў, — і паставіла ў класным журнале насупраць прозвішча кемлівага хлопчыка выдатную адзнаку.

# Шахматы

Прыгожую, вабную мясціну аблюбаваў Якуб Колас для адпачынку. Вось ужо другое лета запар прыязджае ён з сям'ёй у Вусце. Вёсачка невялікая — усяго пяць хат. Побач рака. Дно ў ёй жоўценькае, нібы шапка сланечніку. Тры крокі ступіў — і перад табой ужо лес. У канцы чэрвеня прайшлі тут цёплыя дажджы.

— Хутка пойдуць жоўтыя маслякі. Добра было б Янку запрасіць у госці. Паветра ў Вусці пахучае, нібы карыца, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч Марыі Дзмітраўне.

— А гаспадар супраць не будзе? — спытала жонка.

Папярэдне я з ім дамовіўся. Ён аддае ў наша распараджэнне пуню для начлегу. Там і сена досыць. Знойдзецца месца і для Янкі, і для Міхаські нашага.

Пасля размовы з Марыяй Дзмітраўнай сеў Канстанцін Міхайлавіч ліст пісаць. Аднесці канверт у Балачанку папрасіў Міхася Кораня:

— Скокні ў суседнюю вёску, укінь у паштовую скрыню. А каб не было сумна ў дарозе — прыхапі і майго Міхаську.

— Тры кіламетры — не адлегласць для маладых ног. Так твой тата кажа, — сказаў Міхась цёзку.

— А давай мы скароцім дарогу, — прапанаваў сын Коласа. — Выражам па дубцу ў ельніку, пасядзем на коней — і напярад.

— Давай, — згадзіўся Міхась Корань. — А пісьмо, відаць, важнае нейкае?

— Тата дзядзьку Янку ў госці запрашае. Ён хварэў на запаленне лёгкіх. Тата штодня да яго ў лякарню хадзіў. Дактары сказалі, што трэба Купалу лясным паветрам дыхаць часцей, каб не хварэў, — прышпорыў Міхась свайго каня.

Іван Дамінікавіч з'явіўся ў Вусці праз тыдзень — трэцяга ліпеня 1938 года. Ён вылез з легкавушкі, агледзеўся, крыху паслабіў гальштук, каб не было мулка шыі.

— То вазьміце свае шахматы, — перадаў шафёр Івану Дамінікавічу невялікі, загорнуты ў газецінy пакунак. Іван Дамінікавіч сунуў пакунак пад паху і накіраваўся ў хату дзядзькі Язэпа.

Тым часам вусцянская дзятва абступіла чорны, запылены "фордзік". Найбольш пашанцавала Фэльку Рымашэўскаму: шафёр запрасіў яго ў кабіну. Міхась Корань нават пакрыўдзіўся: на яго ніхто не звяртае ўвагі, а Фэлька сядзіць у машыне, рулю круціць, звысоку пазірае на ўсіх праз шкляное акенца легкавушкі.

— Катаць буду, — паабяцаў шафёр дзецям. — Але толькі тых, хто ў наступны клас з пяцёркамі перайшоў.

Пасля гэтых слоў Міхась канчаткова страціў надзею трапіць у кабіну. Пацягнуўся сумны на дворышча дзядзькі Язэпа. Бачыць: госць з дзядзькам Коласам пад ліпай у зацішку ў шахматы гуляе.

— Давядзецца, відаць, ахвяраваць пешкай, — гаворыць дзядзька Колас, седзячы насупраць госця на зэдліку.

— А я мяркую перайсці ў атаку, — абвяшчае госць.

— Ты, Яначка, здаецца мне, задужа адкрываеш караля. Можа, табе памочніка даць? — весела паглядае дзядзька Колас на Міхася.

— Дапамога не пашкодзіць, — згаджаецца Купала, падзываючы хлопчыка. — Ідзі, братка, кінь вокам, як чорныя супраць ветру пруць. Можа, удвух дамо ім рады?

Міхась глядзіць на дошку, але што адбываецца на ёй, зразумець ніяк не можа.

— Я б на тваім месцы, Яначка, падключыў бы фярзя да атакі, — дае тым часам параду дзядзька Колас.

— Так, так, — барабаніць пальцамі Іван Дамінікавіч. — Твая перамога, Каласок, на ферзевым флангу вымагае ад нас з Міхасём пільнай увагі. (Аж пачырванеў Міхась Корань: у шахматы ён ніколі не гуляў! Які ён дарадца госцю?)

Праўда, хлопчык паспеў ужо прыгледзецца да скакунакаmя: ён стаіць то на белым, то на чорным полі. Конь гэты падобны на іх калгаснага Буланчыка: такі ж шпаркі і хуткі. Паспеў Міхась палічыць і колькасць чорных клетак на дошцы: цэлых трыццаць дзве! Столькі ж і светлых. А ўсіх шэсцьдзесят чатыры.

— Я не ўмею гуляць у шахматы, — прызнаўся Міхась.

— Гэта я зразумеў, — сказаў Іван Дамінікавіч. — Вось скончым мы партыю з Коласам — за тваю навуку возьмемся, — паабяцаў ён.

— Ого! — Раптам усклікнуў здзіўлены Міхась. — Зноў конь пераскочыў на чорную "купіну".

— Гэта яму дазваляецца, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч.

Двойчы выходзіла з хаты Марыя Дзмітраўна, запрашала на абед:

— Пачакай крыху, Марусечка, — папрасіў яе Колас. — Аб'явіўся ў нашым шахматным каралеўстве кароль малады.

— Сядай на зэдлік, бяры ў рукі дошку, — загадаў Міхасю госць. — Запомні першае правіла: перад гульнёй шахматную дошку трэба пакласці так, каб злева было чорнае поле. А цяпер давай расставім фігуры. Яны размяшчаюцца па клетках двух бліжэйшых радоў.

— Пачнём, — уключыўся ў размову і Канстанцін Міхайлавіч. — Вось гэтыя бялюткія фігуры гані ў куткі: адну ў левы, другую ў правы. Гэта дзве ладдзі. Цяпер бяры ў рукі конікаў. Мы іх паставім на дошцы побач з ладдзямі.

Іван Дамінікавіч перадаў Міхасю яшчэ дзве фігуры.

— Малайчына, — пахваліў хлопчыка Купала. — Побач размяшчай сланоў.

— Ну, на жывых сланоў яны, скажам, мала падобны, — заўважыў дзядзька Колас. — Назву такую яны атрымалі ў старажытнай Індыі, дзе былі вынайдзены шахматы.

У першым радзе свабоднымі заставаліся два полі.

— Гэта месца для фярзя і караля, — падказаў госць.

Фярзя паставілі на левае поле побач са сланом. Усе восем "купін" другога рада занялі пешкі.

— Парадак! — задаволена пацёр рукі Іван Дамінікавіч. — Пешка ходзіць толькі ўперад.

— Па адной клетачцы, — удакладніў Канстанцін Міхайлавіч. Вось аднаго не разумее Міхась: чаму пешка скача?

— Яна мае права на двайны скачок. Да самай апошняй гарызанталі пешка можа ісці "пераступаючы", — сказаў госць.

— Як гэта "да гарызанталі"? — разгубіўся Міхась.

— Скажы, — строга паглядзеў Купала на хлопчыка, — ці лазіў ты калі праз плот у чужы сад?

— Лазіў, — вінавата прызнаўся Міхась. — У дзядзькі Клеўкі яблыкі смачныя. Нам з Фэлькам пакаштаваць захацелася.

— Плот стаяў вертыкальна, — усміхнуўся Колас. І тут жа пацікавіўся: — А плот не паваліў часам?

— Ён сам абрынуўся, — зусім знікавеў Міхась. — Мы адзін раз толькі лазілі, — апраўдваўся ён.

— Перавялі, значыць, плот з вертыкальнага становішча ў гарызантальнае, — прамовіў Колас і прызнаўся, заўважыўшы збянтэжанасць Міхася:

— Я ў дзяцінстве сам у чужыя сады любіў лазіць.

Так паступова засвойваў Міхась складаную шахматную навуку. Тры дні адпачываў Купала ў Вусці. Тры дні працягвалася вучоба Міхася. Ад'язджаючы ў Ляўкі, на сваю дачу, Іван Дамінікавіч сказаў Міхасю на развітанне:

— Добры шахматыст з цябе атрымаецца. Шахматы я пакідаю табе, каб другіх навучыў гуляць.

Апошняя шахматная партыя адбылася дваццаць восьмага жніўня.

— Заўтра і я пакідаю Вусце, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч. — Згуляем з табой, Міхась, на развітанне ў шахматы? Дай мне слова, аднак, што ў сады чужыя больш лазіць не будзеш: сорам браць чужое.

— Мы папрасілі ўжо прабачэння ў дзядзькі Клеўкі. А ён нам з Фэлькам белага наліву вынес з саду. Не сварыўся нават, — апусціў Міхась вочы долу.

— Твой ход, — парушыў няёмкае маўчанне Канстанцін Міхайлавіч і шырока ўсміхнуўся.

Гэту цёплую, добразычлівую ўсмешку Міхась Корань запомніў на ўсё жыццё.

# Восень — муза сюрпрызаў

75-годдзю Беларускай дзяржаўнай філармоніі прысвячалася святочная імпрэза, якая адбылася 1 лістапада. Канцэртную праграму падрыхтавалі вядучыя дзяржаўныя акадэмічныя калектывы краіны: сімфанічны аркестр на чале з маэстра Аляксандрам Анісімавым, харавая капэла імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай, а таксама сузор'е салістаў. Зрэшты, свята музыкі пануе ў Мінску ўжо больш як два тыдні — з таго ўрачыстага вечара, калі завітаў да нас XXXVIII міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень". Як вядома, сёлета гэтая "пятая паравіна года" спалучылася з новым і вельмі незвычайным творчым праектам — Першым міжнародным музычным форумам "Беларусы свету".

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**



*На сцэне Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі.*

Яшчэ амаль на месяц сталічная філармонія (у арганізацыі грандыёзнага мастацкага свята яе асабліва падтрымалі Міністэрства культуры Беларусі і генеральны партнёр ААТ "Банк БелВЭБ") застанецца месцам паломніцтва музыкантаў, можна сказаць, з усяго свету. Сярод іх нямала таленавітых ураджэнцаў Беларусі, якія некалі раз'ехаліся па розных краінах, паспяхова працуюць за мяжой. І цяпер яны з радасцю выступаюць на радзіме разам з іншымі гасцямі фестывалю і са сваімі землякамі.

А першы фестывальны вечар прысвячаўся 75-годдзю выдатнага кампазітара, жывога класіка нашай акадэмічнай музыкі Дзмітрыя Смольскага. І гэта не адзіны аўтарскі канцэрт, зладкаваны ў межах восеньскага свята. Меламаны з цікавасцю паслухалі "Сугучча музыкі стагоддзяў" — пад такой назвай ладзіўся творчы вечар Віктара Войціка. Сюрпрызам для публікі была не толькі новая музыка гэтага самабытнага кампазітара, але і дэбют створанага ім інструментальнага ансамбля "Juvenile Bel Trio". У складзе трыа — бліскучыя маладыя салісты Вераніка Прадзед (цымбалы), Вольга Палякова (флейта), Ілона Лесь (віяланчэль). Іх рэпертуар уключае і старонкі айчыннай музычнай спадчыны: творы Войцаха Длугарая, Мацея Радзівіла, Напалеона Орды... Кампазітар Віктар Капыцько прапанаваў публіцы вечар элітарнай аўтарскай цымбальнай музыкі, дзе прагучала некалькі прэм'ер, а традыцыйны народны інструмент заняў "свой пачэсны пасад" сярод шляхетных акадэмічных тэмбраў (прысвечаная Вераніцы Прадзед шасцічасткавая камерная саната "Граем ды пяём" для флейты, скрыпкі, віяланчэлі, беларускіх цымбал і голасу; прысвечаны Ангеліне Ткачовай Дывертысмент для цымбал і падрыхтаванага раяля; "Старадаўні танец" для беларускіх цымбал і віяланчэлі ды іншыя арыгінальныя п'есы). Разнажанравую творчасць Уладзіміра Карызны-сына прадставілі Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча, Дзяржаўны камерны хор Беларусі, ансамбль народнай музыкі "Бяседа", іншыя выканальніцкія калектывы, салісты. І перадусім добра вядомыя за межамі краіны таленавітыя дзеці кампазітара, унукі знанага паэта — лаўрэаты міжнародных конкурсаў скрыпачка Настасся Карызна ды віяланчэліст Іван Карызна. На 4 лістапада ў філармоніі запланавана сустрэча з яшчэ адным кампазітарам — народным артыстам Беларусі Эдуардам Ханком. У праграме "То ли ещё было!" выступяць айчынныя выканаўцы яго песень.



*Лаўрэат міжнародных конкурсаў Вераніка Прадзед.*

Што ні вечар — то ўнікальная падзея. Афішу аднаго з кастрычніцкіх канцэртаў упрыгожыла сапраўднае сузор'е імёнаў беларускіх музыкантаў новага пакалення. Яны праславіліся як пераможцы міжнародных конкурсаў яшчэ ў свае юныя гады, а сёння гэта сусветна вядомыя выканаўцы. Трубач Андрэй Кавалінскі — саліст Брусельскага філарманічнага аркестра ў Бельгіі, піяніст Андрэй Паначэўны спалучае канцэртную і педагагічную дзейнасць у Злучаных Штатах Амерыкі, цымбаліст-віртуоз Міхась Лявончык, які атрымаў у Германіі адукацыю джазавага музыканта, паспяхова гастралюе ў многіх краінах. На форуме "Беларусы свету" яны выступілі разам з сімфанічным аркестрам "Маладая Беларусь", калектывам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У мінскі Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" (заснавальнік і мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў) арганічна ўвайшлі яго колішнія музыканты — скрыпачка Анжэла Жарэга (Малдова) і піяністка Бэла Штэйнбук (Ізраіль). Пад папулярнай у нашых меламанаў рубрыкай "Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва", якую ўжо некалькі сезонаў вядзе музыказнаўца Вольга Савіцкая, прайшло выступленне лаўрэата міжнародных конкурсаў Расціслава Выграненкі. Ён таксама наш зямляк, нарадзіўся і атрымаў музычную адукацыю ў Мінску, цяпер працуе ў Польшчы. Яго канцэртная праграма прысвячалася рамантычнай арганнай санаце і ўключала, сярод іншага, творы самога выканаўцы. А легендарная беларуская цымбалістка Ангеліна Ткачова, якая жыве ў Грэцыі, апроч музыкі Віктара Капыцько падрыхтавала для мінскай публікі прэм'еру сучаснага грэчаскага кампазітара Георга Хадзіміхелакіса — Канцэрт-фантазію для беларускіх цымбал і струннага аркестра. Яшчэ адзін "беларус свету" — скрыпач Сцяпан Яковіч, які раней прыязджаў на радзіму ў складзе аркестра "Салісты Масквы" пад кіраўніцтвам Юрыя Башмета, атрымаў запрашэнне выканаць сольную партыю ў скрыпічным Канцэрце рэ мінор Фелікса Мендэльсона-Бартольдзі — сыграць разам з нашым Дзяржаўным камерным аркестрам пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова.

Чынным удзельнікам унікальнага праекта "Беларусы свету" стаў і яго ініцыятар — мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі, вядомы піяніст і педагог Юрый Гільдзюк. Чулы майстар ансамблевага музіцыравання, ён прычыніўся да канцэрта з удзелам двух вытанчаных камерных калектываў: Мінскага струннага квартэта і Новага рускага квартэта (дарэчы, сярод гасцей са сталіцы Расіі — наша суайчынніца, бліскучая скрыпачка Юлія Ігоніна, якая нярэдка наведваецца ў родны Мінск з сольнымі выступленнямі).

Шчодрая на музычныя сюрпрызы сёлетняя восень. Можна доўга пералічваць праграмы, якія ў няўтульныя кастрычніцкія вечары сагрэлі і расквецілі жыццё нашай сталіцы і якія абяцаюць багатыя мастацкія ўражанні на лістападаўскіх канцэртах. Аднак нішто не раскажа пра музыку лепей за яе саму. Так што пільна ўглядайцеся ў філарманічныя афішы, якія прапануюць вялікі выбар выканаўцаў, праграм і твораў розных музычных эпох, стыляў, жанраў. І не абмініце сустрэчу "беларусаў свету", якая ўрачыста адкрые Міжнародны конкурс вакалістаў імя Ларысы Александроўскай. Гэты канцэрт збярэ на сцэне філармоніі нашых суайчыннікаў: музыкантаў Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, за дырыжорскім пультам якога выступіць Міхаіл Сінькевіч (Расія), салістаў-спевакоў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Ірыну Гардзей (Расія), Івана Шупеніча (Чэхія), Ігара Яна (Чэхія), Паўла Янкоўскага (Расія). Імпрэза мае адбыцца 10 лістапада.

## Выстаўкі

# ЦВЁРДА СТАЯЦЬ НА ЗЯМЛІ

У вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва працуе выстаўка твораў народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіля Шаранговіча, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Можна па-рознаму ўспрымаць кожны асобны твор мастака: усё залежыць ад адукацыі, падрыхтаванасці, асабістай пазіцыі гледача, але эмацыянальнае ўспрыманне ва ўсіх будзе ў нечым падобнае, якое выклікае толькі сапраўдныя пачуцці. Так адбываецца, калі аўтар са сваім гледачом гаворыць адкрыта і шчыра.

Тэматыка работ Васіля Шаранговіча раскрываецца ў вобразах сялян, занятых цяжкай працай. Зрэшты, усіх творцаў — розных стыляў і напрамкаў, розных эпох — зніТоўвае імкненне раскрыць багацце ўнутранага свету чалавека. Паэты і празаікі, музыканты і мастакі — кожны пры дапамозе ўласцівых жанру выразных сродкаў перадае палітру перажыванняў і сумненняў чалавека. Невыпадкова дыпломная работа В. Шаранговіча была прысвечана паэзіі Янкі Купалы. З яе фактычна пачалася знакамітая "купаліяна" мастака. Да творчасці Коласа ён звярнуўся пазней і лічыў чарговым сваім крокам. Мастак успамінаў: "У маладосці, пасля вучобы, калі я стаў самастойна працаваць як мастак, я больш захапляўся



*В. Шаранговіч. Ілюстрацыя да паэмы Якуба Коласа "Новая зямля". Акварэль. 2002.*

паэзіяй Янкі Купалы. Але ў 1967 г. мяне запрасілі зрабіць падарункавае выданне да зборніка вершаў Якуба Коласа "З майго летапісу" з шэрагам гравюр. Пазней выйшла кніжка-малютка коласавых вершаў. Думаю, што падсвядома ў мяне мацнела думка, што трэба аддаць Коласу большую даніну. Падступіць да Коласавай глыбіні аказалася намнога цяжэй, чым увайсці ў рамантычныя варункі паэзіі Купалы. Якуб Колас шматгранны: ён глыбока любіў свой край, стварыў велічны гімн хараству роднай прыроды і горкі спеў безнадзейнаму і цяжкому існаванню простага сялянскага чалавека".

У цяперашняй экспазіцыі прадстаўлены станковыя работы, кніжныя ілюстрацыі, эскізы і варыянты ілюстрацый мастака, зробленыя па матывах творчасці песняроў.

У кніжнай графіцы Васіль Шаранговіч працуе больш як 40 гадоў, праілюстраваў больш як 60 кніг. Палова з іх адзначаная на ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах, у тым ліку дыпломамі і медалямі Францыска Скарыны.

Творы мастака дэманстраваліся ў Польшчы, Італіі, Францыі, Індыі, Фінляндыі, іншых краінах свету.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

# Акорды натхнення

Адметнай з'явай айчыннага культурна-мастацкага жыцця гэтага года сталі персанальныя юбілейныя выстаўкі двух вядомых беларускіх творцаў — "Акорды майго натхнення" акварэліста-графіка Івана Пратасені, прысвечаная 80-годдзю з дня яго нараджэння, і "Проста жывапіс" мастака-этнографа, каларыста Уладзіміра Сулкоўскага з нагоды яго 60-годдзя, якія экспанаваліся разам у залах сталічнага Палаца мастацтва, выклікаючы шмат станоўчых водгукаў-перажыванняў у наведвальнікаў — спецыялістаў-культуралагаў, мастацтвазнаўцаў, калег-мастакоў, літаратараў ды проста аматараў Прыгожага.

**Алесь РУНЕЦ**

Мабыць, зрабілася ўжо добрай традыцыяй, калі пад эгідай Беларускага саюза мастакоў у цэнтральнай яго выставачнай галерэі пачалі мэтанакіравана наладжвацца для шырокай грамадскасці "справаздачныя" мастакоўскія вернісажы-тандэмы, аб'яднаныя, нягледзячы на разнапланавыя індывідуальныя мастацка-вобразныя характарыстыкі, асабісты светапогляд, вонкавыя непадобныя фармальна-стылістычныя прыемы ды пошукі абраных аўтараў, "лёсавызначальнай" ідэяй-задумай. І пры гэтым нібы параўноўваюцца каштоўныя творча-інтэлектуальныя здабыткі, філасофскі роздум пра існасць-прадвызначэнне чалавека на сваёй зямлі — як правіла, не аднаго пакалення прафесійных беларускіх майстроў пэндзля, разца, афорта-малюнка…

Вось і цяпер перад намі паўстаюць дзве самабытныя, таленавітыя, духоўна прывабныя, шмат у чым "узорныя" постаці сапраўды "тутэйшых" мастакоў, — яскравых, цэльных, сціплых па натуры, лірычна-эпічнага, камернага кірунку.

Беларусь — Маці-Радзіма — "Сакральная" Зямля, яе гістарычная памяць, ментальнасць, багатыя этнакультурныя, фальклорныя, мастацкія традыцыі, выбітныя нацыянальныя дзеячы, а таксама пільная ўвага, любоў, спагадліва-даверлівыя адносіны да суайчыннікаў, іх памкненняў і спраў (у мінуўшчыне і дні сённяшнім), непаўторнае, адвечнае хараство роднай прыроды — асноўныя тэмы ўражлівых, запамінальных "поліфанічных" твораў І. Пратасені і У. Сулкоўскага, выкананых на бездакорліва высокім, "класічным" тэхнічным узроўні.

Іван Пратасеня — мастак цікавага, нялёгкага жыццёвага і творчага лёсу, які шмат пабачыў-перанёс на сваім доўгім вяку.

Нарадзіўся ён у 1931 годзе ў в. Старцавічы (цяпер в. Знамя) на Случчыне ў простай, працавітай сялянскай сям'і: бацька трохі сталярнічаў-выдумляў, маці ткала, вышывала.

Пачаў маляваць Іван яшчэ ў школе, яго першым настаўнікам у галіне Прыгожага быў, як ні дзіўна, выкладчык матэматыкі, "па сумяшчальніцтве" мясцовы "маляр"-самавук, краязнаўца І. Багушэвіч, які ўмеў распісваць дываны. Праз усё свядомае жыццё дапытлівы, адораны ад прыроды юнак пранёс захапленне менавіта "сенсітыўнай" народнай творчасцю.

У 1957 годзе І. Пратасеня скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, а ў 1964 годзе — завочна Маскоўскі паліграфічны інстытут. Самастойная творчасць маладога мастака пачалася з афармлення кнігі вершаў Дзмітрыя Кавалёва "Рабінавыя ночы" ў 1958 г. З 1965 г. ён — удзельнік персанальных, групавых рэспубліканскіх і замежных выставак. Працаваў мастаком, мастацкім рэдактарам у газетах, часопісах і выдавецтвах Беларусі да 2000 г.

І. Пратасеня — прызнаны майстар беларускай акварэлі, які зрабіў гэту "імпрэсіяністычную", празрыста-мяккую тэхніку пісьма вадзянымі фарбамі даступнай для стварэння шматпланавых сюжэтных карцін і кампазіцыйных партрэтаў; таксама ён неаднаразова станоўча адзначаўся ў крытыцы як карпатлівы віртуоз алоўкавага малюнка.

На выстаўцы, якая ўяўляла сабой пераважна рэтраспектыўна-зборны агляд, можна было пазнаеміцца і з некаторымі "хрэстаматыйнымі" творамі, і з апошнімі дасягненнямі аўтара, так бы мовіць, эксперыментальна-пошукавага характару. Частка аркушаў была паказана ўпершыню.

Падоўгу затрымліваліся гледачы, напрыклад, каля партрэтаў-рэканструкцый "Кірыл Тураўскі" і "Максім Багдановіч і Зоська Верас у Мінску. 1916 год". Працуючы над вобразам К. Тураўскага, мастаку давялося выступіць у ролі першаадкрывальніка, бо для нашчадкаў не захавалася ніводнага партрэта гэтага выдатнага старажытнаўсходнеславянскага дзеяча культуры. Пакрысе І. Пратасенем быў сабраны важкі, навукова значны матэрыял з архіваў і бібліятэк краіны былога СССР, на падставе чаго дзякуючы мэтанакіраванай, палкай мастакоўскай фантазіі, інтуіцыі, скрупулёзна прадуманымі і адабранымі выяўленчымі сродкамі быў створаны-матэрыялізаваны яркі, незабыўны гістарычны вобраз (партрэт паўсюль рэпрадуцыраваўся — у акадэмічных, спецыялізаваных, вучэбных, навукова-папулярных друкаваных выданнях).

Падобны метад сур'эзнага, усебаковага, "дакументальнага" даследавання быў скарыстаны І. Пратасенем і для ўяўлення колішніх перадрэвалюцыйных падзей у адлюстраванні пераканаўчых вобразаў М. Багдановіча і З. Верас. Мастак сустракаўся з легендарнай Людвікай Сівіцкай (сапраўднае яе імя і прозвішча) у Вільні, каб аднавіць выгляд тагачаснай Саборнай плошчы (цяпер плошча Свабоды) у Мінску, ды запытацца ў яе як непасрэднай сведкі пра шматлікія — такія неабходныя ў працы!



Іван Пратасеня. Бацькоўскі дом. 1972. Папера, акварэль.

— "дэталі з жыцця і побыту прыфрантавога губернскага горада падчас Першай сусветнай вайны; пра супрацоўніцтва М. Багдановіча з аднадумцамі-"адраджэнцамі" на Бацькаўшчыне і яго службу ў Мінскім аддзяленні Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны, пра тое, як паэт апранаўся, якім яго бачылі, запомнілі; не прамінуў Іван Міхайлавіч занатаваць у гэтым графічным аркушы нават газету "Дзянніца", якую ён тады выпісваў…

Мелі поспех і па-майстэрску выкананыя акварэлі І. Пратасені "Бацькоўская хата" ("Слуцкая мадонна"), "Вяселле ў Падгор'і", "Пара сенакосная", "Аб перажытым. Партрэт бацькі", "Случчына мая", "Адвечнае" ды мноства іншых, сярод якіх нельга не адзначыць вялікую партрэтную серыю, прысвечаную знакамітым сучасным пісьменнікам Беларусі, родным краявідам.

Характэрныя асаблівасці творчага "почырку", стылістыкі майстра добра перадаюць яго тэматычныя і побытавыя кампазіцыі, дзе на першым месцы буйным планам перад намі паўстае, перш за ўсё, сам Чалавек з яго багатым унутраным светам, думкамі і пачуццямі.

Ідэйны сэнс чароўнай па фарбах і фармальным "дызайнерскім" вынаходніцтве карціны І. Пратасені "Бацькоўская хата" — Радзіма ў яе шырокім разуменні, якая, як вядома, заўседы пачынаецца з любові да сваей малой радзімы, з уражанняў дзяцінства. Маладая вясковая жанчына-маці з немаўлём на руках стаіць ля расчыненага акна ўлетку з беласнежнымі фіранкамі роднай хаты.

Гэта не зусім звычайнае акно (у карункавым атачэнні разьбянай шалёўкі), а быццам царская брама перад алтаром, цудадзейны сакральны шлях з жыватворнай крыніцы, бацькоўскай калыскі ў вялікі свет, з усімі яго радасцямі і нягодамі… Здаецца, фон акварэлі раўназначны ўласна персанажнаму дзеянню, але ні ў якім разе не перашкаджае агульнай аўтарскай задуме, арганічна падтрымлівае яе.

Мастак дасягае высокай паэтычнасці ў трактоўцы канкрэтнага і абагульненага ў вобразе народнай беларускай Мадонны. Яна прыгожая і ўзнёслая, пяшчотная і клапатлівая, крыху задуменная, з тыповымі этнічнымі рысамі — адным словам, наша дрыгавічанка-случанка!..

Змястоўным цыклам акварэляў І. Пратасені апошніх гадоў уласціва больш свабодная, разняволеная манера пісьма, экспрэсіўная эмацыянальнасць, сімвалічнасць. Ён працягвае працаваць у гістарычным жанры (дыпціх "Прашчурам маім са Случчыны прысвячаецца", "Руіны Крэўскага замка", "Памяць стагоддзяў"), неабыякавы, як і раней, да класікаў беларускай і рускай літаратуры, нястомна, упарта шукае ўсё новыя ідэалізавана-рамантызаваныя "вобразы мілыя роднага краю" ў навакольным, здавалася б, някідкім прыродным асяроддзі ("Вячэрні звон", "Адвечны кліч Радзімы" і інш.)…

Як сапраўдны народны Майстар І. Пратасеня ніколі не адхіляўся ад свайго прызвання — і ў гэтым, відавочна, нязменная прыцягальнасць яго асобы і мастацтва для маладзейшых пакаленняў.



І. Пратасеня. Максім Багдановіч і Зоська Верас у Мінску. 1916. Папера, аловак.

## Арт-пацеркі

**Алеся БАЦЮСЬ**

З творчасцю майстра лірычнага пейзажа Вітольда Бялыніцкага-Бірулі прапануе пазнаёміцца Палацава-паркавы ансамбль у Нясвіжы, дзе па 11 лістапада працуе выстаўка, прымеркаваная да 140-годдзя з дня нараджэння мастака. Асаблівую цікавасць, як і асаблівае месца ў творчасці самога мастака, выклікаюць серыі пейзажаў, прысвечаныя памятным мясцінам, звязаным з А. Пушкіным, П. Чайкоўскім і іншымі выбітнымі асобамі. Гэта "Святагорскі манастыр. Пушкінскія мясціны" (1936), "Клін. Сад П. І. Чайкоўскага. Пасля сіняга дажджу. Эцюд" (1942), "Трыгорскае. Бяроза ля ракі Сораць" (1936) ды многія іншыя. У Нясвіжы прадстаўлена частка вялікай — з больш як 400 карцін — калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.



Святагорскі манастыр.

Складаная каляровая гама, рытмізацыя кампазіцыі, захапленне фактурнымі эфектамі, сумяшчэнне інтэр'ернага жывапісу і станковага палатна — усё гэта характэрна для мастачкі з Гродна Вікторыі Ільіной, чые работы прадстаўлены на выстаўцы ў "Галерэі Мастацтва". Асноўныя матывы твораў непарыўна звязаныя з родным горадам: вузенькія вулачкі, паркі і гістарычныя будынкі. Яшчэ адзін кірунак яе творчасці — інтэр'ер і нацюрморт. Работы, якія можна пабачыць на выстаўцы, створаныя пад уражаннем летніх пленэраў у Літве і Польшчы.

Музычны тэатр "Галерэя" 4 лістапада запрашае на канцэрт-спектакль "У душы маёй". У гэты вечар Белая зала Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаўператворыцца ў дамашні салон — свечкі, гітара, рускія рамансы, любоўная лірыка А. Пушкіна, І. Буніна, А. Кальцова… Артысты Ганна Бяляева, Віталь Дубовік і Дзяніс Нямцоў будуць апавядаць толькі пра каханне, чароўнае, чаканае і таямнічае.

Матэрыял "для Галіны быў пытаннем нумар адзін. Яна выціснула з бронзы ўсё, што магла: новыя градацыі. <…> Яна па-мадэрнісцку настроена: прапаноўвае форму ў малым аб'ёме. У яе творчасці не было традыцый і догмаў", — так пра Галіну Гаравую, былую ўдзельніцу арт-групы "Няміга-17", пасля яе смерці год таму казаў мастак Леанід Хобатаў. Яна насамрэч прапанавала новы погляд на скульптуру, неяк асабліва выкарыстоўваючы мову гэтага віду мастацтва. І гэты яе "позірк" — у мемарыяльнай выстаўцы, што праходзіць у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

На дзівосную "Игру в классики" ў Мемарыяльным музеі-майстэрні З. Азгура запрашае сёння ансамбль *Morph* — шведска-беларускі музычны праект. Слухачам-гледачам-удзельнікам выканаўцы прапануюць вольныя імправізацыі, не абмяжоўваючыся ні напрамкамі музыкі, ні стылямі, ні эпохамі. Галоўнае — крэатыўнасць і высокі ўзровень выканальніцкага майстэрства.

# Раман са сцэнай

Маша і Прынц, Рамэа і Джульета, Лэйлі і Меджнун — у творчым багажы Рымы Іскандэравай і Гюльагасі Мірзоева нямала рамантычных вобразаў, створаных на сцэне Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Каханне і рамантыка суправаджаюць вядучую пару азербайджанскага балета не толькі ў прафесіі: артысты разам і на сцэне, і па жыцці.



*Гюльагасі Мірзоеў.*

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота Дзяніса Грыгарука і з асабістага архіва артыстаў**

У Мінску Гюльагасі Мірзоеў і Рыма Іскандэрава пабывалі дзякуючы Дням культуры Азербайджана ў нашай краіне, галоўнай падзеяй якіх стаў паказ балета “Сем прыгажунь” Кара Караева на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага



*Рыма Іскандэрава.*

Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**— Дзякуючы спектаклю “Сем прыгажунь” беларуская публіка ўпэўнілася ў тым, што ў Азербайджане надзвычай прыгожы нацыянальны балет…**

**Рыма:** Сапраўды, у рэпертуары нашага тэатра шмат пастановак азербайджанскіх аўтараў: “Дзявоцкая вежа” Афрасіяба Бадалбейлі, “Лэйлі і Меджнун”, “Сем прыгажунь”, “Дон Кіхот” Кара Караева, “Каханне і смерць” Палада Бюль-Бюль аглы, “Тысяча і адна ноч” Фікрэта Амірава… Нашы нацыянальныя балеты вытанчаныя і каларытныя, таму мы заўсёды рады прадстаўляць іх на гастролях за мяжой, і хацелася б, каб іх вывозілі як мага часцей.

**Гюльагасі:** Калі мы, напрыклад, паказваем дзе-небудзь рускія або еўрапейскія балетныя спектаклі, то ў чым можа быць цікавасць публікі? Выключна ў тым, якую інтэрпрэтацыю дае гэтаму матэрыялу балетная трупа. Але зусім іншая справа, калі азербайджанскі балет прадстаўляе сваю нацыянальную класіку, арыгінальную, прачулую, музыка і харэаграфія якой ужо ў крыві ў танцоўшчыкаў.

**Рыма:** Калі мы вядзём гутарку пра спектаклі азербайджанскіх аўтараў, у тым ліку і заснаваных на гістарычным матэрыяле, я бачу такую тэндэнцыю: робіцца новы твор, але ствараецца ён, абапіраючыся на старыя традыцыі. Па-мойму, гэта самы лепшы варыянт для таго, каб нацыянальная спадчына жыла.

**— У якасці ўдалага прыкладу адаптацыі нацыянальнага спектакля да патрабаванняў часу можна прывесці ўсё той жа балет “Сем прыгажунь”. Лібрэта ў параўнанні з арыгінальным сюжэтам было значна перапрацавана. Раскажыце, калі ласка, з чым гэта звязана і які з варыянтаў вам больш цікавы.**

**Гюльагасі:** У першапачатковым лібрэта быў палітычны падтэкст, як і ў паэме Нізамі Гянджэві, на якой заснаваны сюжэт. На першы план выходзіў філасофскі сэнс: распавядалася, як правіцель за любоўным захапленнем забыў пра народ, які павінен быў абараняць. Шах Бахрам, партыю якога я выконваю, паддаўся спакусе і перастаў думаць пра свой доўг перад людзьмі, у выніку чаго народ скінуў яго. Калі ў нашым тэатры рыхтаваліся да новай пастаноўкі “Сямі прыгажунь”, падумалі, што гэты сюжэт ужо не настолькі актуальны, таму было прынята рашэнне зрабіць поўнае абнаўленне спектакля. Так у версіі спектакля 2008 года на першы план выйшла менавіта захапленне шаха прыгажунямі, яго імкненне да недасяжнага ідэалу.

**Рыма:** Так, цяпер у гэтым балеце многае па-іншаму, але лепшае, што ў ім было, захавалася. Над пастаноўкай працавалі прафесіяналы, якія вельмі ўважліва ставяцца да творчай спадчыны Кара Караева, у прыватнасці, дачка самога кампазітара. Не адно лібрэта было прачытана, перш чым прынялі рашэнне спыніцца на варыянце Яны Тэміз з Турцыі. І пастаноўшчыка Васілія Мядзведзева запрасілі, паколькі на сённяшні дзень гэта вельмі знакаміты і запатрабаваны балетмайстар, стыль якога лёгка пазнаць.

**— Вы занятыя ў галоўных партыях практычна ва ўсім балетным рэпертуары свайго тэатра. Якія з вашых вобразаў вам асабліва па душы?**

**Гюльагасі:** У мяне ў рэпертуары, сапраўды, шмат разнастайных партый, але мне як выканаўцу значна больш цікавыя за герояў “блакітнай” класікі ролі з моцным драматычным складнікам. У іх больш магчымасцей праявіць сябе і як танцоўшчыка, і як акцёра. Напрыклад, у нас ёсць аднаактовы балет “Лэйлі і Меджнун”. У ім артыст павінен выдаваць вялізны эмацыянальны пасыл, і менавіта гэта забірае ўсе сілы, а зусім не тэхнічны бок партыі.

**Рыма:** Можна ўспомніць і нашу апошнюю балетную прэм’еру — спектакль “Паненка і хуліган” на музыку Шастаковіча, які аднавіў на нашай сцэне харэограф Сяргей Махначоў з Санкт-Пецярбурга. Цікава было назіраць, як для выканання характэрнай партыі Хулігана з майго мужа “выбівалі” яго арыстакратызм, які так да месца ў класічных партыях прынцаў.

**Гюльагасі:** Я ў захапленні ад гэтага балета і ад гэтай ролі!

**Рыма:** Гюльагасі ў нас выліты герой, пераможца, высакародны арыстакрат. Так што ніякіх роляў ліхадзеяў яму не даюць, хоць не зашкодзіла б паспрабаваць ужо проста для цікавасці.

**— Як вы лічыце, што вашу пару адрознівае ад іншых? Чаму харэографы часта ставяць менавіта для вас?**

**Рыма:** Мне падаецца, наша пара дае эфект на сцэне. Калі да нас прыязджаў ставіць знакаміты Георгій Алексідзэ, мы якраз з Гюльагасі танцавалі ў “Дон Кіхоце” Кара Караева ў харэаграфіі Георгія Коўтуна. Алексідзэ паглядзеў гэты балет і адабраў нас у адзін са складаў для пастаноўкі свайго спектакля. Для прэм’еры балета “Лэйлі і Меджнун” ён вылучыў нас і аргументаваў свой выбар тым, што на пару Гюльагасі — Рыма немагчыма глядзець без слёз.

**— Пазнаёміліся вы ў харэаграфічным вучылішчы, а ў прафесію як прыйшлі?**

**Рыма:** Можна сказаць, што прафесія нас абодвух выбрала. Са мной адбылася наогул лёсавызначальная гісторыя. Мы з сям’ёй жылі ў маленькім прыгарадзе Баку Лок Батан, што ў перакладзе з азербайджанскага азначае “Патануў вярблюд”! Пасля таго, як у 80-х гадах згарэў Тэатр оперы і балета ў Баку, на час аднаўленчых работ артысты сталі шукаць дадатковыя спосабы заробку. Адна з салістак тэатра адкрыла ў нашым прыгарадзе танцавальны гурток, куды мая маці запісала і мяне. Я стала займацца і зразумела, што мне гэта прыносіць вялікае задавальненне. Апынулася так, што не толькі мне спадабаўся балет, але і нашай настаўніцы спадабалася я. Калі яна вярталася ў адрэстаўраваны тэатр, паабяцала патэлефанаваць мне праз два гады. І што вы думаеце? Яна сапраўды патэлефанавала! За такую неабыякавасць я буду ўдзячная Вікторыі Ахундавай усё сваё жыццё! Пасля Бакінскага харэаграфічнага вучылішча мяне ўзялі ў тэатр, а ўжо праз паўгода далі партыю Машы ў “Шчаўкунку”…

**Гюльагасі:** А мяне заўважыў нейкі мужчына, калі мы з бацькам ехалі ў метро. Мне было ўсяго пяць гадоў, я быў вельмі энергічны і не мог спакойна сядзець на адным месцы. Гэты незнаёмец звярнуў на мяне ўвагу, падышоў да бацькі і прапанаваў аддаць мяне ў балет. Бацька вырашыў, што гэта добрая ідэя, і запісаў мяне ў гурток пры Доме афіцэраў. Затым было вучылішча, дзе мы і пазнаёміліся з Рымай. А зблізіла нас сумесная праца ўжо ў тэатры. У нас з’явілася ўсё больш спектакляў, дзе мы танцавалі разам, прычым чамусьці адны рамантычныя партыі, калі па сюжэце мы ігралі закаханых. Куды ўжо тут было схавацца ад пачуццяў!

**— Што ў перспектыве ў вашага сямейна-творчага дуэта?**

**Рыма:** Усё, што мы з Гюльагасі маем цяпер, у нас ёсць менавіта дзякуючы прафесіі. Гэта высакародная праца, якая выхоўвае характар, сілу духу, волю, дысцыпліну… Мы і сына свайго хацелі б бачыць артыстам балета, у адрозненне ад шматлікіх калег, якія не жадаюць для сваіх дзяцей такога цяжкага лёсу.

**Гюльагасі:** Я сем гадоў выкладаў пластыку і дуэтны танец у Азербайджанскім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў на кафедры харэаграфіі. У перспектыве збіраюся працягваць педагагічную працу і зрабіць свой унёсак у развіццё нашага балета. А вось мая жонка скончыла гэты ж універсітэт па спецыяльнасці “Балетмайстар”, у яе ёсць здольнасці да пастаноўкі харэаграфіі. Але асноўнае наша жыццё праходзіць, вядома ж, у тэатры. Цяпер рыхтуемся да пастаноўкі балета “Сцежкаю грому” Кара Караева, праца над якім павінна пачацца ў найбліжэйшы час.

**Рыма:** Спадзяёмся таксама, што давядзецца яшчэ неаднойчы пабываць у Мінску. Вельмі спадабаўся прыём, які нам аказалі ў Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі падчас Дзён культуры Азербайджана. Усе службы працавалі вельмі прафесійна, а стаўленне да артыстаў было ўвогуле вышэй усялякай пахвалы.



*Сцэна са спектакля “Сем прыгажунь”.*

# Парыжскія гастролі



Фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета.

**У кастрычніку балетная трупа Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь выступіла на адной з самых прэстыжных канцэртных пляцовак свету — артыстаў прымаў Палац кангрэсаў у Парыжы. Спецыяльна для "ЛіМа" пра выступленні ў французскай сталіцы і гастрольную дзейнасць распавёў мастацкі кіраўнік балета, народны артыст Беларусі Юрый Траян.**

Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ

**— Гонару выступаць на сцэне Палаца кангрэсаў у Парыжы ўдастойваюцца найлепшыя творчыя калектывы. Нарэшце на гэтай знакамітай канцэртнай пляцоўцы пабываў і беларускі балет. Раскажыце, калі ласка, як было атрымана запрашэнне ў Парыж.**

— Мы даволі даўно знаёмыя з імпрэсарыа Армэнам Карапецянам, які займаецца арганізацыяй гастроляў замежных балетных труп Францыі. Планавалі супрацоўніцтва, аднак знайсці нейкае "акно" ў нашай рабоце і абмеркаваць усе арганізацыйныя моманты ўдалося толькі цяпер. Мы адразу дамовіліся, што гэты візіт будзе непрацяглым, так бы мовіць, азнаямляльным, але ў яго абавязкова ўвойдуць выступленні ў Парыжы.

У свеце існуе некалькі месцаў, дзе вельмі пачэсна выступаць на любой пляцоўцы. Гэта Лондан, Токіа, Нью-Ёрк, Пекін і, зразумела, Парыж. Сярод усіх канцэртных пляцовак для гастрольных труп у сталіцы Францыі Палац кангрэсаў — самая лепшая і прэстыжная. Для нас было вялікім гонарам паказваць там "Спячую прыгажуню" Чайкоўскага, гэткі рафінаваны класічны балет. Дарэчы, мы былі гатовыя танцаваць любы спектакль з нашага рэпертуару, але апошняе слова, вядома, было за імпрэсарыа, які прапанаваў для французскай публікі менавіта гэты балет. Такім чынам, мы двойчы паказалі спектакль у Парыжы і адзін раз выступілі з ім у Туры.

**— Якія ўражанні пасля выступленняў?**

— Мне здаецца, што нашы артысты выглядалі вельмі годна. Яны максімальна адказна падышлі да гастроляў і паказалі свой самы лепшы ўзровень. Нас вельмі добра прымалі, і было зразумела, што спектакль спадабаўся гледачам. Рэакцыя імпрэсарыа таксама была станоўчай, і мы дамовіліся пачаць распрацоўку далейшага плана выступленняў беларускага балета Францыі.

У Парыж прыехалі з самым лепшым складам танцоўшчыкаў. Партыю Аўроры выканалі народная артыстка Беларусі Вольга Гайко, Ірына Яромкіна і Марына Вежнавец. Вядучую мужчынскую ролю прынца Дэзірэ — лаўрэат міжнароднага конкурсу Ігар Аношка і Алег Яромкін. Фею Карабос танцавала Дзіяна Лысенка, фею Бэзу — Вольга Гайко і Марына Вежнавец. Вельмі адказнае і складанае па-дэ-дэ прынцэсы Фларыны і Блакітнай птушкі выконвалі народныя артысты Беларусі Людміла Кудраўцава і Ігар Артамонаў, а таксама лаўрэаты міжнародных конкурсаў Кацярына Алейнік і Канстанцін Геронік. Цяпер чакаем водгукаў парыжскай крытыкі, якая лічыцца вельмі сур'ёзнай і з'едлівай.

**— Палац кангрэсаў, дзе больш як тры тысячы месцаў, падчас выступленняў Вялікага тэатра быў амаль поўны. Як вы лічыце, чым зацікавіў наш балет французскую публіку?**

— Мы прадстаўляем класічную рускую харэаграфію, а танцаваць рускую класіку — не так проста. На Захадзе далёка не ўсе добрыя трупы могуць і ўмеюць гэта рабіць. Нам, у сваю чаргу, складаней выконваць неакласіку, сучасную харэаграфію... У гэтым напрамку лідзіруюць, канечне, заходнія трупы. Такое "спаборніцтва" працягваецца дзесяцігоддзямі і карысна ўсім — і артыстам, і гледачам. Таму, калі з Усходу прыязджае ў Парыж добрага ўзроўню трупа, гэта заўсёды прыемна для французаў, і яны з задавальненнем ідуць і глядзяць.

**— Якія яшчэ гастрольныя паездкі чакаюць трупу балета Вялікага тэатра Беларусі?**

— Зусім нядаўна мы былі ў Вільнюсе з балетам "Бахчысарайскі фантан", які закрываў Дні культуры Беларусі ў Літве. Праз месяц, у канцы лістапада, едзем у Іспанію, дзе пакажам спектаклі "Лебядзінае возера" і "Баядэрка". Праграма гастроляў даволі напружаная, мы пабываем у некалькіх гарадах Іспаніі. А з сярэдзіны снежня і да канца студзеня будзем у Германіі з балетамі "Лебядзінае возера" і "Шчаўкунок". Дарэчы, у Германію нас запрашаюць другі год запар, мінулым разам мы былі ў туры па гэтай краіне амаль два месяцы.

У перспектыве імпрэсарыа прапануе зрабіць паездку традыцыйнай. Вясною ў нас зноў Іспанія і, магчыма, Італія (востраў Сіцылія). Даволі шмат прапаноў выступіць, але нас заўсёды стрымліваў той факт, што дома мы пакідаем "на галодным пайку" беларускіх гледачоў. Каб неяк вырашыць гэту праблему, сёлета пашырылі нашу балетную трупу. Цяпер у ёй 110 чалавек — два паўнавартасныя склады артыстаў. Такім чынам, мы нарэшце можам адначасова ездзіць на гастролі і паказваць спектаклі на роднай сцэне.

# Патрабуюцца рукі і сэрцы



**Штораніцы за каваю я выслухоўваю сабачыя і кацiныя гісторыі, бо сястра дапамагае валанцёрам, якія ратуюць гэтых жывёл. Часам збіраюць па вуліцах, а часцей забіраюць з вуліцы Гурскага, 42, дзе месціцца ўстанова, названая "Фаўнай горада", — пункт адлову і часовага ўтрымання катоў і сабак. Гісторыя першая, другая, чарговая... Пазачарговую гісторыю я пачула падчас выканання службовых абавязкаў. Перад пачаткам спектакля глядач гадоў васьмі шчасліва паведаміў: цяпер у яго таксама ёсць сабака! Тата разважліва ўдакладніў: маўляў, глядзелі ваш спектакль, а там сабака ды котка знаходзяць сабе гаспадароў. Ну і... пад уплывам мастацтва спраўдзілі сынаву мару. Узялі сабаку. Проста ўзялі — у валанцёраў...**

Жана ЛАШКЕВІЧ

Увага, знаўцы ды заўсёднікі Тэатра юнага гледача! У якім спектаклі знайшлося падобнае мастацкае кіраўніцтва да дзеяння? Слушна, у цудоўнай гісторыі пра Брыка і Шусю, якія шукаюць лета. А яшчэ ў тэатры ёсць прынцэса Белаcнежка, якая вельмі любіць свайго маленькага поні. Ёсць маленькі лорд Седрык Фаўнтлярой, што любіць сабак і рыхтуе свайму дзеду прыемную неспадзёўку — сабачы хор, які брэша... дакладна пад музыку. Ёсць маленькае Асляня, якое ўцякае ад жорсткага гаспадара і дапамагае немаўляці на імя Езус Хрыстус. Ёсць вожыкі, ваверкі, мядзведзі, парсючкі, пацукі, краты, ластаўкі... У тэатры працуюць з вобразамі. У адных спектаклях жывёльныя персанажы адлюстроўваюць чалавечыя дачыненні, у іншых — уяўленні людзей пра жывёл, у нейкіх — стасункі людзей з жывёламі.

Неўзабаве высветлілася, што сярод нашых заўсёднікаў-тэатралаў ёсць ратаўнікі жывёл з моладзевага грамадскага аб'яднання "Суперкот". Натуральна, Тэатру юнага гледача проста наканавана было з ім пасябраваць!

Вольга Швед, старшыня "Суперката", з гэтай нагоды жартуе: маўляў, у нас агульныя каты, сабакі, дзеці, сваякі, а хто як не дзеці і жывёлы патрэбны адзін аднаму?

Паводле адукацыі Вольга — педагог, паводле заняткаў — прадпрымальнік, у вольную часіну — валанцёрка. Перавагу аддае катам. Бавіцца з імі столькі часу, што, падобна, здолее перакладаць з кацінае мовы на некалькі чалавечых.

— Амаль перакладаю, — пагаджаецца Вольга. — Здаецца, самыя лепшыя чалавечыя пачуцці ўзнікаюць да дзяцей і да жывёл. Варта дакрануцца да пухнатага кацінага камячка альбо да маленькага дзіцяці... А калі не ўзнікаюць, калі чалавек не любіць жывёл ды дзяцей, дык з чалавекам нешта не тое робіцца... Дзеці жывуць пачуццямі, жывяцца вобразамі, таму спектаклі, напэўна, самае геніяльнае вынаходніцтва, каб распавесці дзіцяці пра жывёлу і абудзіць да яе лепшыя пачуцці (вядома, ёсць адметныя фільмы ды кнігі, але тэатр — ён вось тут і цяпер, і яго ўздзеянне пераацаніць цяжка).

У тэатры ёсць гледачы, з якімі можна размаўляць перад спектаклямі альбо пасля спектакляў. Мы распачалі сустрэчы па школах, а тэатральныя педагогі практыкуюць гэта прафесійна. У Тэатра юнага гледача ёсць сайт, дзе адразу з'явіўся банер "Суперката". Пакуль ТЮГ працуе ў арэндаваным памяшканні, самым дзейсным сродкам дапамогі можна лічыць спектаклі. Дырэктар тэатра Юрый Кулік — драматург і рэжысёр — ужо напісаў п'есу з галоўнымі героямі сабакам Казікам і коткай Марыськай.

Важна патлумачыць дзіцяці, кім можа і павінна зрабіцца жывёла ў доме. Перш як узяць сабе гадаванца, трэба моцна-моцна падумаць, ці здужае гаспадар за яго адказваць, пры гэтым не варта дагаджаць жаданню дзіцяці мець жывую цацку. Бо занадта часта многія бяруць кацяня, а праз колькі часу, нагуляўшыся, выкідаюць на вуліцу. Ці гатовыя вы прыбіраць латок, вычэсваць поўсць, мыць лапы, падымацца на шпацыр з сабакам альбо разам з катом, які любіць пабудзіць гаспадара гадзін у пяць раніцы? А часам жывёлы хварэюць — патрэбныя лекі, адмысловы догляд. А часам уцякаюць — трэба цярпліва і доўга шукаць.

Паводле рэкамендацый адмыслоўцаў, трохгадоваму дзіцяці можна мець рыбак альбо птушку, а гадкоў з сямі-васьмі дзіця ў стане дапамагчы даглядаць ката ці сабаку. Перадусім такі сябрук у хаце — гэта выхаванне пачуццяў. Стаўленне да жывёлы дапамагае змадэляваць і нават выправіць чалавечыя дачыненні — сямейнікі больш уважліва ставяцца адно да аднаго, выяўляюць дабрыню, спагадлівасць, цярпенне. Жывёла часцяком спрые ўтварэнню асаблівай хатняй атмасферы. Калі ў дзіцяці ёсць клопат і адказнасць за жывёлу, яно пераносіць гэта адказнае стаўленне на родных людзей. Жывёла можа выправіць чалавечыя дачыненні, асабліва паміж старэйшымі і малодшымі, якія дзеляць клопаты адпаведна свайму ўзросту. Адзін шпацыруе з гадаванцам, другі прыбірае і вычэсвае, у выніку агульная справа яднае і абуджае паразуменне.

А навукоўцы з фінскага Куопio University Hospital высветлілі, што дзеці менш хварэюць, калі ў сям'і ёсць свойская жывёла. Пры гэтым сабакі ўплываюць на дзіцячы імунітэт лепей за катоў, таму што... цягаюць з вуліцы бруд. На яго імгненна рэагуе імунная сістэма, і ў выніку ўзмацняецца супраць вірусаў і бактэрый, якія выклікаюць рэспіраторныя захворванні.

Тэатр адным з першых заўважае: калі наспявае праблема з жывёламі, значыць, ёсць праблема ў чалавечым грамадстве. У гэтай праблемы шмат складнікаў: жыццё, эканамічная сітуацыя, выхаванне, але нейкія маральныя каштоўнасці нязменныя. Добры чалавек не праміне бяздомнага сабаку, не выкіне на вуліцу ката. Жывёлы — катэгорыя асаблівая. Яны не могуць прасіць, патрабаваць, сказаць пра свой боль і змагацца за свае правы. Таму ў дачыненні да іх надзвычай важная чалавечая інтуіцыя і жаданне дапамагчы. Дапамагаючы іншаму, ты нешта знойдзеш для сябе.

Моладзевае аб'яднанне "Суперкот" (http://forum.superkot.com/) — грамадскае: складаецца з валанцёраў і тых, хто ім дапамагае, а таксама з усіх, хто можа і хоча дапамагчы. Пэўная мэта — ратаванне жывёл, якія трапляюць на адрас Гурскага, 42. А туды трапляюць бяздомнікі — кінутыя, выкінутыя, адрынутыя, літаральна выцягнутыя з-пад колаў машыны альбо цудам ацалелыя пасля "палёту" з высокага паверху. І часу на ратаванне ў іх вельмі мала. Трэба хутка знайсці для жывёліны новы дом — у ідэале, а на справе — нейкі зацішны куток, дзе можна лекаваць (а таксама стэрылізаваць), даглядаць (а таксама адаптаваць пасля стрэсаў) і чакаць... Таго самага гаспадара. Вядомыя гісторыі сабак, якія памiралі на магіле гаспадара; валанцёры апавядаюць і пра катоў, якія папросту адмаўляліся есці і гінулі — праз тое, што ім здрадзілі, іх кінулі.

У "Суперката" няма звыклага офіса, затое ёсць прытулак, дзе часова ўтрымліваюцца гэтыя небаракі. Памяшканне невялікае, хвастоў шмат, дзейнічаць трэба хутка, таму што сталіца — горад вялікі, у тым ліку і на гора — кацінае ці сабачае. Валанцёры разбіраюць жывёл па дамах, па кватэрах, каб хоць трошкі пасунуць бясконцую чаргу. "Суперкату" патрэбны добраахвотнікі — не толькі тыя, хто можа прыходзіць у прытулак, але і тыя, хто можа дапамагчы лекамі, харчам, цёплымі пасцілкамі ў халодную паравіну года, хто можа выступіць з аповедамі пра гадаванцаў і тлумачэннямі правілаў утрымання жывёл у гарадскіх умовах. Заўсёднікі і валанцёры не толькі кормяць жывёл альбо робяць ім уколы: патрабуюцца фатографы і стылісты, кіроўцы з уласнымі машынамі, друкары, журналісты і нават майстрыхі адзення для ўдзелу ў кацiных і сабачых выстаўках. І, галоўнае, патрэбныя чалавечыя рукі і сэрцы — даглядаць і любіць.

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Чалавек года Віцебшчыны — 2011 Вольга ГІНЬКО, дырэктар Празароцкага вучэбна-педагагічнага комплексу "Дзіцячы садок-школа" Глыбоцкага раёна, распавядае пра краязнаўчыя ініцыятывы вучняў і складзеную імі супольна з настаўнікамі гісторыю сваёй установы:**

— Яшчэ ў канцы XVII стагоддзя, у 1678 годзе, у Празароках быў заснаваны францысканскі кляштар. Пры кожным кляштары была школа. Але пакуль дакументальных пацвярджэнняў гэтаму я не знайшла. Знайшла іншае: хроніку Празароцкага касцёла пазнейшага часу, у якой распавядаецца пра касцёльную школу: у ёй у 1885/1886 навучальным годзе вучыліся 48 хлопчыкаў. Пазней у Празароках існавала народнае вучылішча. У 1900/1901 навучальным годзе яго наведвалі 57 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. У вучылішчы былі моцныя педагагічныя традыцыі, ёсць звесткі, што семінары тагачасных настаўнікаў праводзілі на базе гэтай установы. Потым, за Польшчай, тут дзейнічала чатырохкласная школа. Яе кіраўніком быў Эдвард Вайцюкевіч. Да вайны школа была сямікласнай, а з 1951 года стала сярэдняй.

У школе вельмі моцныя краязнаўчыя традыцыі, і тлумачыцца гэта нават тым, што 70 працэнтаў настаўнікаў — выпускнікі гэтай жа ўстановы. Сярод тых, хто яе скончыў, шмат навукоўцаў, выкладчыкаў.

Гісторыя школы — ад першай старонкі і да апошняй — занатаваная ў кнігах, якія пішуць, складаюць і саматужна выдаюць самі школьнікі. Прыкладам, вучні 6 — 7-х класаў пісалі пра знаных людзей. Нашы землякі — не толькі заснавальнік беларускага тэатра Ігнацій Буйніцкі, а і Вацлаў Ластоўскі, Здзіслаў Нядзеля. Па "Падручным расійска-крыўскім слоўніку" Вацлава Ластоўскага мы даследавалі імёны ўсіх хлопчыкаў і дзяўчынак школы, настаўнікаў. Між іншым, асаблівасці беларускіх страў таксама вывучылі па гэтым выданні. Калі да нас прыязджаюць дэлегацыі, для іх у нас ёсць асаблівыя рытуалы, да прыкладу, прапануем ім *"палавічок жаданняў"*. Але і стравамі спрабуем карміць нашымі, мясцовымі. *Драмязоўкай* — гэта каўбаса, "пальцам пханая", — альбо ставім на стол *завіванікі* — блінцы з тварагам. Яшчэ *цясткі* — пячэнне з цеста. А *мазулькі* — калі ўнутры яго ёсць начынка. Вялікая духоўная спадчына празароцкага краю. Яе здабыткі мы змясцілі ў зборніку дзіцячай творчасці "Парасткі". Не так даўно выпусцілі гістарычны каляндар — "Летапіс вёскі Празарокі".

## Ад старажытнасці да сучаснасці

Унікальная кніга "Гісторыя Пінска ад старажытнасці да сучаснасці" ўбачыла нядаўна свет у Беларусі. Яе выхад прымеркаваны да 915-годдзя першага летапіснага згадвання горада. Ідэя стварэння кнігі нарадзілася ў навукоўцаў у 2007 годзе падчас імпрэзы, прысвечанай 910-годдзю Пінска. Іх ініцыятыву падтрымала кіраўніцтва Пінскага гарвыканкама, якое і дапамагло з фінансаваннем гэтага праекта. Выданне ўтрымлівае шмат новых і цікавых фактаў, якія цесна звязаны з археалогіяй горада. Тут рэгулярна праводзяцца розныя раскопкі, у якіх бярэ ўдзел вядомы археолаг, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Пётр Лысенка.

Аналагічнае выданне мае толькі Мінск. Як лічаць гісторыкі, такія кнігі павінны быць у кожнага горада, бо гэта наша памяць, якая застанецца на стагоддзі. Людзі знаёмяцца з гісторыяй месца, дзе жывуць, ганарацца ім і сваёй спадчынай.

**Бажэна СТРОК**

## Музейны ўнікат

# Мастацтва медальераў

Фонды Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціёна налічваюць больш як 46 тысяч адзінак захоўвання, з якіх экспануецца каля 1600. Галоўным музейным унікатам можна лічыць калекцыю манет выдатнага медальера XIX стагоддзя Фёдара Талстога на тэму Айчыннай вайны 1812 года і Заходняга паходу 1813 — 1814 гадоў.



*Медаль "За любоў да Айчыны" — аверс і рэверс.*

**Тацяна ШЫМУК, фота аўтара**

У расійскім медальерным мастацтве XIX стагоддзя граф Фёдар Талстой (дарэчы, родзіч Льва Талстога) быў знакамітым і паважаным майстрам. Акрамя медальнай справы ў сферу яго творчых заняткаў уваходзілі жывапіс, скульптура і літаратура. Талент мастака ў Фёдара Пятровіча адкрыўся яшчэ ў дзяцінстве. У 1804 годзе, насуперак жаданню свайго бацькі, ён пакінуў адміральскія курсы Марскога корпуса і паступіў у Імператарскую Акадэмію мастацтваў. Галоўны кірунак творчасці мастака вызначыўся ў 1810 годзе, калі ён быў прызначаны на працу ў Пецярбургскі манетны двор. Там не толькі безупынку выраблялі капейкі, рублі і паўрублі, але і стваралі незлічоную колькасць малюнкаў для будучых манет. Гэтай вельмі адказнай і тонкай справай займаліся медальеры.



*"У памяць Айчыннай вайны 1812 года" — аверс і рэверс.*

Знакамітым Фёдара Талстога зрабіла серыя з 21 дзівоснага медаля на тэму вайны з Напалеонам, над якой ён працаваў з 1814 па 1836 год. У калекцыю, напрыклад, увайшоў медаль "У памяць Айчыннай вайны 1812 года". Гэту ўзнагароду заснаваў цар Аляксандр I сваім указам ад 5 лютага 1813 года. Узнагароджваліся ім людзі ўсіх саслоўяў. На аверсе медаля — старажытны знак: у трохкутніку, які сімвалізуе Святую Троіцу, прамяністае вока Госпада Бога. Гэта азначае, што Бог нас не пакінуў, ён прыглядае за намі.

"За любоў да Айчыны" — адзін з вельмі рэдкіх медалёў. Яго ўручалі з вясны 1812-га сялянам-партызанам Маскоўскай губерні, якія праславіліся ў вайне з французамі. Медаль зроблены з цынку. На аверсе — партрэт імператара Аляксандра I, а на рэверсе змешчаны надпіс "За любоў да Айчыны". Некалькі такіх медалёў захоўваецца цяпер у Эрмітажы.

Яшчэ ў музеі можна ўбачыць медалі 1835 года: "Уцёк Напалеона за Нёман", "Бітва пры Лейпцыгу", а таксама шматлікія іншыя медалі, манеты і жэтоны, якія датычаць вайны 1812 года і чаканіліся ў Расійскай імперыі.

Уявіць сённяшні Ваўкавыск без музея проста немагчыма. Багаты краязнаўчы матэрыял дазваляе праводзіць шырокую асветніцкую дзейнасць з кірункам на ваенна-патрыятычнае выхаванне падрастаючага пакалення, а змястоўныя фонды і новыя плошчы музея, шчырае захапленне сваёй працай высокакваліфікаваных супрацоўнікаў, дапамога дзяржавы і запатрабаванасць Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціёна — усё гэта дазваляе спадзявацца, што ў XXI стагоддзі музей з такім багатым і цікавым мінулым чакае яшчэ шмат новых адкрыццяў.

## Між іншым

# Урок-падарожжа

Каб больш зацікавіць і прывабіць наведвальнікаў, прынамсі, вучняў сярэдніх школ, у Капыльскім раённым краязнаўчым музеі распрацавалі музейныя ўрокі. Адзін з іх прайшоў у філіяле "Этнаграфія і побыт канца XIX — пачатку XX стагоддзя", размешчанага ў вёсцы Вялешыны, і атрымаў назву "Музейны ўрок. Пачатковая школа".

**Раіса МАРЧУК**

Экспазіцыя гэтага філіяла складаецца з некалькіх раздзелаў, адзін з іх знаёміць з пачатковай школаю канца XIX стагоддзя. Сам будынак быў узведзены ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, калісьці ў ім размяшчалася менавіта пачатковая школа. Гэтыя факты і паслужылі штуршком для правядзення музейных урокаў.

— За аснову мы ўзялі заняткі, якія праводзіліся ў народных вучылішчах больш як сто гадоў таму, — распавяла старшы навуковы супрацоўнік Капыльскага раённага краязнаўчага музея Тацяна Варанцова. — Музейныя ўрокі разлічаны на вучняў шостых-сёмых класаў. Мы прапанавалі ім акунуцца ў школьную атмасферу тых далёкіх часоў і паспрабаваць выканаць заданні па падручніках канца XIX — пачатку XX стагоддзя, якія захоўваюцца ў музеі.

Каб падлеткі маглі зразумець, як праходзілі тады заняткі, экскурсавод спачатку прапаноўвае зрабіць невялічкае падарожжа ў мінулае, знаёміць з рарытэтнымі падручнікамі і пісьмовымі прыладамі, зусім не падобнымі да сучасных. А потым пачынаюцца і незвычайныя заняткі. Урок праводзіцца толькі для шасці вучняў, паколькі маецца ўсяго дзве парты: адна разлічана на дваіх, другая — на чацвярых. Але кожны пры жаданні можа паспрабаваць сябе ў якасці вучня старадаўняй школы.

— І вось старадаўні званочак апавяшчае пра пачатак урока, — расказвае далей аўтар праекта Тацяна Варанцова. — Вучні ракрываюць падручнікі: "Граматыку беларускай мовы ў нагляданнях і практыкаваннях" (выдадзена ў 1931 годзе), "Арыфметыку" (за 1936 год), "Літаратуру" (1940) і "Русскую грамматику" (1907 год). Экскурсавод тым часам раздае заданні. Са свайго вопыту магу сказаць, што цяжэй даецца "Русская грамматика", паколькі там сустракаюцца незнаёмыя сённяшнім вучням літары. Непадробныя эмоцыі выклікаюць у вучняў пёравыя ручкі, рарытэтныя чарнільніцы. Падлеткі з вялікай цікавасцю акунаюць у іх драўляныя ручкі і… спрабуюць пісаць. Не абыходзіцца без клякс і памарак. Пасля выканання заданняў кожны атрымлівае сваю адзнаку.

Такі экскурс у гісторыю надоўга застаецца ў памяці падлеткаў, абуджае інтарэс да сваёй мінуўшчыны.

## Пуцявіны

# Ваяваў на Пухавіччыне

Сярод тых, хто сустрэў вайну ў чэрвені 1941 года на Міншчыне, паблізу чыгуначнай станцыі Пухавічы, — Васіль Аглоблін. А ваяваў ён у складзе 8-й паветрана-дэсантнай брыгады. На жаль, у самога Васіля Дзмітрыевіча пра той час ужо не распытаеш. Ветэран вайны, літаратар пайшоў з жыцця ў 1995 годзе.

У Вялікую Айчынную вайну пасля года жорсткіх баёў у складзе брыгады В. Аглоблін трапіў у нямецкі палон. Родным пасля таго, як брыгада акazалася ў акружэнні, прыйшло паведамленне пра гібель Васіля. А дэсантнік працягваў нішчыць ворага. У палон трапіў 5 мая 1942 года пад Вязьмай, у раёне станцыі Дзягілева (Смаленская вобласць). Прайшоў праз канцлагеры і астрогі ў Драгобычы, Хемеры і Хамме. У Дортмундзе працаваў на заводзе. Двойчы спрабаваў уцячы. Перад вызваленнем знаходзіўся ў Бухенвальдзе.

Пасля зноў служба ў войску. Дэмабілізаваўся ў канцы 1945 года, а праз паўмесяца ўжо быў у родным Чалябінску. Працаваў журналістам у газеце "Копейский рабочий". Некалькі гадоў кіраваў літаратурным аб'яднаннем "Вугалёк". Выступаў у друку з паэтычнымі і празаічнымі творамі. У рукапісе засталіся раман "Падземны гул" і зборнік вершаў "Я па зямлі хадзіў лёгка". Пэўна ж, у гэтых кнігах — і фрагменты з пухавіцкай ваеннай памяці…

**Сяргей ТУРЭЦ**

Лёсы людскія

# Каганец азначае светач

У вёсцы Вялікія Навасёлкі, што знаходзіцца непадалёк ад горада Дзяржынска, давялося сустрэцца з вопытным краязнаўцам, педагогам і кіраўніком школьнага гісторыка-краязнаўчага музея Вячаславам Кавалеўскім. Дзякуючы яго клопатам у тутэйшай сярэдняй школе абсталяваны куток, звязаны з жыццём і творчасцю беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста і мастака Каруся Каганца (Казіміра Карлавіча Кастравіцкага).

**Лявон ЦЕЛЕШ**

Вялікія Навасёлкі вядомыя з XVIII ст. як маёнтак Навасёлкі. З сярэдзіны XIX і да пачатку XX ст. вёска належала збяднеламу, а ў мінулым магутнаму шляхецкаму роду Кастравіцкіх, уладальніку герба "Байбуза". Продак Кастравіцкіх, праваслаўны шляхціц Іван, быў скарбнікам Мсціслаўскага павета. Унук яго, Сцяпан, перайшоў у каталіцкую веру. У пачатку XIX ст. Кастравіцкія перабраліся з Гродзеншчыны на Міншчыну, былі прылічаны да дваран Мінскай губерні. Нашчадак старадаўняга роду Карл Самуілавіч Кастравіцкі быў вялікім аматарам музыкі і меў добрую аграномічную адукацыю. Пабраліся шлюбам бацькі будучага пісьменніка, калі Карлу было 40 гадоў, а Алене, маці Каруся, — 19. Алена Тадэвушаўна паходзіла з багатай сям'і, мела нядрэнную адукацыю — скончыла інстытут у Вільні.

Бацька Каруся, як і многія іншыя шляхцічы, узяў актыўны ўдзел у паўстанні Кастуся Каліноўскага, за што яго саслалі ў Сібір, а маёмасць канфіскавалі. У горадзе Табольску ў сям'і Кастравіцкіх у 1868 г. нарадзіўся



Карусь Каганец.

Казімір Рафаіл Карлавіч Кастравіцкі (Карусь Каганец). Неяк маленькі Казік выпадкова ўпаў з высокага акна і моцна пакалечыўся — у яго вырас горб. Па злой іроніі лёсу бацька хлопчыка ад нараджэння быў гарбатым.

У паўстанні ўдзельнічаў і брат Карла — Міхал Апалінары Кастравіцкі, які, ратуючыся ад пакарання, выехаў у Італію. У 1880 г. тут нарадзіўся яго ўнук Вільгельм — у будучым сусветна вядомы паэт Гіём Апалінэр, стрыечны пляменнік Каруся Каганца.

Пасля дзесяцігадовай ссылкі сям'і Кастравіцкіх дазволілі вярнуцца ў Беларусь. Спачатку жылі на Стаўбцоўшчыне, а потым, пасля смерці Карла, Алена з чатырма дзецьмі перабралася на Койданаўшчыну, у вёску Юцкі, што непадалёк ад Навасёлак. Каб уратаваць сям'ю ад галечы, узяла ў прымы селяніна Кардзецкага, ад якога нарадзіла траіх дзяцей. Гарбаценькі Карусь быў нелюбімым дзіцём у вялікай сям'і. Але адораны дапытлівасцю, любоўю да прыроды. Хлопчык не цураўся сябраваць з вясковымі дзецьмі, размаўляў з імі па-беларуску, што не падтрымлівалася ў сям'і. Імкнучыся набыць веды, Казімір з дзяцінства займаўся самаадукацыяй, умеў добра маляваць. Пасталеўшы, паступіў у Мінскае гарадское вучылішча, прадоўжыў вучобу ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства, дзе ўразіў выкладчыкаў сваім талентам.

Недахоп грошай прыпыніў яго заняткі. У 1893 г. пачалася літаратурная дзейнасць Казіміра, з гэтага часу ён вядомы пад псеўданімам "Карусь Каганец". Каганец у пераносным сэнсе слова азначае светач. Паэт збіраўся свяціць беларускаму народу, а імя Карусь узята як успамін пра бацьку, бо ў Беларусі ў той час усіх Карлаў называлі Карусямі.

У 1899-м Карусь узяў шлюб з Ганнай Пракаповіч і абстаяляваўся жыць каля вёскі Юцкі, ва ўрочышчы Лісія Норы. Каб пракарміць сям'ю (да 1908 г. было ўжо чацвёра дзяцей), Карусь часта мяняў месца жыхарства і працу, якую нялёгка было знайсці з-за яго ўдзелу ў рэвалюцыйным руху. Працаваў у Мінску, Лідзе, Вільні… Быў добра знаёмы з братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім, Алаізай Пашкевіч, Алесем Бурбісам і многімі іншымі.

У 1902 — 1903 гг. Карусь Каганец удзельнічаў у стварэнні Беларускай Сацыялістычнай Грамады, распрацоўцы яе праграмы. У розных друкаваных выданнях, асабліва ў "Нашай ніве", пачалі з'яўляцца яго вершы, паданні. На драматычнай ніве дэбютуе п'есай "У іншым шчасці няшчасце схавана", а вадэвіль "Модны шляхцюк" з поспехам ставіўся тэатрам І. Буйніцкага. Каганец — аўтар першага ілюстраванага дзіцячага падручніка "Беларускі лемантар", пасля выдання якога ў 1906 г. выйшла адразу тры лемантары. Малюнкі ў падручніках былі таксама яго.



Герб Кастравіцкіх.

За рэвалюцыйную дзейнасць Каганец праследаваўся царскімі ўладамі. Першы раз яго арыштавалі ў 1905 г. Разам з агітатарамі Койданаўскай воласці адбываў пакаранне ў мінскай Пішчалаўскай турме. Калі Карусь Каганец выйшаў адтуль, адно з пецярбургскіх выдавецтваў прапанавала яму зрабіць малюнкі да сваіх выданняў. У 1909 г. замовілі малюнкі да вокладкі кнігі Якуба Коласа "Другое чытанне для дзяцей беларусаў".

У красавіку 1910 г. Віленская судовая палата асудзіла Каганца на год зняволення ў той жа мінскай турме. У гэты ж час у ёй знаходзіўся і Якуб Колас. Яны пазнаёміліся, пасябравалі. За кратамі Якуб Колас напісаў шмат твораў, многія з якіх Карусь Каганец аздабляў сваімі малюнкамі. На жаль, яны не захаваліся. Пасля вызвалення з турмы ў 1911 г. яго здароўе значна пагоршылася. 20 мая 1918 г. ён памёр ад сухот. Пахаваны Карусь Каганец у Вялікіх Навасёлках. У 1988 г. стараннямі землякоў з'явіўся помнік на яго магіле. Пра яе клапоцяцца вучні і настаўнікі мясцовай школы.

З нагоды

# Чыгунка святкуе юбілей

Ці ведаеце вы, што першая чыгуначная лінія прайшла па беларускіх землях на ўчастку Парэчча — Гродна (крыху больш як 60 кіламетраў) і стала часткай магістралі, якая злучыла Пецярбург з Варшавай? З дня, калі быў адкрыты рух на гэтым адрэзку, і вядзе сваё летазлічэнне Беларуская чыгунка. Адбылася незвычайная для тых часоў падзея 27 снежня 1862 года.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**



Фрагмент экспазіцыі.

Менавіта пра гэта і многае іншае распавядае выстаўка, што праце ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, прысвечаная 150-годдзю Беларускай чыгункі. Экспазіцыя, якая знаёміць з гісторыяй айчыннай чыгуначнай магістралі на розных этапах яе развіцця, дазволіць ацаніць унікальнасць і важнасць рэалізаваных за ўвесь гэты перыяд ідэй. Дарэчы, экспанаты для выстаўкі ўзяты з калекцыі музея гісторыі Беларускай чыгункі.

У экспазіцыі прадстаўлены рэдкія экспанаты, дакументы і фотаздымкі, форменнае адзенне, розныя прыстасаванні і апараты, некаторыя з іх — сапраўдныя рарытэты. Да прыкладу, свечачны ліхтар (1860 — 1947), які выкарыстоўваўся для ўнутранага асвятлення пасажырскіх вагонаў, ці буферны ліхтар, фарфоравая талерка Мікалаеўскай магістралі 1912 года, станцыйны звон. Дэманструюцца таксама пуцявыя прылады: пуцявы малаток, гаечны ключ, кірха і інш.

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў павінны выклікаць макеты, у тым ліку рухомага саставу. Прынамсі, паравоза, які эксплуатаваўся на Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы з 1871 года, а таксама макеты сучасных цеплавозаў, электрацягнікаў, электравозаў, грузавых і пасажырскіх вагонаў, шпалападбівачнай машыны. Адзін з макетаў магістралі вырабілі выхаванцы гуртка мадэлізму сталічнай Дзіцячай чыгункі. Дэкаратыўная частка экспазіцыі стылізавана пад купэ вагона. Тут ужыты і прыём дыярамы з пярэднім прадметным планам — цягніком, які адыходзіць удалячынь.

Сапраўдны падарунак для аматараў чыгуначнай даўніны — кнігі, якія падабраны з фондаў навукова-тэхнічнай бібліятэкі Беларускай чыгункі. У ліку рарытэтаў — зборнік тарыфаў Расійскіх чыгунак за 1904 год.

— Хаця сёлета мы святкуем юбілей, але, як заўсёды, напружана працуем, — зазначыў намеснік начальніка Беларускай чыгункі Валерый Страмук. — Сёння ідзе вялікая рэканструкцыя нашых старых вакзалаў у Брэсце, Гродне, у тым жа Парэччы, укараняюцца сучасныя сістэмы аўтаматыкі, будуюцца сацыяльныя аб'екты, уводзяцца ў эксплуатацыю новыя цягнікі. Зразумела, складана ўмясціць у невялікую экспазіцыю ўсе 150 гадоў развіцця Беларускай чыгункі, таму што яна часта мадэрнізавалася, прайшла разам з краінаю і яе жыхарамі праз усе гістарычныя выпрабаванні. Думаецца, гэта выстаўка будзе цікавай у першую чаргу нашым маладым чыгуначнікам і ветэранам, аматарам гісторыі і тым, хто па-сапраўднаму любіць чыгунку.

Акцыі

# Да спадчыны — беражліва

З 2 па 7 лістапада на базе Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны праводзіцца міжнародная культурна-адукацыйная акцыя "Тыдзень у музеі". Актыўны ўдзел у ёй бяруць вучні сталічнай сярэдняй школы № 55.

**Міра ІЎКОВІЧ**

У госці да мінчан прыехалі выхаванцы студыі "Со-Творение", якая працуе пры Ямала-Ненецкім акруговым музейна-выставачным комплексе імя І. С. Шанаўскага. Акцыя накіравана на вывучэнне і папулярызацыю падзей, звязаных з агульным гістарычным мінулым Беларусі і Расіі ў дзіцяча-маладзёжным асяроддзі. У леташнім сакавіку падобнае мерапрыемства праводзілася ў расійскім горадзе Салехардзе.

З беларускага боку ў гэтым мерапрыемстве бралі ўдзел дзеці са шматдзетных, няпоўных, апякунскіх сем'яў, якія наведваюць Прылепскі дзіцячы сад — сярэднюю школу Смалявіцкага раёна. Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі далучыліся да культурна-адукацыйнай дзейнасці на базе Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. З расійскага боку гасцей прымалі выхаванцы студыі "Со-Творение". Дарэчы, акцыя праводзілася пры падтрымцы дэпартамента міжнародных і знешнеэканамічных сувязей Ямала-Ненецкай аўтаномнай акругі.

Сёлета дэлегацыю з Салехарда гасцінна прымае Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Праграма візіту складаецца з чатырох асноўных частак: культурна-адукацыйнай, навукова-даследчай, прафарыентацыйнай, забаўляльнай. Госці пазнаёмяцца са сталічнымі музеямі і тэатрамі, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, наведаюць ваенна-гістарычны комплекс "Партызанскі лагер" Цэнтра экалагічнага турызму "Станькава" і Белавежскую пушчу, пабываюць у Брэсцкай крэпасці і Мірскім замку, дадуць тэатралізаванае прадстаўленне "Дзеці пра вайну".

Акцыя праводзіцца з мэтай фарміравання гістарычнай свядомасці і беражлівага стаўлення да культурна-гістарычнай спадчыны, выхавання патрыятызму, пашырэння кругагляду навучэнцаў, развіцця іх творчых, інтэлектуальных і даследчых здольнасцей. Арганізатары ўпэўнены: развіц-цё міжнароднага супрацоўніцтва ў музейнай справе будзе спрыяць папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны двух народаў сярод моладзі Расіі і Беларусі.

# Дабра і росквіту Мінску і беларусам

**Майстры лапікавага шыцця з Беларусі і Расіі прадставілі свае цудоўныя работы ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь — Доме-музеі І з'езда РСДРП. Галоўны экспанат выстаўкі "Лапікавы блюз" — палатно-абярэг Мінска. Прывабнівалі гледачоў і іншыя мастацкія творы, сярод іх — аўтарскія работы майстроў творчай студыі "Хобі-курсы".**



Іна Салавянчык. Работа "Прывітанне з Палесся".

**Дар'я ШОЦІК,**
**фота Кастуся Дробава**

Лапікавая мазаіка — адзін з відаў сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Традыцыі народнага рамяства адраджаюцца дзякуючы майстрам, якія з захапленнем працуюць у самых розных тэхніках, ствараюць свой адметны дызайн. Напрыклад, звычайную "бабуліну коўдру" ператвараюць у дзіўную тэкстыльную карціну. Ручная работа мае вялікую каштоўнасць, бо кожны абрэзак тканіны робіцца непаўторным. Так перадаецца духоўнасць і імпэт творцы іншым людзям.



Таццяна Кузняцова. Карціна "Нябеснае трапятанне славянскіх палёў".

Год таму пачаў ажыццяўляцца праект "Мінскае палатно-покрыва", які прысвячаўся 945-годдзю горада. Удзельнікі гэтага праекта вырашылі стварыць калектыўны выраб — палатно-абярэг Мінска — і тым самым пажадаць беларускай сталіцы дабра і росквіту. Да ўдзелу запрасілі ўсіх жадаючых, незалежна ад узросту, нацыянальнасці і краіны пражывання, а таксама майстроў і творчыя калектывы лапікавага шыцця. Майстры стваралі лапікавыя міні-вырабы памерам 40 на 40 сантыметраў і злучалі іх у вялікія палотны. На працягу года, пакуль доўжыўся праект, атрымалі дзесяць мастацкіх палотнаў памерам 2х1,4 метра. Гараджане і госці сталіцы змаглі ацаніць маляўнічасць і мастацкасць гэтых работ падчас святкавання Дня горада Мінска.

Ініцыятарамі новага лапікавага руху ў Мінску выступілі Святлана і Юрый Платуновы, Валянціна Жыткевіч. Каардынатар праекта — Таццяна Кузняцова, мастацкі кіраўнік і кансультант — Вольга Матусевіч.

— Майстры лапікавай мазаікі ствараюць самыя розныя творы, якія потым збіраюцца ў адно прыгожае пано, — распавёў старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута. — Прыемна, што ў экспазіцыі прадстаўлена большасць работ беларускіх майстроў. Адчуваецца дух Беларусі, нашы традыцыі, павер'і, старажытная сімволіка, якая ярка праявілася ў народна-мастацкім тэкстылі. Між іншым, калі ў працэсе стварэння незвычайных работ удзельнічаюць не толькі беларускія майстры, але і замежныя, то атрымоўваюцца арыгінальныя творы калектыўнага характару. Такім чынам усталёўваецца своеасаблівы творчы мост сяброўства паміж народамі.

Пра сваё захапленне лапікавым шыццём распавяла майстар Іна Салавянчык:

— Займаюся ў студыі пры Палацы чыгуначнікаў, дзе мы і выстаўляем свае творы. Кіраўнік студыі Валянціна Жыткевіч праводзіць майстар-класы, каб прыцягнуць да гэтага рамяства як мага больш людзей, зацікавіць іх менавіта лапікавым мастацтвам. У сваёй рабоце "Прывітанне з Палесся" я адлюстравала буслa як сімвал Беларусі. Фонам для карціны паслужыла мешкавіна. А яшчэ выкарыстала паркаль і карункі.

Сакрэтамі шыцця падзялілася і Таццяна Кузняцова. Яе работа "Нябеснае трапятанне славянскіх палёў", якая дэманстравалася на выстаўцы, выйшла ў фінал Маскоўскага міжнароднага конкурсу "Падарожжа ў часе".

— Маёй унучцы шэсць гадоў, а маёй вясельнай сукенцы, якая ўтварае фон твора, — трыццаць шэсць, — заўважыла майстар. — Думаю, што сукенка-абярэг стане сямейнай рэліквіяй.

Падчас адкрыцця выстаўкі майстры атрымалі дыпломы за ўдзел у праекце "Мінскае палатно-покрыва".



Фрагмент "Мінскага палатна-покрыва".

## З глыбінкі

### ПРАЦЯГ ТРАДЫЦЫЙ

Слаўная літаратурнымі традыцыямі капыльская зямля. Шмат якія знакамітыя пісьменнікі адсюль родам. Сярод іх і класік яўрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорым, што нарадзіўся ў Капылі. У вёсцы Слабада-Кучынка нарадзіўся паэт, празаік, крытык Адам Бабарэка, які быў адным з заснавальнікаў літаб'яднання "Маладняк", а потым сакратаром "Узвышша". Дый іншыя знакамітыя людзі родам адсюль. У гэтым можна ўпэўніцца, наведаўшы музей Слабада-Кучынскай сярэдняй школы.

Са знаёмства з яго экспазіцыяй і пачалася работа семінара "Літаратурная Капыльшчына: мінулае і сучаснасць", арганізатарамі якога выступілі Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі, Прадстаўніцтва Deutscher Volks-hochschül-Verband e. V." (Федэратыўная Рэспубліка Германія) у Рэспубліцы Беларусь і сама школа. Сярод удзельнікаў семінара былі пісьменнікі-землякі Леаніда Падвойская, Алесь Марціновіч і мясцовыя паэты.

Музей у школе створаны дзякуючы намаганням апантанага краязнаўцы Барыса Дзенісюка, намесніка дырэктара па вучэбнай і выхаваўчай рабоце. Пад яго кіраўніцтвам дзеці збіраюць матэрыялы пра сваіх землякоў, актыўна займаюцца пошукавай работай.

Падчас семінара адбылася прэзентацыя кніг Л. Падвойскай "Максим" і "Алёна", якія з'яўляюцца першымі двума раманамі яе трылогіі "Предтечи зверя". У яе творах спалучаны фэнтэзі і дэтэктыў (апошняе паўплывала на тое, што кнігі з'явіліся ў серыі "Современный детектив", якую Саюз пісьменнікаў Беларусі выпускае сумесна з выдавецтвам "Харвест"), фантастыка і трылер, містыка і драма. На гэта звярнуў увагу А. Марціновіч. Заўважыў ён і тое, што Л. Падвойская псіхалагічна глыбока пранікае ў лёсы сваіх персанажаў.

З вялікай цікаўнасцю слухалі прысутныя выступленне самой Леаніды Іванаўны, якая расказала, як прыйшла ў літаратуру, як узнікла задума трылогіі, падзялілася творчымі планамі. А таксама падарыла свае кнігі школе.

**Арцём ЯКУШАЎ,**
**Капыльскі раён**

### АБРАННІК ПАЛЕССЯ

У Мазырскай гарадской бібліятэцы — філіяле № 12 адбыўся літаратурны круіз "Ты Мазыр — мой Парнас каля Прыпяці мілай…", прымеркаваны да 75-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Верамейчыка — беларускага пісьменніка, настаўніка.

Разам з гімназістамі ў віртуальнае падарожжа выправілася і Галіна Дашкевіч, кандыдат філалагічных навук, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Галіна Мікалаеўна ўспамінала пра тыя дні, калі яна пазнаёмілася з Уладзімірам Верамейчыкам. Распавядала пра яго паэму "Ліхаўня", прысвечаную памяці маці, Соф'і Данілаўны Збароўскай. Сама паэма дакументальная, паэт не змяніў ніводнага імя герояў. Творчая спадчына Уладзіміра Верамейчыка надзвычай багатая: лірыка, проза, публіцыстыка, сатыра і гумар — усё ёсць у яго 11 кнігах.

Натхнёная творамі пра Мазыр, Прыпяць, палешукоў, верш "Палесся абраннік" Галіна Мікалаеўна прысвяціла Уладзіміру Верамейчыку.

**Ганна БУЛАШ,**
**г. Мазыр**

## Афарызм

*Мілыя паэты! Дазвольце выказаць вам спачуванне... і пасведчыць перад усім светам, што вы — вялікія пакутнікі на зямлі.*

**Якуб КОЛАС**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2717.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 01.11.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 4969

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12